Не было ў нашай краіне абыякавых пасля трагедыі ў Арменіі. У першыя ж дні пералічылі на рахунак 700412 пяцьдзесят тысяч рублёў тэкстыльшчыкі Баранавіцкага бавоўнянага аб'яднання імя Ленінскага камсамола. А ў студзені яны прынялі ў свой санаторый-прафілакторый сорак жыхароў з Арменіі. Розныя людзі, і ў кожнага — свой лёс, свой боль...

Ужо колькі, здаецца, часу прайшло, а Арамаіс Айвазян не знаходзіць сабе месца. Душа яго, думкі яго імкнуцца туды, да роднага дому ў Спітаку, да невялікага грудка зямлі на вялікіх могілках, дзе пахаваны яго чатырнаццацігадовы сын. Усе, хто побач з Арамаісам Паргевавічам, як могуць супакойваюць яго. Жыццё ж працягваецца. Хоць і цяжка параненая, але жывою засталася жонка, здаровыя дзве дачкі. Вось толькі...

Папрасіў дзесяцігадовую Арэвік сфатаграфавацца, узяла ляльку, глянула ў аб'ектыў — і нейкая бездань, недзіцячае разуменне сутнасці таго, што адбылося, разанула мяне па сэрцы. Толькі сем чалавек засталіся жывымі з іх трэцяга класа...

Хачатур Аруцюнян працаваў майстрам на Ленінаканскай панчошнай фабрыцы. Падземныя штуршкі адчуў каля ліфта. Жалезабетонная бэлька рухнула на плечы, прыціснула да падлогі. Яшчэ б колькі сантыметраў, і... Выратавалі сябры з брыгады. Пералом хрыбетніка, уся верхняя палова цела пад гіпсавым панцырам. Але, па заключэнню ўрачоў, праз пэўны час будзе зноў здаровы. Разам з ім прыехалі ў Баранавічы жонка Аліна Пятросаўна і дзеці Сярожа і Самвел.

У суседнім пакоі размясцілася і сям'я Сцяпана Сцепаняна, таксама з Ленінакана. Жонка, двое дзяцей. Маленькая Асмік, вядома ж, яшчэ нічога не разумее. Яна нарадзілася перад самым землетрасеннем...

Тлумна, шумна на паверхах санаторыя-прафілакторыя. Новае месцажыхарства даспадобы прыйшлося ўсім. Найперш таму, што адчулі цеплыню, сардэчнасць работнікаў аб'яднання, санаторыя-прафілакторыя, жыхароў горада. Усіх, хто прыехаў, старанна абследавалі ўрачы, назначылі, каму патрэбна, лячэнне. Экскурсіі, знаёмства з прадпрыемствам, культпаходы на канцэрты, у кіно — тут імкнуцца стварыць такія ўмовы, каб людзі менш думалі пра сваё гора, каб актыўна ўключаліся ў жыццё. Дарэчы, некаторыя з іх выказалі пажаданне застацца назаўсёды ў Баранавічах, жыць тут і працаваць.

Асабліва шмат новых сяброў у дзяцей. І ў дзіцячым садзіку № 41, лепшым у горадзе, дзе іх выхавацелька — Святлана Паўлаўна Лагодзіч, і ў школе № 15, дзе ўрокі на армянскай мове вядзе настаўніца з Ленінакана Сусана Акопаўна Манучан. Некаторыя вучні нават свае падручнікі прывезлі, каб ад праграмы не адстаць.

Праблемы? Напэўна ж, яны ёсць і будуць. Галоўнае, што ў Баранавічах імкнуцца вырашаць іх разам, на карысць усім. Каб кожны, хто прыехаў, сэрцам адчуў: боль армянскага народа — і наш боль. І радасць, поспехі, якія таксама, несумненна, будуць,— нашы, агульныя!

**Дзмітрый ЛУПАЧ,**
**спецыяльны карэспандэнт «Беларусі».**

**Фота аўтара.**

- Часта ўспамінае сына Арамаіс Айвазян.
- Ля санаторыя-прафілакторыя.
- У вочы Арэвік зазірнула смерць.
- Як сябе адчуваюць армянскія дзеці ў школе, найлепш гаворыць гэтая сцэнка на перапынку.
- Галоўны ўрач санаторыя-прафілакторыя Юрый Паўлавіч Карпік рады дапамагчы гасцям.

# ЛЕЧЫЦЬ МІЛАСЭРНАСЦЬ



Ёсць легенда: адзін імператар, баючыся, каб не атруцілі ворагі, пачаў сам сябе прывучаць да атруты. Ён піў яд невялікімі дозамі. І што ж? Гісторыкі кажуць, прывучыў... Сёння ў ролі імператара апынуліся простыя людзі — штодзень яны ўжываюць яд разам з харчамі. Не кажучы ўжо, што і дыхаюць атручаным паветрам. Хоць, праўда, невядома, у імя якой мэты. Пазбаўленне ўлады і багацця, як таму імператару, ім не пагражае.

І ўсё ж паступленне ядавітых рэчываў на харчовы стол разам з прадуктамі не магло не выклікаць трывогі людзей. З пашырэннем галоснасці пра гэта пачалі гаварыць у поўны голас, пісаць у газетах. Гэтае пытанне было вынесена ў цэнтр увагі і прадстаўнічых нарад, што адбыліся апошнім часам у рэспубліцы: пасяджэння праблемнага навуковага савета пры Дзяржаграпроме БССР і Акадэміі навук БССР, у якім прынялі ўдзел вышэйшыя партыйныя і ўрадавыя кіраўнікі рэспублікі, «круглага стала» ў Саюзе пісьменнікаў БССР з шырокім кампетэнтным колам удзельнікаў і іншых.

На нарадах, у прэсе адзначалася: пакуль што з чалавекам з-за ядахімікатаў надзвычайнага здарэння не адбылося, паднімаць паніку не варта. Затое вастрыню становішча, у якое трапілі «браты нашы меншыя», дзікая прырода, ніякім аптымістам аказалася не пад сілу прытуліць. Тут факты гавораць самі за сябе. Выкраслена са спіса жыхароў нашай рэспублікі 15 назваў жывёльнага свету. Поўнасцю сцёрты з твару зямлі 50 прадстаўнікоў нашай багатай, непаўторнай флоры.

Дамоклаў меч занесены над тымі, хто ўцалеў. На грані поўнага вынішчэння ў рэспубліцы апынулася каля 70 відаў жывёл і сярод іх жывая душа жытнёвага поля, апетая ў народных песнях,— галасістая перапёлка, чароўная прыгажуня, пастаянная жыхарка ўсіх азёр і рэк дзікая качка, шэры «вушасцік», удзельнік самых вясёлых паляўнічых здарэнняў і дзіцячых прыгод заяц-русак і многія іншыя. Тая ж самая пагроза навісла над занесенымі ў Чырвоную кнігу Беларусі 85 відамі раслін.

Яшчэ нядаўна на трывожныя пытанні людзей аб прычынах масавай гібелі рыбы ў вадасховішчах спецыялісты адказвалі неакрэслена — недахоп паветра, дрэнныя прыродныя ўмовы. А цяпер мы ведаем: суседнія гаспадаркі рассыпаюць мінеральныя ўгнаенні па палях, дажджы іх змываюць у рэкі і вадасховішчы, такім чынам берагі пакрываюцца залатымі, казачнымі рыбкамі. Ні для кога не сакрэт, чым выклікана абвастрэнне праблем пчалярства: крылатыя апыляльнікі кветак, чыя працавітасць стала ўзорам для чалавека, не прыстасаваліся да ўжывання ядахімікатаў, якімі апыляюць пасевы сучасныя надта руплівыя гаспадары.

Людзям добра вядомае і паданне пра клапатлівага Ноя, які нават у цяжкія дні патопу не забыўся ўратаваць усякай пачвары па пары. А вось як зразумець, чаму мы ў пару шчаслівага і раднаснага жыцця, паставіўшы сабе на службу атам, электрон, амаль усе сілы прыроды, не ў стане забяспечыць умовы для існавання «братоў, сваіх меншых», раслін, насякомых? Адшукаць разумнае апраўданне гэтаму немагчыма.

Але, не знайшоўшы адказу на гэтае пытанне, мы не зможам разабрацца і ў той небяспецы, якая пагражае нам самім. Тым больш што тут ва ўдзельнікаў абмеркавання адзінства не было.

З аднаго боку, калі праблема ставілася ў агульным плане: барацьба за выжыванне чалавецтва і як адзін з накірункаў — выратаванне яго ад самаатручвання — галоўная задача, роўная барацьбе за мір,— усе згаджаліся. Ды і як можна спрачацца. Пра гэта гавораць сёння ўсе палітыкі, вучоныя, грамадскія дзеячы. А вось як толькі размовы пачыналіся пра канкрэтныя задачы, пра небяспечныя вынікі работы аграрнікаў у рэспубліцы ці ў тым або іншым раёне, адразу ўзнікалі разыходжанні ў меркаваннях.

Адказныя кіраўнікі не скупіліся на запэўніванні. За кошт мінеральных угнаенняў атрымана 45 працэнтаў ураджаю збожжа, амаль стольківж лёну, трэцяя частка бульбы. Уражвае? Ну як жа! Ёсць канкрэтныя даныя і па якасці глебы. За дзвццаць гадоў утрыманне ў ёй гумусу, найбольш каштоўнага арганічнага рэчыва, павялічылася. Так што, перш чым ахайваць «мінералку», трэба добра падумаць.

Сапраўды, недахопы ў яе выкарыстанні ёсць. Гэта і самі аграрнікі прызнаюць. Але меры па выпраўленні хібаў прыняты. Іх падрабязна пералічвалі і на нарадах, і ў шырокім друку. Там усё прадугледжана — і паляпшэнне тэхнікі па ўнясенні хімікатаў, і падрыхтоўка кадраў, і ўдасканаленне сродкаў хімізацыі. Не абыдзены і кантроль прадуктаў. Так, для ацэнкі якасці бульбы, гародніны і кармавых культур Дзяржаграпром рэспублікі стварыў у 1986 годзе сетку раённых аграхімічных лабараторый, падрыхтаваў адпаведных спецыялістаў. Утрыманне нітратаў у прадуктах кантралюе Дзяржінспекцыя па якасці і стандартызацыі, а таксама санітарна-эпідэміялагічная служба. Здаецца, што яшчэ трэба. Нашто бударажыць людзей размовамі пра нітраты, пестыцыды, нейкія атручванні.

Вынаходлівыя аграрнікі не хочуць заўважаць страшэннай супярэчлівасці ў сваёй пазіцыі: калі вярхі гавораць аб выратаванні людзей ад самаатручвання, то не могуць не даваць для гэтага падстаў самыя нізы грамадства. І ў такім выпадку ўжо немагчыма хаваць галаву пад крыло, як страус. Людзі нездарма б'юць у званы сумлення. Небяспека навісае над усімі намі, яна пранікае ў нашы кватэры з кожным чырванабокім яблыкам, румяным піражком, бутэлькай малака.

**ІНШАЯ СПРАВА, ШТО МЫ** пра гэтую небяспеку доўгія гады нічога не ведалі. І таму ўзнікае пытанне: а чаму? Ці не таму, што некаму не хацелася падзяліцца з намі сваімі ведамі пра наша здароўе. Нездарма кажуць: інфармацыя — гэта ўлада. У гэтай ісціне, пэўна, і хаваецца адказ на пытанне, пастаўленае ў самым пачатку нататкаў, аб прычыне нашага вымушанага падабенства з палахлівым імператарам. У штучным супакойванні няўрымслівых апанентаў, замоўчванні недахопаў відаць адгалосак старой пазіцыі ўладароў інфармацыі.

Аптымістычныя запэўніванні гаспадарнікаў абвяргаюцца і простым супрацьпастаўленнем фактаў. Сістэма кантролю прадуктаў створана, але ж яна не дзейнічае. Пра гэта гаварылі дасведчаныя асобы. Ды і ў газетах пішуць. Сертыфікаты якасці як не запаўняліся, так і не запаўняюцца. А навучаная Чарнобылем санітарная служба Кіева, якая першая ў краіне наклала арышт на неправераную сыравіну, атрымала магутны контрудар — «пацярпеўшыя» гаспадаркі наогул адмовіліся пастаўляць у горад сваю прадукцыю. Высокія ж кіраўнікі, быццам яны нічога не ведаюць пра такія з'явы, працягваюць публічна спасылацца на пастанову аб стварэнні лабараторый у кожным калгасе і саўгасе.

Тое ж самае можна сказаць і пра іншыя аўтарытэтныя рашэнні. На высокай нарадзе было аб'яўлена аб забароне Дзяржаграпромам БССР уносіць пад бульбу і гародніну аміячную ваду і бязводны аміяк. Цяпер, казалі гаспадарнікі, бывайце, нітраты, галоўная дарога вам на сталы спажыўцоў перакрыта. Аднак і пасля таго ў слухачоў не павесялелі твары. Бо многія ведалі, і пра гэта гаварылі ўголас: забарона парушаецца, у гаспадарках насуперак усялякім інструкцыям аміячную ваду льюць туды, куды ўздумаюць механізатары, «мінералку» ўносяць «паласатым» метадам, нярэдка нават па снезе. Магу сам пацвердзіць. На аўтобусным прыпынку Новая вёска, недалёка ад Мінска, мінулай вясной зусім незнаёмыя людзі паказалі мне на трактар з прычэпленай ззаду бочкай, які крыху воддаль ад нас выязджаў на шашу, і расказалі з абурэннем:

— Бачыце, як робяць? Адкрыў шланг, праехаў па полі і да пабачэння! А што там вырасце, нікога не цікавіць...

Праз поле цягнуўся цёмны след ад вылітай вадкасці. На некалькі дзён пазней трактарысты саўгаса імя Ульянава працавалі там з плугамі і бульбасаджалкамі. А ў хуткім часе паявіліся ўсходы. Аднак на іх ужо амаль што не бый відаць след механізатарскага браканьерства. Яго выявяць толькі страўнікі гараджан, якія купяць бульбу з таго поля.

Такіх выпадкаў можна было б прыводзіць процьму. Таму тыя, хто ведае рэальнае становішча спраў, не рабілі ўпор на адміністрацыйна-забаронныя меры. Яны прапаноўвалі звярнуцца да эканамічнага рычага: хай сам рубель заахвочвае даваць дабраякасныя прадукты. А вось нак прыхільнікі «вала» не спяшаюцца здаваць свае пазіцыі.

Іх козыр вядомы: глядзіце, якую прыбаўку далі хімікаты — 40, 30 працэнтаў! Гэта ж мільёны тон! Вось ён — яго вялікасць «вал». Нават не вялікасць — праасвяшчэнства. Паспрабуй нехта пагалядзець на яго коса! І ўсё ж сёння «валавыя» святыні пачынаюць бляктуць. Самі спецыялісты заводзілі размову пра «мыльную прадукцыю», атрутныя нітраты, зніжэнне якасці прадуктаў. Адваротны бок «вала» раскрываюць медыкі.

Яны сведчаць: штогод памірае ў свеце ад гербіцыдаў да 50 тысяч чалавек, а атручваецца імі 2 мільёны. Звестак пра нашу краіну няма

## НАДЗЁННАЯ ПРАБЛЕМА

# перасол



ніякіх, затое добра вядома, што тут з 400 прэпаратаў, якія прымяняюць аграрнікі, кантралюецца на ўтрыманне ў навакольным асяроддзі толькі 30. На астатнія ніхто не звяртае ніякай увагі. Можа, нашы хімікаты меней шкодныя, чым за мяжой?

Па дадзеных спецыялістаў (зноў жа з іншых краін), існуе прамая сувязь паміж колькасцю нітратаў у глебе, а таксама ў вадзе, і смяротнасцю людзей ад ракавых захворванняў. Нашы анколагі на сваёй апошняй усесаюзнай нарадзе прызналі (адзінае аўтарытэтнае прызнанне!): шкоднае ўздзеянне мінеральных угнаенняў на здароўе людзей ніхто з іх не вывучаў. Але ж размовы пра гэтую небяспеку ходзяць даўно. Дзіўна толькі, чаму служба аховы здароўя заставалася безуважнай да адной з асноўных прычын страшнага захворвання.

Ёсць дадзеныя і пра тое, як «вітаміны зямлі» выклікаюць іншыя хваробы ў людзей, а таксама жывёлы. Яны зніжаюць і якасць прадуктаў: у збожжы змяншаецца колькасць бялкоў, клейкавіны, у бульбе — крухмалу, затое накопліваюцца шкодныя рэчывы. Нездарма за мяжой прадукты, атрыманыя без прымянення хімікатаў, прадаюцца даражэй у два разы, чым тыя, што выраслі на «мінералцы». У нашай краіне да гэтага не дайшлі, хоць працоўны пераняць добры прыклад выказваюцца многімі. Ці не зноў сказваецца той жа падыход: савецкія нітраты самыя карысныя ў свеце...

Праўда, апошнім часам чуюцца і ў нас цвярозыя галасы. Яны папярэджваюць людзей аб страшэннай небяспецы, якую нясуць з сабой перанасычаныя таксінамі прадукты. І не толькі прадукты. Нават празрыстая калодзежная вада становіцца небяспечнай для здароўя людзей. Праверкі паказалі, што ў Добрушскім, Рагачоўскім, Лельчыцкім і іншых раёнах да 70 працэнтаў вады ўтрымлівае нітратаў у 2—3 разы болей за норму. Вось у якім становішчы апынуліся людзі ў шэрагу раёнаў. Хлеб і вада даюць ім не здароўе і сілу, як было здаўна, а хваробы і немач. І сам селянін там з карміцеля насельніцтва ператвараўся ў чэхаўскага зламысніка, які сам не ведае, што творыць.

**ЗАКАНАМЕРНА ТАМУ ВЫКАЗВАЮЦЦА** меркаванні: а ці не адмовіцца нам наогул ад усялякай хіміі, ці не вярнуцца назад да земляробства продкаў? Той-сёй рашуча пратэстуе: гэта абывацельшчына, ігнараванне дасягненняў прагрэсу! Але па ўсім відаць — сёння навешванне ярлыкоў, агульныя абвінавачванні не даюць ужо выніку. Ці за ўсе дасягненні веку мы павінны трымацца дзвюма рукамі? Перадавыя людзі рашуча паўсталі супраць аднаго з найвялікшых адкрыццяў нашага часу — ядзернай зброі. І гэта дзікунства, абывацельшчына? Нямала прыхільнікаў прагрэсу, уключаючы, безумоўна, і саміх работнікаў аграпрома, адмаўляюцца ад утульных лімузінаў і крочаць на службу і са службы пехатой — дзеля ўмацавання здароўя. Некаторыя з іх, упэўнены, нават трушком па парку робяць прабежкі. Дык ці ўсё, што прыйшло да нас праз вякі, можна назваць дзікунствам?

Пра земляробства, заснаванае на народным вопыце, пра гаспадаркі, дзе адмовіліся ад хіміі, палка і перакануча гавораць апошнім часам многія спецыялісты, вучоныя, літаратары.

Гарачымі апладысментамі, напрыклад, сустрэлі дэлегаты XIX Усесаюзнай партканферэнцыі словы старшыні чувашскага калгаса «Ленінская іскра» А. П. Айдака ў падтрымку безгербіцыднай тэхналогіі. «Укараненне глебаахоўнай сістэмы земляробства,— сказаў ён з высокай трыбуны,— і правядзенне іншых прыродаахоўных мерапрыемстваў дазволілі без прымянення ўжо на працягу 9 гадоў ядахімікатаў і гербіцыдаў атрымліваць стабільныя ўраджаі збожжа — 34—35 цэнтнераў з гектара і стварыць добрую кармавую базу».

У гэтай гаспадарцы дзейнічае цэлая праграма па ахове зямлі, дзікай жывёлы, птушак, насякомых. Толькі за тое, што селянін разводзіць пчол, калгас плаціць яму 10 рублёў за вулей. А калі вуллі будуць перавезены ў поле, за кожны з іх выдаецца яшчэ па дзясяцігы даплаты. Зменены даўні парадак працы тэхнікі: механізатары так водзяць машыны, каб не трапляла пад колы маладая жывёла, не псавалася глеба. Гаспадарка пераадольвае спажывецкія адносіны да прыроды, наладжвае экалагічна чыстую вытворчасць.

А такіх прыкладаў можна прывесці нямала. У шэрагу гаспадарак Краснадарскага краю вырошчваюць рыс без дапамогі пестыцыдаў. Там жа стварылі безгербіцыдную тэхналогію для кукурузы. Даўно абыходзіцца без хіміі ў сваёй практыцы вядомы ўсёй краіне «народны акадэмік» Цярэнцій Сямёнавіч Мальцаў.

Ды і ў нашай рэспубліцы нямала ёсць аматараў экалагічна чыстай вытворчасці. Адмовіўся ад хімікатаў калгас «Аснежыцкі» Пінскага раёна. Пераходзяць да без'ядахімічнай тэхналогіі ў калгасе «Радзіма» Мазырскага раёна і іншых. Але гэта толькі першыя крокі.

У развітых краінах такія пошукі шырока вядуцца ўжо даўно. У ЗША, ФРГ, Швецыі скарачаюцца плошчы зямель, якія апрацоўваюцца пестыцыдамі. У Інданезіі адмаўленне ад хімічных спосабаў аховы раслін або іх рэзкае абмежаванне стала дзяржаўнай палітыкай.

Як жа ставіцца аграрная навука, спецыялісты сельскай гаспадаркі да гэтага цікавага практычнага вопыту? Апошнія нарады і пасяджэнні на высокім узроўні сведчаць: дасягненні пiянераў біялагічна чыстых тэхналогій пакуль не зацікавілі аграрнікаў. Перадавы вопыт не абагульняецца, з ім да гэтага часу не хочуць лічыцца, «хімікатчыкі», як называюць практыкі прыхільнікаў хімічных метадаў работы, валодаюць манапольным правам у сельскай гаспадарцы. З парога адмятаюцца імі ўсялякія прапановы і аб масавым выпуску індыкатараў па вызначэнні нітратаў у харчовых прадуктах, і аб удзеле насельніцтва ў кантролі за якасцю сельскагаспадарчай прадукцыі, і нават самі размовы аб гэтым, экалагічная галоснасць выклікае ў іх страшнае абурэнне.

Між тым аматары біялагічна чыстых тэхналогій выпрацавалі ўжо надзейныя метады земляробства. Гэта і вывядзенне ўстойлівых да хвароб і шкоднікаў новых гатункаў (у рэспубліцы апошнім часам пашырыліся такія гатункі бульбы, якія не баяцца рака і нематоды). Гэта і паляпшэнне агратэхнікі — у калгасе «Зара камунізму» Іванаўскага раёна пырнік вывелі звычайнымі баронамі, поўнасцю адмовіўшыся ад пестыцыдаў. Гэта і ўкараненне біялагічных сродкаў аховы раслін — выкарыстанне карысных насякомых, грыбоў, бактэрый. Паказальна, што названы спосаб упершыню ўзнік у нашай краіне, але шырокай падтрымкі тут не знайшоў. Затое ў заходніх краінах ім карыстаюцца актыўна. Як бачна, супрацьпаставіць «хімікатчыкам» ёсць што. Варта толькі пасапраўднаму ўзяцца за працу.

Галоўнае ж пытанне: каму ўзяцца? Кадры да вырашэння пастаўленай задачы не падрыхтаваны. Большасць спецыялістаў працуе з ядахімікатамі, не ўяўляючы, якую вялікую шкоду яны нясуць. У аднаго агранома запыталі: «Што такое нітраты?». Ён пацісную плячамі: «Хто яго ведае. Яд нейкі...». Адказныя кіраўнікі прызнаваліся: ды мы яшчэ нядаўна самі клалі побач і хлеб, і пакеты з дустам. А як рабілі «уколы» ў глебу супраць рака бульбы: націскаеш нагой на шпрыц — хлорпікрын табе прама ў твар. А гэта ж ядавітае рэчыва, што ў першую сусветную вайну прымянялася на фронце.

Нават пра небяспеку, якая пагражае ім самім, працаўнікі поля не ведаюць. Ды адкуль ведаць... Як паведаміў на праблемным савеце рэктар Горацкай сельгасакадэміі, на вывучэнне экалогіі тут адведзена толькі 40 гадзін. Дык ці можна здзіўляцца, што некаторыя кіруючыя асобы аддаюць загады разворваць поймы рэк да самага берага, сеяць прапашныя на тарфяніках, знішчаць па ўсёй рэспубліцы лесапалосы ўсцяж дарог — адзіную перашкоду для выхлапных газаў (за мяжой паблізу ад ажыўленых аўтамагістраляў наогул нічога не сеюць, бо ўсё забруджваецца шкоднымі рэчывамі).

Пра элементарную экалагічную недасведчанасць насельніцтва ў рэспубліцы і казаць няма чаго. Самі вучоныя, дзякуючы праблемнаму навуковаму савету, упершыню, як было адзначана, змаглі атрымаць цэласны малюнак прыродаахоўнай абстаноўкі. Вось чаму прызнана неабходным прыняць канкрэтныя нарматыўныя дакументы па прымяненні ядахімікатаў, пашырыць падрыхтоўку адпаведных спецыялістаў у навучальных установах, а для насельніцтва выдаць серыю папулярных брашур. Вядома, сваю карысць прынясуць і публікацыі ў друку.

У народа ёсць прымаўка: недасол на стале, перасол на спіне. Так выказвае ён свае адносіны да выкарыстання самага распаўсюджанага, даўно вядомага хімічнага рэчыва — солі. Несумненна, гэтая народная мудрасць падыдзе і да выкарыстання тых рэчываў, што ўведзены ва ўжытак нядаўна. Так што, ведаючы аб празмерным захапленні адказных кіраўнікоў аграпрома хімізацыяй сельскай гаспадаркі і шкодзе для здароўя, якую яна нясе з сабой, можна з поўным правам аднесці да іх другую частку трапнага народнага выразу.




**Анатоль СІЛЯНКОЎ.**
**Фота Самуіла ЛЕВІХА.**



# ІТАЛЬЯНЦЫ ПАД МІНСКАМ

**У маі 1985 года быў падпісаны кантракт з італьянскай фірмай «Когала» на будаўніцтва пад Мінскам у пасёлку Гатава гарбарнага завода. За тры гады (як і было дамоўлена) завод быў пабудаваны. А сёння ён ужо выдае першую прадукцыю — выдатную скуру для жаночага і мужчынскага абутку.**
**Завод-прыгажун увабраў у сябе плён савецка-італьянскага супрацоўніцтва, плён міжнароднай рабочай салідарнасці. Месяц май стаў месяцам нараджэння завода.**
**Напярэдадні першамайскіх свят нашы няштатныя карэспандэнты пабывалі ў Гатаве.**

Першым, каго яны сустрэлі, быў галоўны тэхнолаг Джульяна дэль Б'янка. І задалі яму некалькі пытанняў.

— У чым і дзеля чаго, на мой погляд, мы павінны супрацоўнічаць? — перапытвае сіньёр Джульяна Б'янка.— Ну як жа... Працоўныя розных краін, розных нацыянальнасцей хочуць і павінны скіроўваць свае сумесныя намаганні ў барацьбе за мір і шчасце. Мір трэба захоўваць, шчасце — здабываць, будаваць сваімі рукамі. Кожны чалавек марыць заўтра жыць лепш, чым жыве сёння, праўда? А дзеля гэтага варта добра працаваць. Трэба сябраваць!

Італьянскі тэхнолаг Б'янка ўжо не першы раз сустрэў Першамай у Савецкім Саюзе: дзесяць гадоў назад ён прымаў удзел у будаўніцтве Курскага гарбарнага завода. А цяпер... А цяпер вось працуе тут, у Гатаве, зусім непадалёку ад сталіцы нашай рэспублікі.

Узаемны абмен тэхналогіямі, найноўшымі распрацоўкамі, спецыялістамі заўсёды збліжае краіны, дае магчымасць людзям набыць добрых сяброў за мяжой.

У якасці прыкладу інтэрнацыянальнай дапамогі краінам, якія сталі на шлях самастойнага развіцця, мы гаворым сёння аб дзейнасці савецкіх урачоў, будаўнікоў і інжынераў у краінах Афрыкі, Азіі, Лацінскай Амерыкі... Але ці не з такім жа імпэтам і стараннем працуюць цяпер у СССР замежныя спецыялісты? І хіба мы не маем гэткай жа вострай патрэбы ў іхняй дапамозе? Рытарычныя пытанні.

Сіньёр Луіджы Корсі, адзін з замежных спецыялістаў, з якімі мы пазнаёміліся ў час падрыхтоўкі гэтага рэпартажу, адказвае за наладку тэхналагічнага абсталявання. Ён расказаў:

— У Мінску я ўжо тры гады. Адчуваю сябе тут, як дома, у Італіі. З савецкімі рабочымі пасябраваў, з вашымі спецыялістамі заўсёды знаходжу агульную мову.

Яго падтрымаў Флавія Дэана, інжынер-праграміст, які ўсяго 4 месяцы працуе на заводзе ў Гатаве.

Так, на заводзе пануюць узаемная сімпатыя і павага. Словы «дружба», «супрацоўніцтва» мы ўвесь час чулі і ад савецкіх, і ад італьянскіх спецыялістаў. Аб гэтым мне гаварыў і сіньёр Джузепе Гаэтані — намеснік прадстаўніка генеральнага падрадчыка Маура Ланцоні, які шчыра радуецца, што дзякуючы гэтай будоўлі сувязі паміж Італіяй і СССР стануць больш моцнымі.

У размове з намі галоўны інжынер гарбарнага завода ў Гатаве Вячаслаў Дзмітрыевіч Цакаленка як бы падвёў вынік нашых гутарак з італьянскімі спецыялістамі.

— Увогуле мы задаволены супрацоўніцтвам з нашымі калегамі з Італіі. Яны ў патрэбны тэрмін з добрай якасцю пабудавалі высокааўтаматызаванае і механізаванае прадпрыемства, якое выпускае скуры на ўзроўні сусветных стандартаў. Хутка завод будзе стабільна працаваць. Выйдзе на 25—30 працэнтаў вытворчых магчымасцей.

**Іосіф ЕСАКОЎ,**
**Віталь БАРЗДЫКА (фота).**

**● Сартавальніца гатовай прадукцыі камсамолка Наталля Кулікоўская.**
**● У фарбавальна-сушыльным цэху.**
**● На ўчастку сартавання скур. Тэхнолаг Паола Заніні (справа) вучыць нашых работніц.**
**● Адміністрацыйны корпус гарбарнага завода ў Гатаве.**
**● За тэхналагічнымі працэсамі сочаць і кантралююць іх ЭВМ.**
**● Сяброўскі поціск рук. Галоўны інжынер завода В. Д. Цакаленка і кіраўнік замежнай фірмы па мантажу электраабсталявання сіньёр Мантавані.**

**ФОТАНАРЫС**











# Перапіска

## ІЛЬГОТЫ ДЛЯ «ДЗЯЦЕЙ ВАЙНЫ»!

На Рэспубліканскім арганізацыйным злёце саюза «Дзеці вайны», які праходзіў у Мінску, адзначалася, што самыя юныя (не старэй як 1927 года нараджэння) сведкі і ахвяры Айчыннай вайны, якія нацярпеліся ў вайну не менш за дарослых, ніколі асаблівымі льготамі не карысталіся. І калі, напрыклад, дзецям Арменіі, якія пацярпелі ад землетрасення, адразу прыйшла на дапамогу ўся краіна, то для беларускіх дзяцей вайны, якія аказаліся ў падобнай бядзе з-за пажараў і бамбёжак у чэрвені 1941 года, такая сітуацыя была толькі пачаткам страшэннага гора.

Многія дзеці вайны (асабліва жанчыны) ужо даўно пенсіянеры. У рашэннях злёту дзяцей вайны адзначана, што і яны варты, урэшце, таго, каб мець ільготы, якімі ветэраны вайны карыстаюцца многія гады. Ці будзе гэта ажыццёўлена хаця б да чэрвеня 1991 года?

**В. АСТРЫНСКІ,**
**удзельнік злёту.**

## ПРА ПАШУ, НАДОІ І КАРОЎ

Ёсць пагаворка: калі доўга і ўважліва глядзець у малако, убачыш сябе і сваіх бацькоў. Ці ведаем мы ўсё, ці надаём мы значэнне так званаму гістарычнаму вопыту нашых продкаў? Ці разумна меркаваць, што раней сяляне нічога не разумелі?

У 30-я гады, у дзяцінстве, падлеткам і ў маладосці я пасвіў кароў аднавяскоўцаў, а потым і калгасны статак. Што ж, каровы засталіся такімі, як былі, але адносіны да іх, дакладней — арганізацыя іх утрымання, вельмі змяніліся. Канечне, прагрэс усюды. Але некаторыя асаблівасці не трэба забываць.

Памятаю добра, гурты кароў былі ў той час невялікія. І не таму, што кароў было мала... Калгасны статак быў раздзелены на гурты па 50—60 галоў.

Яшчэ меншымі былі гурты кароў вяскоўцаў. І калі сяло было вялікім і кароў там адпаведна больш, то сяляне дзялілі іх на некалькі гуртоў з асобнымі пастухамі. Акрамя гэтага ў кожнага калгасніка былі авечкі па 4—5 штук.

У 1935 годзе ў нашым калгасе «Камунар» Уздзенскага раёна пад кіраўніцтвам вельмі здольнага і актыўнага камсамольца Стафана Зяньковіча пабудавалі новы кароўнік з цэглы, якую самі ж выраблялі тут. Кароўнік быў на 100 галоў. Гурт раздзялілі на тры. Пастухоў прызначала праўленне калгаса, па рэкамендацыі заатэхніка. Адным з метадаў павелічэння надояў у пашавы сезон лічылі невялікі гурт. Чаму цяпер гэта забыта?

Справа ў тым, што каровы на пашы, як вядома, не «топчуцца» на адным месцы. Статак заўсёды знаходзіцца ў руху. Але адна справа рух, таптанне 40—50 галоў, і зусім іншая справа, калі будзе 200—300 галоў. Акрамя гэтага, назіранні паказваюць, што падпарадкоўваючыся інстынкту саперніцтва, жывёла ў пагоні за кормам, знаходзячыся ў вялікім гурце, усё хутчэй рухаецца, каб дастаўся корм. Каровы больш вытапчуць траву, чым саскубуць. Акрамя таго, ёсць яшчэ адна асаблівасць гурту. Жывёла трымаецца толькі свайго гурту... А ў вялікім гурце не памятае сваіх. Каровы «чужыя», папаўшыя ў чужы гурт, многа дзён, пакуль не прывыкнуць самі, а іншыя да іх, паводзяць сябе неспакойна, трацяць надоі, бывае да палавіны. Так што, можна з упэўненасцю сцвярджаць, што невялікі гурт, прыкладна 40—50 кароў, абгрунтаваны самой прыродай жывёл.

Створаны гурт варта захоўваць многа гадоў не толькі для пашы, але і на стойлавы перыяд.

Вельмі шкада, што паводзіны жывёлы не ўлічваюць, з імі ніхто не лічыцца. Законы прыроды ў сельскай гаспадарцы трэба ведаць, як надвор'е, пра якое толькі гавораць, але ніхто з ім нічога не можа зрабіць, змяніць.

Па дадзеных Аграпрома БССР, у апошнія гады аптымальная колькасць кароў гурту адпавядае 100—200 галоў. Дзе гэта мае месца, кіраўнікі сцвярджаюць, што вялікія гурты з'яўляюцца эканоміяй па утрыманні пастухоў і не патрабуюць вялікай плошчы для пашы. Хочацца адзначыць памылковасць такой «эканоміі». Надоі малака ў меншым гурце заўсёды аказваюцца вышэй на 15—20 працэнтаў. Гэта ў шмат разоў перавышае расходы на заработную плату двух пастухоў.

Яшчэ пра адно. Прафесія пастуха незаслужана стала непапулярная. Аднак нікому не сакрэт, што ад вопыту і добрасумленнасці пастуха залежыць многае ў доглядзе жывёлы, надояў. І дарэчы, у нас нідзе спецыяльна не абучаюць гэтаму вельмі патрэбнаму рамяству. Помніцца, у 20—30-я гады і раней абы-каму не даручалі пасвіць кароў. Каб стаць пастухом, неабходна было цэлы сезон, а то і два працаваць так званым падпаскам, гэта значыць памочнікам пастуха і яго вучнем. Пастух у вёсцы быў усімі паважаным чалавекам. Ён павінен быў, як прыгоніць каровы дадому, расказаць гаспадарам пра паводзіны кароў.

Вы можаце запярэчыць, што з тых далёкіх часоў многае змянілася, маўляў, многа вады сцякло. Але трэба згадзіцца, што прырода кароў засталася той жа.

У народзе спрадвеку захавалася нямала паданняў і казак пра розум, дабрату пастуха, яго ўменне іграць на жалейцы. Паспрабуйце іграць лірычныя мелодыі каля статка, і жывёла больш спакойна пасецца, уважліва слухае, збіраецца каля пастуха. Ужо даўно вядома, што музыка — універсальны сродак па свайму ўздзеянню на ўсё жывое.

Цяпер жа ў кожнага пастуха на ўзбраенні не толькі бізун, часам з драўляным наканечнікам, але і злыя сабакі.

Сяляне могуць пацвердзіць, што карова не кожнаму чужому чалавеку аддасць малако. Гэта своеасаблівы пратэст жывёлы супраць няўмелага абыходжання, асабліва жорсткасці.

Сакрэт «здабывання» малака, самі надоі — гэта не толькі лепшыя пароды кароў, добры корм для іх зімою і ў пашавы перыяд, а і клапотныя, гаспадарчыя, чулыя адносіны да жывёлы.

**Станіслаў ШКАДЗІНСКІ,**
**ветэран працы.**

# ЧАЛАВЕЦТВА ВЫРАТУЕ КУЛЬТУРА

**НАШ ПАЗАШТАТНЫ КАРЭСПАНДЭНТ АЛЕСЬ МАРЦІНОВІЧ ГУТАРЫЦЬ СА СТАРШЫНЁЙ ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ, ЛАЎРЭАТАМ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ БССР ІВАНАМ ЧЫГРЫНАВЫМ.**

**— Пазітыўныя змены ў жыцці грамадства, як вядома, выклікалі надзвычайную грамадскую актыўнасць людзей. Бадай, не было ў нашай гісторыі яшчэ такога перыяду, каб кожны гэтак адчуваў сябе далучаным да ўсяго, што адбываецца наўкола. Дзейнасць розных нефармальных аб'яднанняў, правядзенне мітынгаў і дэманстрацый, галоснасць у абмеркаванні важных праектаў, работ, прадстаўленых на конкурсы, і г. д.— усё гэта сведчыць на карысць таго, што энергія чалавека, яго жаданне працаваць па-сапраўднаму, творча, разважаць самастойна, а не быць толькі вінцікам у асобнай, няхай сабе і важнай справе, даўно шукалі нейкага натуральнага выйсця. Раней актыўнасць была на словах, цяпер — на справе. Яшчэ нядаўна ледзь не сілком заганялі людзей на тое ці іншае мерапрыемства, цяпер пры правядзенні іх дбаюць толькі аб тым, каб знайсці найбольшую залу, якая б умясціла ўсіх жадаючых. Адсюль і стварэнне новых грамадскіх арганізацый, фондаў. Адным з першых, як вядома, і ўзнік Савецкі фонд культуры. Крыху пазней — Дзіцячы фонд імя Уладзіміра Ільіча Леніна, іншыя арганізацыі, пра значэнне якіх яскрава гаворыць колькасць жадаючых прыняць удзел у іх рабоце. Не збіраюся супрацьпастаўляць іх Фонду культуры, але ўсё ж, будзем шчырымі, Іван Гаўрылавіч, ці вылучаецца на фоне гэтых дзейсных, жывых арганізацый Савецкі фонд культуры!**

— Адказ хацелася б пачаць таксама з пытання: а што такое культура? Вось мы гаворым: культурны чалавек. Хвалімся тым, што ў нашай краіне больш, чым у якой іншай краіне, выдаецца кніг. Для прыкладу таго, як шмат чытае насельніцтва, гатовы спаслацца на так званы «кніжны бум», гаварыць пра ўсё ўзрастаючыя тыражы газет, часопісаў, кніг. Можам сказаць, што ні ў адной краіне так часта не бываюць людзі ў музеях, тэатрах. Прыкладаў, безумоўна, можна прыводзіць яшчэ шмат, і ўсе, як быццам, сведчаць на карысць таго, якія мы культурныя, якія адукаваныя. Але ж ёсць прыклады і іншага парадку, з якіх яскрава вынікае, што той жа самы «культурны чалавек» мала чым адрозніваецца ад звычайнага дзікуна, варвара. Скажам, многія з нас абураюцца, што некаторыя кнігі бібліятэкары ніяк не хочуць выдаваць на рукі. Што ж казаць пра «бумныя» выданні, калі ў «рэдкіх» экземплярах, часам зусім унікальных, нават адзінкавых, выразаюцца цэлыя старонкі. І ўчыняюць гэтае варварства не нейкія прышэльцы з космасу, а найчасцей людзі з вышэйшай адукацыяй.

Дык што ў такім разе культура? Ці такі прыклад. Пра гэта паведамлялі ледзь не ўсе беларускія газеты. У Магілёве, падумаць толькі, знайшліся людзі, якія вечарам, калі ніхто не бачыць, ломікамі на свае патрэбы адбівалі пліткі ад помніка ўдзельнікам і ахвярам грамадзянскай вайны!.. Але ж у сваім працоўным ці навуковым калектыве, дома яны мала чым адрозніваюцца ад іншых. Няйначай, гэтаксама любяць паглядзець тэлевізійную перадачу, фільм, з задавальненнем расказваюць аб прачытанай кнізе.

Дзе ж мяжа паміж чалавекам па-сапраўднаму культурным і тым, хто, набыўшы некаторыя веды, разам з тым застаўся духоўным невукам? Акадэмік Дзмітрый Ліхачоў не выпадкова ўжыў выраз «экалогія культуры». Можна сказаць, што ў гэтым павінен зноў жа так званы «застойны перыяд». Можна спаслацца, што ў пагоні за колькасцю масавых мерапрыемстваў, наведванняў у тыя ж музеі, тэатры, кінатэатры губляўся канкрэтны чалавек. Але можна глядзець і глыбей, звяртаючыся да першавытокаў бездухоўнасці, культурнай абыякавасці. І тады высветліцца, што ў той жа бездухоўнасці, духоўным манкурцтве вінаваты многія з нас.

Прыклад можна прывесці тыповы. Узводзіцца буйнейшы ў краіне завод ці камбінат, вакол яго будуецца новы горад. На што ў апошнюю чаргу выдаткоўваюць капіталаўкладанні? Адказаць зможа нават і школьнік — зразумела, на аб'екты культуры. Эканомячы на культуры з году ў год, самі таго не заўважаючы, мы падрывалі духоўную базу той жа самай эканомікі. Не задумваючыся нават над тым, рыхтавалі не людзей, якія здольны творча асэнсоўваць тое, што адбываецца вакол іх, а робатаў.

Так што стварэнне Фонду культуры ў нашай краіне — аб'ектыўная неабходнасць. Рана ці позна да ўсведамлення неабходнасці яго мы б прыйшлі. Савецкі фонд культуры стаў адной з першых грамадскіх арганізацый, якія ўзніклі ва ўмовах перабудовы, галоснасці, дэмакратыі.

**— З вамі нельга не пагадзіцца, Іван Гаўрылавіч... І ўсё ж... Як кажуць, шчырасць на шчырасць. Ёсць у краіне Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, у якога, здавалася б, задачы блізкія да тых, якія ставіць перад сабой і Фонд культуры. Ёсць, напрыклад, і такая аўтарытэтная арганізацыя, як Савецкі фонд міру, які пры жаданні мог бы перавесці значную частку грошай і на культурныя мерапрыемствы. А тут яшчэ адна грамадская арганізацыя, зноў — штаты, памяшканне, вытворчая база і г. д. Ці не атрымліваецца так, што, змагаючыся супраць бюракратыі, скарачаючы колькасць супрацоўнікаў у многіх установах, арганізацыях, тых жа таварыствах, мы на самай справе садзейнічаем новай прылівай хвалі гэтай самай бюракратыі!**

— Разумею вашу занепакоенасць, але яна беспадстаўная. Папершае, штаты Фонду культуры ў параўнанні з іншымі грамадскімі арганізацыямі не такія і вялікія. У гэтым сэнсе наш фонд у нечым блізкі па сваёй структуры да Савецкага дзіцячага фонду. Гэтаксама многія ў ім працуюць на грамадскіх пачатках, не атрымліваючы зарплаты, у тым ліку і старшыня праўлення Беларускага фонду культуры. Яшчэ меншая колькасць платных пасад у абласных аддзяленнях. Па-другое, задачы Фонду культуры і Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры хоць у многім і падобныя, тым не менш розняцца між сабой. У адрозненне ад таварыства фонд не толькі клапоціцца аб зберажэнні гістарычных і культурных каштоўнасцей, але і дбае аб стварэнні новых. Гэта галоўнае адрозненне. Наш дэвіз «захоўваць — асвойваць — памнажаць» дапамагае акцэнтаваць увагу і на актуальных праблемах, звязаных з тым, каб да народа своечасова даходзілі новыя духоўныя каштоўнасці.

Не трэба таксама забываць, што дзейнасць фонду будуецца на больш дэмакратычнай аснове. Няма членскіх узносаў — у наш час, думаецца, яны зжылі сябе. Ведаем, да чаго прыводзіла падобная добраахвотнасць і як яна дасягалася, пра гэта цяпер шмат пішацца ў друку. Усе паступленні, якія мае Фонд культуры,— ад грамадзян, арганізацый, у тым ліку і замежных грамадзян, арганізацый,— ідуць на спецыяльны рахунак. Нагадаю яго нумар — 702. Кожны можа перавесці на яго любую суму грошай. Немалаважна і тое, што адразу можна ўказаць, на якое канкрэтна мерапрыемства гэтыя грошы пераводзяцца.

**— І як, ахвотна ўносяцца грашовыя сродкі на рахунак фонду!**

— Першыя паступленні мы атрымалі адразу пасля ўстаноўчай канферэнцыі фонду. І не толькі грашовыя. Напрыклад, ленінградскі мастак Розін, ураджэнец вёскі Вошкаты Капыльскага раёна, завяшчаў стварыць у Капылі карцінную галерэю. Па яго апошняй просьбе жонка творцы і перадала аддзелу культуры Капыльскага райвыканкома асобныя работы. Зразумела, каштоўнасць мастацкіх твораў грашамі не вымяраецца, і ўсё ж — сума немалая, кошт калекцыі ацэньваецца недзе ў 70 тысяч рублёў. Больш за дзве тысячы рублёў — ганарар за кнігу паэзіі «Земные долги», выпушчаную выдавецтвам «Юнацтва»,— перадаў у фонд пісьменнік Э. Скобелеў. Ёсць паступ-



ленні і ад іншых літаратараў — Д. Бічэль-Загнетавай, Э. Агняцвет, М. Чаргінца, С. Алексіевіч... Актыўна далучыліся да гэтай справы навукоўцы, мастацтвазнаўцы.

І, вядома ж, нямала ўкладаў калектыўных. Яны паступілі ад вакальна-інструментальнага ансамбля «Верасы», калектываў тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску і Брэсцкага абласнога тэатра імя Ленінскага камсамола, Палаца культуры Белсаўпрофа, Мінскага цырка... Пераводзяць грошы і арганізацыі, якія сталі ля вытокаў фонду, з'яўляюцца яго ўстаноўчымі членамі. Канечне, усе гэтыя сродкі вельмі патрэбны, яны добрая падтрымка ў нашай паўсядзённай рабоце. Але, як кажуць, толькі імі «сыты» не будзеш.

Відаць, не ўсе ведаюць, што перад фондам пастаўлена задача поўнасцю перайсці на самафінансаванне і самаакупнасць. Для гэтага ж неабходна актывізаваць уласную вытворча-творчую дзейнасць. Першыя захады, прытым істотныя, ужо зроблены: летась у красавіку створаны кааператыў «Адраджэнне», які выконвае работы па кансервацыі, аднаўленню помнікаў гісторыі і культуры, твораў мастацтва, вырабляе музейнае абсталяванне, выпускае сувенірную прадукцыю. Дзесяць працэнтаў ад сваіх даходаў кааператыў пералічвае на наш рахунак.

Акрамя таго, на баланс Фонду культуры, згодна пастановы Савета Міністраў БССР, перададзены Бабруйская галантарэйная фабрыка, Маладзечанская фабрыка мастацкіх вырабаў і вытворчы ўчастак у вёсцы Агова Іванаўскага раёна. Усе гэтыя прадпрыемствы неўзабаве будуць перакваліфікаваны, пяройдуць на выпуск прадукцыі, якая адпавядае задачам фонду. Напрыклад, на базе Маладзечанскай фабрыкі мастацкіх вырабаў ствараецца прадпрыемства па пашыву сцэнічных касцюмаў. Не сакрэт, што сёння ў гэтым кірунку наша мастацкая прамысловасць як бы зайшла ў тупік. Выйсце трэба шукаць, і Фонд культуры на гэта не забываецца. Распачалі распрацоўку праектна-каштарыснай дакументацыі на рэканструкцыю будынка былых ганчарных майстэрань у гарадскім пасёлку Івянец, каб нарэшце адрадзіць славутую івянецкую кераміку.

**— Мы падышлі да такога пытання, як канкрэтная дзейнасць Беларускага фонду культуры. Два гады, як быццам, не так ужо і многа. Але ж — не будзем забываць, што наш час не дае права на раскачку. Раскажыце, Іван Гаўрылавіч, пра тое, што ўжо зроблена фондам, якія мерапрыемствы запланаваны на бліжэйшы час.**

— Як вядома, на сённяшні дзень у фондзе створана восем грамадскіх камісій: па народных рамёствах, па краязнаўству, па мове, «Вяртанне» і іншыя. Кожная з іх у асноўным ахоплівае кола пытанняў, якія тычацца непасрэдна тых праблем, што павінны трапляць менавіта ў поле зроку гэтай камісіі, а не іншай.

Такі ўжо лёс беларускай зямлі, што яе неаднаразова спусташалі войны. Асабліва шмат знішчылі помнікаў гісторыі і культуры нямецка-фашысцкія захопнікі. Найбольш жа каштоўнае з таго, што нейкім чынам ацалела ў пажарышчах, было вывезена ў Нямеччыну. Так у Германіі апынуліся многія рэдкія кнігі, унікальныя выданні з буйнейшых бібліятэк, у тым ліку з Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна. Разрабаваны быў і Дзяржаўны музей БССР. Недзе за мяжой знаходзяцца архіў Акадэміі навук, цікавыя калекцыі Баранавіцкага музея...

Сваю работу камісія «Вяртанне» на чале з Адамам Іосіфавічам Мальдзісам пачала са складання картатэкі, дакладнага ўліку таго, што ў нас было раней і што ёсць сёння. Вызначана, якіх беларускіх перыядычных выданняў няма ў бібліятэках Беларусі, а таксама Масквы і Ленінграда. Зроблены і першыя захады, каб папоўніць бібліятэкі і музеі адсутнымі матэрыяламі. Адзін з галоўных клопатаў камісіі — дарэчы, А. Мальдзіс гаварыў пра гэта на першым пленуме праўлення Беларускага фонду культуры — у тым, каб дапамагчы Музею беларускага кнігадрукавання, які ствараецца ў Полацку да 500-годдзя з дня нараджэння Францыска Скарыны. Дзяржаўная бібліятэка СССР імя У. І. Леніна пасля звароту камісіі абяцала перадаць у будучы музей пяць прыжыццёвых выданняў Сімяона Полацкага. Пэўныя дамоўленасці ёсць і з Гістарычным музеем СССР. Мяркуецца, што дзякуючы гэтым кантактам у Полацк трапіць 100 кніг беларускіх першадрукароў і гісторыкаў, у тым ліку і арыгіналы Полацкага і Мялеція Сматрыцкага.

Прымаюцца захады і для таго, каб вярнуць на беларускую зямлю экспанаты былога Віленскага беларускага музея. Збор яго быў унікальны, рэдкіх экспанатаў налічвалася недзе звыш 38 тысяч адзінак. На жаль, у канцы пяцідзесятых — пачатку шасцідзесятых гадоў справа не была даведзена ўрадам да канца. Цяпер жа абавязкова гэта трэба зрабіць, тым больш што рэдкія экспанаты ў Вільнюсе знаходзяцца ў запасніках.

**— Відаць, шмат маглі б даць кантакты з нашымі суайчыннікамі, якія апынуліся за мяжой!**

— Так, суайчыннікі дапамагаюць Фонду культуры, дапамагаюць нават тыя, хто выехаў за мяжу не з Беларусі. У друку паведамлялася ўжо, што тысячу долараў для памнажэння калекцый Дзяржаўнага мастацкага музея БССР перадала амерыканская грамадзянка Ганна Чарнэй, якая нарадзілася ў Адэсе.

**— Я маю на ўвазе не столькі грашовую дапамогу, хоць і гэта немалаважна, колькі дапамогу замежных энтузіястаў, каб адшукаць адрасы беларускіх культурных і гістарычных каштоўнасцей, якія па розных прычынах апынуліся за мяжой...**

— Мы ўлічылі гэта. Члены камісіі «Вяртанне» праз газету «Голас Радзімы» звярнуліся да нашых замежных суайчыннікаў з просьбай, каб яны дапамаглі фонду ў гэтых пошукавых работах. Спадзяёмся атрымаць ад іх хаця б фота- і ксеракопіі асобных матэрыялаў.

**— Вяртанне гістарычных і культурных каштоўнасцей, безумоўна, важна, але як нам вярнуць беларускую мову!**

— З-за бюракратызму чыноўнікаў, з-за нашага нацыянальнага нігілізму (будзем глядзець праўдзе ў вочы!) становішча з беларускай мовай сапраўды склалася трывожнае, але пакрысе яно выпраўляецца і не без удзелу Фонду культуры, дакладней, нашай камісіі па мове, якую ўзначальвае П. Садоўскі. Нямала далі і выступленні грамадскасці ў друку, у прыватнасці, на старонках штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Ствараюцца беларускамоўныя школы, дзіцячыя сады, на беларускай мове пачалі аб'яўляцца прыпынкі ў метро, у некаторых аўтобусах і тралейбусах. Гэта, канечне, не так і многа, але галоўнае, што пачатак зроблены.

**— Вы гаварылі аб супрацоўніцтве з Дзяржаўнай бібліятэкай СССР імя У. І. Леніна, Гістарычным музеем СССР... Беларускі фонд культуры, мабыць, і ў далейшым у сваёй дзейнасці будзе арыентавацца на творчыя кантакты і з фондамі іншых рэспублік, і з энтузіястамі, рознымі арганізацыямі ўсіх куткоў Савецкага Саюза!**

— Разам з Латвійскім і Расійскім фондамі культуры прыступілі да абмеркавання культурна-экалагічнай праграмы пад назвай «З варагаў у грэкі». Мэта яе — стварэнне ахоўнай зоны ў басейне Даўгавы — Заходняй Дзвіны, свайго роду унікальнага прыроднага запаведніка. Непакой выклікае і Палессе, яго жамчужына Прыпяць. А хіба можам мы быць абыякавымі да захавання прыроднага асяроддзя ў басейне Нёмана-Нямунаса?! Дзеля гэтага мы наладзілі кантакты з Літоўскім фондам культуры, падпісалі з ім агульную праграму дзеяння. І не толькі па Нёману. Мяркую, што слушная думка — яе на пленуме праўлення фонду выказаў Алесь Петрашкевіч — аб стварэнні нацыянальнай камісіі па экалагічнай адукацыі насельніцтва. Выратаванне прыроды — выратаванне самога чалавецтва, а значыць і зберажэнне яго культуры, якую неабходна не толькі захаваць, але і перадаць у карыстанне нашчадкам.

**— Іван Гаўрылавіч, вы сказалі аб прапанове Алеся Петрашкевіча. Відаць, ёсць і іншыя прапановы!**

— Той жа Алесь Лявонцьевіч прапануе стварыць пры Фондзе культуры спецыяльны тэатр, які б працаваў на гаспадарчым разліку. Лепш за ўсё зрабіць яго тэатрам гістарычнай тэматыкі. Няхай калектыў будзе і не такім вялікім — прыкладна чалавек дзесяць-пятнаццаць, але гэта павінен быць калектыў аднадумцаў. Ён бы змог зрабіць нямала па прапагандзе твораў, у якіх у той ці іншай ступені адлюстраваны падзеі сівой мінуўшчыны, а таксама нашай нядаўняй гісторыі.

**— Наколькі вядома, Беларускі фонд культуры разам з Саюзам мастакоў рэспублікі быў ініцыятарам правядзення першага ў сталіцы рэспублікі аўкцыёну маладых мастакоў...**

— Вы згадалі пра аўкцыён, а ў мяне вось якая думка ўзнікла... Аўкцыён, дабрачыннасць — гэтыя і іншыя паняцці доўгі час забываліся, пачалі страчваць свой першаступенны змест. Цяпер яны ўваходзяць у наш пастаянны ўжытак. Той жа мастацкі аўкцыён сабраў дзесяткі аматараў мастацтва — рабочых і калгаснікаў, студэнтаў і воінаў, хатніх гаспадынь... Большасць з іх выказалі вялікую цікавасць да творчасці маладых аўтараў. Аб гэтым пераканаўча сведчаць і такія лічбы — са 100 прапанаваных твораў было прададзена 37. Удалым жа, паводле палажэння аб правядзенні, лічыцца аўкцыён, на якім рэалізоўваецца 20—25 працэнтаў прадстаўленых работ. Дарэчы, гэта быў чацвёрты ў рэспубліцы аўкцыён, які арганізаваў Фонд культуры разам з Саюзам мастакоў.

Шмат было дабрачынных выступленняў. Асабліва запомніўся вечар «У спадчыну — шчыры радок», які адбыўся ў Доме літаратара. Уваходны білет не такі танны — паўтара рубля, а зала — перапоўнена. Народны мастак Беларусі Леанід Шчамялёў перадаў фонду тры свае карціны. Яму і быў уручаны дыплом Беларускага фонду культуры за нумарам адзін.

Вялікі рэзананс мела выстаўка «Скарбы, вернутыя народу» ў Палацы мастацтва, якую Беларускі фонд культуры арганізаваў разам з Міністэрствам унутраных спраў БССР. На суд гледачоў былі вынесены карціны, прадметы культавага мастацтва, выратаваныя ў свой час супрацоўнікамі крымінальнага вышуку МУС, а таксама таможнікамі Брэста і Гродна. На рахунку фонду — першае пушкінскае свята паэзіі ў Магілёве, дабрачынны спектакль калектыву Львоўскага акадэмічнага ўкраінскага драматычнага тэатра імя М. Занькавецкай, шэраг іншых значных мерапрыемстваў.

**— Зроблена шмат...**

— ...а не зроблена значна больш. Планаў шмат, нямала і нявырашаных праблем. Але і планы гэтыя ажыццявяць, і праблемы вырашаць трэба ўсім разам. Хачу паўтарыцца яшчэ раз: калі мы што і зрабілі, дык дзякуючы дэмакратычнасці, прыцягненню да работы фонду ўсіх, хто шчыра зацікаўлены ў сённяшнім і заўтрашнім дні нацыянальнай, усесаюзнай, сусветнай культуры. На першым пленуме праўлення, які адбыўся ў сярэдзіне мінулага года, прагучала і крытыка ў адрас праўлення. Мы яе прымаем, бо крытыка падахвочвае лепш працаваць, не дае развівацца парасткам бюракратызму і казёншчыны.

Завяршыць жа гаворку хачу тым, з чаго і пачаў...

Культура — своеасаблівы духоўны патэнцыял перабудовы. Калісьці Дастаеўскі гаварыў, што прыгажосць выратуе свет, чалавецтва. Калі ж глядзець шырэй, дык смела можна сказаць, што культура — у самым шырокім значэнні гэтага слова — якраз тое, што дапаможа чалавецтву выратавацца, выжыць, пазбегнуць тэрмаядзернай катастрофы.

Доўгі час у нашай краіне захапляліся часта ўяўнымі дасягненнямі ў галіне культуры, забываючы сапраўдную ролю яе духоўных набыткаў. Да чаго гэта прывяло — усе добра ведаюць. Каб падобнае не паўтарылася, трэба працаваць усім разам. У тым ліку і Беларускаму фонду культуры.

# Рукі маці




Дзяўчынка была прыгаворана да смерці, калі ёй ледзь споўнілася чатырнаццаць. Яна ўмела ўжо трымаць серп, даіць, ткаць, даглядаць малодшых. Але была вайна і быў крэматорый, у якім яна павінна была згарэць пад нумарам 61630. Павінна была... Як тыя сотні тысяч вязняў, якія засталіся назаўсёды ў Асвенціме, Майданаку, Бухенвальдзе... Кожнай клетачкай мозгу, кожным міліметрам скуры яна адчувала, як яе праглыне страшэнная пашча печы. І ўсё ж засталася жывой, вярнулася дадому. Быццам нумар на яе руцэ аказаўся «шчаслівейшым», чым у іншых. Але ж у лагерах смерці «шчаслівых» нумароў не выколвалі. Яго зрабіла такім незнаёмая самаахвярная жанчына з сэрцам Маці. І тады даведалася ўшацкая вёсачка Дубянец, што і там, адкуль не вяртаюцца, здзяйсняліся подзвігі ў імя Жыцця. Самі героі з гэткімі ж нумарамі на руках засталіся безыменнымі. Толькі твары іх не ў стане сцерці час з памяці тых, хто вярнуўся. Зараз Ніна Волах, якая жыве з нумарам 61630, дасягнула ўзросту той вязніцы, якая яе выратавала. Падняўшы дзяцей, дачакаўшыся ўнукаў, яна толькі цяпер асэнсавала каштоўнасць жаночага прызвання — быць маці. А гэта магло і не збыцца, калі б там, у Асвенціме, замест яе, дзесятай, не выйшла са строю дзевятая па ліку жанчына. Усяго адна лічба і адзін крок, які стаў крокам ад смерці да жыцця і крокам у бессмяротнасць.

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
**Фота аўтара.**

## «РОДНАЯ МОВА Ў «БЕЛАРУСІ»

# МОВА І ЗАКОН

У першым нумары часопіса за гэты год у кароценькай нататцы «Чытайце самога Леніна» мы ўзгадвалі пра тое, якую вялікую ўвагу надаваў Уладзімір Ільіч заканадаўчаму замацаванню правоў нацыянальнай мовы ў маладых савецкіх рэспубліках. Прыводзілася ягонае выказванне адносна гэтага ў запісах «Да пытання аб нацыянальнасцях або аб «аўтанамізацыі», дзе падкрэслівалася неабходнасць скласці «дэталёвы кодэкс» і «ўвесці найстражэйшыя правілы адносна ўжывання нацыянальнай мовы» і «правераць гэтыя правілы асабліва дакладна». Відавочна, што раней ці пазней, будуючы адпаведныя элементы прававой дзяржавы, мы будзем вымушаны звярнуцца да гэтага пытання. Думаецца, што без шырокага абмеркавання тут не абысціся. Таму практыка іншых рэспублік (у тым ліку і «фармулёўка «літары закону»), мінулая і сённяшняя, можа ўявіць пэўную цікавасць для чытачоў «Беларусі».

Напрыклад, у канстытуцыях Грузінскай, Азербайджанскай, Армянскай ССР артыкулы пра дзяржаўнасць нацыянальных моў існуюць ужо даўно. Гэта адпаведна пераліку артыкулы — 75, 73, 72. Яны даволі падобныя па змесце і па форме. Так, у артыкуле 75 Канстытуцыі Грузінскай ССР канстатуецца: «Дзяржаўнай мовай Грузінскай ССР з'яўляецца грузінская мова. Грузінская ССР ажыццяўляе дзяржаўны клопат пра ўсебаковае развіццё грузінскай мовы і забяспечвае яе ўжыванне ў дзяржаўных і грамадскіх органах, установах культуры, адукацыі і іншых. У Грузінскай ССР забяспечваецца свабоднае ўжыванне ў гэтых органах і ўстановах рускай мовы і іншых моў, якімі карыстаецца насельніцтва. Якія-небудзь прывілеі або абмежаванні тых ці іншых моў не дапускаюцца».

У Прыбалтыйскіх рэспубліках законы аб мове распрацаваны ў 1988 годзе. Так, напрыклад, спецыяльным указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Літоўскай ССР ад 25.1.1989 г. зацверджана пастанова «Аб ужыванні дзяржаўнай мовы Літоўскай ССР». Вось як гучыць пачатак Указа: «У адпаведнасці з Канстытуцыяй Літоўскай ССР літоўская мова з'яўляецца дзяржаўнай мовай рэспублікі. З мэтай забеспячэння развіцця і функцыяніравання літоўскай мовы ў дзяржаўным і грамадскім жыцці без абмежавання канстытуцыйнага права іншамоўнага насельніцтва ўжываць сваю мову Прэзідыум Вярхоўнага Савета Літоўскай ССР пастанаўляе: 1. Устанавіць, што літоўская мова ў якасці дзяржаўнай мовы з'яўляецца сродкам афіцыйных зносін насельніцтва рэспублікі. Яе належыць ужываць у дзейнасці дзяржаўных і грамадскіх арганізацый у сферы народнай адукацыі, культуры, навукі, вытворчасці, абслугі, сувязі і другіх галінах грамадскага жыцця, на ўсіх прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях Літоўскай ССР, незалежна ад іх грамадскай падпарадкаванасці (за выключэннем Узброеных Сіл)...». Тэрмін паўсюднага пераходу на літоўскую мову акрэсліваецца Указам у межах двух гадоў. Асобным прадпрыемствам, арганізацыям і да т. п. па ўважных прычынах гэты тэрмін можа быць павялічаны да трох гадоў, але толькі з дазволу Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі. У п. 8 Указа адзначаецца: «Іншамоўнаму насельніцтву рэспублікі па яго жаданню ствараюцца належныя ўмовы для арганізацыі дзіцячых дашкольных установаў, урокаў і агульнаадукацыйных школ, падрыхтоўкі для іх выхавацеляў і настаўнікаў, выданне кніг і газет на роднай мове, стварэнне таварыстваў мовы і культуры, клубаў, музеяў, тэатраў, ансамбляў».

У Эстоніі 18 студзеня 1988 г. прыняты «Закон Эстонскай ССР аб мове». Ва ўступнай частцы Закона адзначаецца: «Дзяржаўнай мовай ЭССР з'яўляецца эстонская мова. У Эстоніі, на спрадвечнай тэрыторыі жыцця эстонцаў, эстонская мова з'яўляецца аб'ектам асаблівай увагі дзяржавы і знаходзіцца пад яе абаронай... У Эстонскай ССР кожнай прыватнай асобе, прадпрыемству і арганізацыі забяспечваецца права карыстацца эстонскай мовай як у вуснай, так і пісьмовай форме... Руская мова разглядаецца дадзеным законам зыходзячы з патрэбы агульнасаюзных зносін, а таксама як мова, якой у ЭССР пасля эстонскай найбольш часта карыстаюцца як роднай. Статус эстонскай мовы як дзяржаўнай не ўшчамляе грамадзянскіх правоў асоб, роднай мовай для якіх з'яўляецца якая-небудзь іншая мова. Абараняючы эстонскую мову на дзяржаўным узроўні, Эстонская ССР прызнае неад'емнае права грамадзян любой нацыянальнасці на развіццё іх роднай мовы і культуры, роўнасці ўсіх грамадзян перад законам незалежна ад іх роднай мовы...». Закон уводзіцца ў жыццё паступова па артыкулах, тэрмін уступлення ў сілу асобных артыкулаў — ад 1 да 4 гадоў.

Падобны закон падрыхтаваны і ў Латвійскай ССР.

### ГІСТОРЫЯ І ІМЁНЫ. ІВАН ГРОЗНЫ ЦІ ІВАН ЖАХЛІВЫ!

Неяк яшчэ ў вучнёўскім узросце, чытаючы нямецкі размоўнік, у раздзеле «Карцінная галерэя» я напаткаў выраз «Iwan der Schreckliche». Так перадаецца рускае «Иван Грозный». Тады мне нават было трохі смешна: як гэта — «Іван Жахлівы»? Маё тагачаснае дзіцячае ўспрыманне гісторыі ды і самога слова, гаворачы па-даросламу, «па-вучонаму», было фатальным, прымала ўсё напісанае як адзіна магчымае, «гістарычна непазбежнае», правільнае, камфортнае. Я вучыўся ў суvораўскім вучылішчы, пра гісторыю Беларусі мы не чулі тады ні слова (гэта было ў 50-я гады). Палітыка-ідэалагічнае і ваеннае выслоўе «савецкі народ» я ўспрымаў як этнічнае. Пазней, калі я вучыўся ў Інстытуце замежных моў, я даведаўся, што і англічане, і французы, і іспанцы пры перадачы гэтай рускай «рэаліі» карыстаюцца лексіка-семантычнай адзінкай, якая па сваёй эмацыянальна-пачуццёвай адзнацы не адпавядае рускаму «грозный», а менавіта — «terrible», што можна прыблізна перакласці як «жахлівы», «страшны». Для паняцця «грозны» ў іх мовах знайшліся б адпаведныя варыянты, аднак яны выбралі вось гэты — «terrible».

Пазнаючы свет праз слова, праз кніжкі, я пачаў чытаць гістарычныя раманы. Напачатку гэта былі, як бы я цяпер сказаў, псеўдагістарычныя раманы. Потым дайшло да іншай лектуры. Тое, што гэты «грозны» цар вырабляў са сваім «цэлярам» Грыгорыем Лук'янавічам Малютам Скуратавым-Бельскім у сябе дома, мяне, канечне, жахала, але тое было недзе далёка, як засуха ў Эфіопіі. А вось, калі я чытаў, што дзеялася на берагах Дзвіны, каля полацкай Сафіі, дзе маскоўскі прыхадзень чыніў «московский правеж» тры стагоддзі назад, мяне ўжо ахоплівалі больш прадметныя пачуцці. Я ўспамінаў, што я таксама з-пад Полацка, што нарадзіўся я ў той самай Буцькаўшчыне, што і Эпімах-Шыпіла, што там недзе на берагах Дзвіны ад рукі «грознага» цара гінулі Скарынавы землякі і суседзі, мае прашчуры. Гінуў генафонд народу, гінула нашае сёння... Гісторыкі кажуць, што ў XVII стагоддзі загінуў кожны другі беларус.

Я не мог не напісаць гэтую нататку. І вось чаму. Усё неяк ідзе адно да аднаго. Гады два назад прачытаў у адной рамантычна-ружовай замалёўцы Валянціна Лукшы, што «палачане змагаліся пад сцягамі Івана Грознага» (аўтар славапісаў полацкую зямлю з яе людзьмі, працоўнымі поспехамі, духам сяброўства, пераносіўся з сённяшняга дня ў сярэднявечча і г. д.), і прыкладна ў гэты час, праглынаючы порцыю планавай культуры, пасля канцэрта ў Сафійскім саборы, пачуў з вуснаў экскурсавода: «Иван Грозный был большой любитель древностей, и многие старые рукописи и книги он велел бережно перевезти из Полоцка в Москву...».

Навошта ж выварочваць гісторыю, як кажух? Вывернуты кажух прыдатны толькі для каляднага ігрышча... Вось як апісвае рускі гісторык і літаратар Андрэй Нікіцін «забавы» цара Івана ў часе «пошуку паўночных вотчын» у Ноўгарадзе, Пскове ды Полацку: «... загадваў людзей падсмажаных за рукі, за ногі і за валасы ўсяляк вязаць, прывязваць да кожнага чалавека па каменю, цягнуць за санямі да моста ды кідаць у Дзвіну... А мацярок, іхніх немаўлят і рознага ўзросту малых прывязваць адно да аднаго і кідаць з моста». У Цверы цар Іван загадаў «палонных літоўцаў, палачан ды палякаў закалоць ды сабакам выкінуць...». Жахі, смерці, забойствы, палон, крамешнікі, шамшурынавушнікі, рабства. А да гэтага часу лепшыя розумы нашай зямлі ўжо пісалі законы: «Па даносу не караць», «Сын не адказвае за бацьку», «Кожны мае права свабоднага выйсця за межы гаспадарства», «Не ары зямлю да лесу як палку дакінуць». Дык які ж гэта цар, ад нас з дому гледзячы,— **грозны** ці **жахлівы!**

**У кожнага свае асацыяцыі.** Гэтую нататку можна было б назваць: «Калі сваё смярдзіць, а чужое пахне», «Дурны пра дурное і думае» і г. д. Сэнс адзін. Дажыліся мы да таго, што, будучы сусветна-касмічна адукаваныя, мы надзвычай лёгка засвойваем чужое, прычым не каштуючы яго ні на зуб, ні на вока, ні на нюх. Глытаем і ўсё. А вось сваё... Э не-е! Гэта — немілагучна, гэта — выклікае нядобры вобраз, гэта гучыць павясковаму. Ну а імёны нашы — Алесь, Нэля, Давыд, Якуб, Марыля?.. Ці ж гэта імёны? Вось Аляксандр, Нэла (ці Нэлі), Давід, Якаў ці там Марыля Радовіч — іншая справа. Марыля Радовіч — гэта ж за мяжой, а не ў Крупках. А ці ж можна сказаць «віцябляне», як калісьці казалі? Барані бог! Тут жа ёсць гэтае «бля»,— што людзі падумаюць! І ўсе іншыя беларускія словы з «бля» трэба выкінуць, а то развялося: **вырабляць, бляяць, бляшаны, карабля, зарабляць, аблямаваны...** А што гэта за горад такі быў у нас — **Дрыса**! Гэта ж сорам перад людзьмі быў. Добра што знайшліся разумныя людзі і пераназвалі. А то што маглі б пра нас падумаць... Ці то вось мовазнаўцы прыдумалі: вымаўляйце **«на досцы, на даросцы».** Гэта ж трэба! — Что? По-русски «косцы, песцы, сценический» — совсем другое дело, вы послушайте, как это звучит: **«писцы, касцы, сциничиский».** — Что «как»? А-а,— «как»? Так это ж от французского — «фэр ка-ка», «фэр пи-пи», господи,— темнота. Кому это в голову придет? А что ваше «як»? Это ж такой баран нестриженый...

Вядома, гэты маналог у форме няўласна-аўтарскай мовы я прыдумаў сам (тут трохі прысутнічае і схаваны апанент). Аднак такой хваробай, якую б можна было назваць проста — пачуццё ўласнай непаўнацэннасці, хварэюць і лексікографы, і пісьменнікі, і журналісты, і, канечне ж, традыцыйна ўсе тыя, каго завуць начальствам. Давайце разам пасмяёмся з сябе, выпусцім сучаснага Масіяша на сцэну. Можа, гэта дапаможа?

**Пётра САДОЎСКІ.**



*Да 45-годдзя вызвалення Чэхаславакіі*

**Знакаміты чэшскі паэт Ян Скацал нарадзіўся ў 1922 годзе. Першы зборнік «Колькі магчымасцей мае ружа» выдаў параўнальна позна, калі яму было 35 гадоў, аднак гэта была спелая паэзія са сваёй адметнай паэтыкай. Потым былі наступныя зборнікі і доўгі — больш чым дзесяцігадовы — перыяд маўчання, які залежаў не толькі ад стану душы, але і ад стану грамадства. Ян Скацал, як зазначаюць даследчыкі,— «паэт вясковага краю, але чалавечы лёс, які адбываецца на яго фоне, напружаны і трагічны».**

## Ян СКАЦАЛ

### *Вечар*

На небе збіраецца вецер,
барвовы заўтрашні вецер,
і зноўку любоў,
і зноўку любоў —
здалёку —
пярэчыць смерці.

### *Невялічкія паўстанкі*

Яшчэ сустракаюцца ўскраіны,
дзе цягнікам
дзеці махаюць рукамі.

Заўсёды тужліва трохі
на невялічкіх паўстанках,
дзе не чакае ніхто нікога.

Раптоўна душа
расквеціцца белым бэзам,
раптоўна так многа ў сабе
адчуваем людскога.

### *Мёртвыя воі*

Знайшлі іх далёка,
але непадалёку ад вёскі.

Туга і ўспаміны
да іх прыхінуліся шчыльна —
яны ўжо тваё, о зямля.

Духмяныя водары спалі ў кветках,
быццам жанчыны ў сукнях,
быццам жанчыны ў святочных
сукнях.

А потым прыйшоў
з далячыняў дождж —
і кветкі паілі мёртвых
з далоняў.

### *Наўмысная адвага*

Хлусіў я, а ўсё-ткі казаў,
што мёртвы нас не чакае.

Так позна ўначы — ніхто
на скрыпцы іграць не будзе.

Быў я збаязнены і пусты,
як сад зімою.

Аднак жа ён быў там. Дарэшты быў.
Апошняю доляю цішы
мы ведалі гэта.

Укрыжавалі на ўзгорку лес,
ваду — укаменавалі.

### *Змова*

Я не хацеў бы, каб нейчы бог
абдумваў мяне.
Здаўна
маю свайго —
каб распроствацца горда ўгору
і каб схіляцца пакорліва ўніз.

Здараецца —
душа чалавека смярдзіць,
як намоклая поўсць у сабакі.

Аднак не сваруся за гэта.
Толькі хачу,
каб боль сапраўды балеў
і каб слязою была сляза.

### *Вырай*

Не будзе спакою,
покуль не адляцяць
дзікія гусі.

Цягнуцца ў вырай
марудлівыя чароды.

Не будзе спакою
нам на зямлі,
покуль гучацьмуць у небе
доўгія крыкі.

Цягнуцца — быццам лёс.

### *Апоўдні*

Пахне глінай,
змяшанай з сонцам —
нават за могілкамі.
І няма ў спёкі дна.
Так блізка ад вінаградніку
лётаюць чайкі,
так блізка ад могілак.

І званы —
на белых званіцах
для гнуткага ветру,
для доўгага сну.
І жыццё здаецца:
ёсць і няма.
Пэўні чуюць ваду.
Каля гасцінца — каліна.

### *Захад*

На небе малінавым
квітнеюць пялёсткі дня.
За сцяною з чырвонай цэглы
дурманліва пахне бэз.

Чуваць кожны ліст.
Без руху ўрастае
каштан у ноч.
У камянях вагаецца цемра.

### *Сакавік*

Апоўдні ў суботу
падсохнуць польныя сцежкі.

З лясных гушчароў у вёску
прыйдзе вясна.
Прынясе пад пахаю скрыпку —
старажытны інструмант
з траістага дрэва.

Задыхаюць песняй сады.
І доўга, да самай начы,
на адной струне
невядомы музыка будзе апавядаць
пра адзін
надзвычай звычайны цуд.

**Пераклаў з чэшскай**
**А. РАЗАНАЎ.**



**Злата Прага — сама паэзія...**
**Фота Віктара МІКАЛАЕВА.**

## Віктар ЛУЖКОЎСКІ

### *Лістапад у Траецкім прадмесці*

На Свіслачы — мінулым
прычасціцца...
Ідуць сюды тубылец і турыст.
На дахах чырванее чарапіца —
Муры пакрыў барвяны падаліст.

Кляновай завірухай на расстанні
Не замяце прызнанні і сляды:
Мінулае ў смалістых рыштаваннях —
Нібы глыток гаючае вады.

Карчма. Ліхтар.
І вокладкаю кнігі —
Над ганкам шыльда вабная «Вянок».
Пачуеш тут крывавы ўсхліп Нямігі
І Багдановіча трывожны крок.

### *Дэфіцыт*

Пры вокнах клён гарыць барвова —
Дыхнула халадком зіма.
Лятуць лісты...
Ляцяць і словы,
Калі цяпла ў душы няма.

Спагаду, шчырасць пратрубілі.
Дублёнкі...
Мэбля...
Сытны быт...
Прэстыжны бляск аўтамабіля...

На дабрыню ў нас дэфіцыт.

## Леанід ГЛУШКО

### *Ля абеліска*

Паклон аддаю абеліску,
Пралескі кладу да яго.
Чытаю імёны па спіску,
Мо бацьку сустрэну
свайго.

Бярозы шапталіся з клёнамі,
Ля іх я без шапкі стаяў
І ўсе дарагія імёны
Я доўга чытаў і чытаў.

✦

Горкія слёзы маці
Чырвонай калінаю сталі.
Яны на марозе іскрацца
Нібы жывыя каралі.

Горкія слёзы маці —
Горкі смак спелай каліны...
Я не магу адарвацца
Ад счырванелай даліны.

Сышліся каліны — удовы
У бабіна лета за вёску.
Ціхі пажар пунсовы —
Цяжкі вайны адгалосак...

## Генадзь АСТРОЎСКІ

### *Зямля ніколі не забудзе*

І зноў вясна на нашым свеце,
І зноў вясёлы май у кветках.
Плыве над полем ціхі вецер,
Усходы шэпчуць на палетках.

Заззяла сонечнае ранне,
Узрушыла струну трывогі,

Калоны ў сонечным убранні —
Сягоння свята Перамогі.

Трывожны гук душу кранае,
У ёй туга і гонар — разам.
Пра тых сягоння ўспамінаю,
Каму жыццём я абавязан.

Зялёны скверык ля дарогі,
Ля помніка ў гаркоце людзі.
Вялікі дзень — Дзень Перамогі
Зямля ніколі не забудзе.

## Леў МАРОЗ

### Родны край

Тут усё дарагое: залевы,
Пыл дарожны і з комінаў дым...
Тут мае радаслоўнае дрэва,
Я маленькі лісточак на ім.

## Віктар ТРУСЕВІЧ

✦

Я прыраўнаваў цябе
да ліпеньскага сонца,
калі ўбачыў,
як ты,
загарэлая
ад яго абдымкаў,
павольна ішла па пляжы,
ахвотна падстаўляючы
пад яго праменне
сваё прыгожае цела.
Мне ўпершыню захацелася
памяняцца з ім месцамі.

## Міхась СТРЫГАЛЁЎ

### Елабуга

**Памяці Марыны ЦВЯТАЕВАЙ.**

Елабуга — гронкі рабіны
ахутаны шэранню спрэс.
Тут свецяцца вочы Марыны —
марозам не схоплены бэз.

Над Камаю парк салаўіны
горад на двух берагах...
Стагоўі ў смузе... Кумарынам
на кожным з іх іней прапах.

Быў тут я. Здавалася, крочыў
тут кроку яе след у след.
Крумкач жаўруком * заахвочваў:
«У груд углядайся як след...».

Дарэмна ўсё ж... Жаўталістам
свіціўся, бы глінішча, схіл...
Прайшоўся цвінтарам імглістым —
у парку — не ўбачыў магіл...

Зноў думку апальвае ўпарты
зарніцы рабінавы бліск...
А чортава кола над паркам
спяшае,—
то ўгору, то ўніз!

* «Все жаворонки — нынче вороны...» — М. Цвятаева.

## Мікола САБАЛЕЎСКІ

✦

Зямля ахутана сінечай,
Да рэчкі гнецца вербалоз...
На развітанне ён парэчак
Дзяўчыне ў прыгаршчах прынёс.

У іх — сваё прызнанне любай —
Хай толькі-толькі паглядзіць
І ўспомніць стрэчы каля клуба,
Калі ўзыходзіў маладзік.

А ён згадае слоў пяшчоту
І цеплыню яе рукі,
І слодыч губ — мядовых сотаў,
І дотык ласкавай шчакі.

## Пятро МАКАРЭВІЧ

### Ранак на бацькаўшчыне

Па маладзенькіх промнях дня
Віецца у нябёсы пара.
Святлеюць сосны за папарам,
Дзе спіць вясковая радня,
Дзе прадзед мой зямельку парыць.

Гарачы раніцы пагляд.
Яго я адчуваю спінай,—
Кашу атаву канюшыны
Паблізу дзедаўскіх прысад
Пад звон навалы камарынай.

Пракосы ў кропельках расы
Трымцяць вясёлкаю на сонцы
І пах мядовы п'юць бясконца...
Пасля пластую, блудны сын,
Ласунак матчынай кароўцы.

Упершыню падперазаў
Без бацькі сена воз духмяны.
Гляджу на свет замілавана...
І долу падае сляза —
Які кароткі дома ранак!

### Шмат ёсць агульнага у нас

**(амаль жартам)**

Агульнага даволі ў нас:
Пасады і рабочы час;
І мы з табою кнігалюбы,
Кінамастацтва, песні любім;
Удвох не курым папяросы,
Цвярозы я і ты цвярозы,
Пішу я трохі, пішаш ты.
Кляпаю я, кляпаеш ты...
Я — толькі косы,
Ты — даносы.

### Васілю Быкаву

Сумленную праўду зямлі
Варожасць — было — абступала...
Балюча і крыўдна, калі
Шліфуе нас камень вандала,
І вучыць гультай працаваць,
Хлуснёй абляпіўшы парканы.
І ёсць мастакі нацкаваць,
І солі пасыпаць на раны.
А ты не здаешся, ані...
І мужная вера ў паглядзе —
Хто быў гартаваны ў агні,
Не здраджвае лёсу і праўдзе.

## Фелікс БАТОРЫН

✦

Усё прыесца, страціць
востры смак,
Заморскіх страў і він табе
не трэба.
І толькі луста аржанога хлеба
Прыесціся не зможа аніяк.

Агоркне ўсё: пасада і сябры,
Утульная кватэра і каханка —
Але не домік, нізкі і стары,
Дзе над табой спявалі
калыханку.

✦

Якія б ні вяршыў ты, браце,
справы,
І кім бы ты ў жыцці сваім
ні стаў,
Ты нават на вяршыні звонкай
славы
Зямлю намацвай, а не п'едэстал.

### Дзіцячыя пытанні

Дзіця патроху падрастае.
Пра ўсё, што бачыць, распытае:
Чаму расцвіў у садзе бэз?
Навошта шкло ў аконнай раме?
Чаму ўсе кошкі з кіпцюрамі,
З рагамі бык, а людзі — без?

Спярша адказваеш адразу,
А неўзабаве для адказу
Ужо табе патрэбны час.
А потым — сто пытанняў новых.
Ты адказаць на іх гатовы,
Ды толькі дзе знайсці адказ,

Калі парой не можа розум —
Няхай і востры, і цвярозы —
Адрозніць праўду ад хлусні
І нават з яснымі вачыма
Бывае проста немагчыма
Адрозніць рух ад мітусні?

Як цесна ўсё ў жыцці сплялося:
Лёс кожнага — у кожным лёсе —
Ні рассячы, ні развязаць...
О вы, дзіцячыя пытанні,
Дзе той мудрэц, што будзе
ў стане
На вас аднойчы адказаць?

### Боль

**«Былым эсэсаўцам, абвінавачаным у масавых забойствах мірных грамадзян на тэрыторыі Беларусі ў 1942—43 гадах, суд зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія вынес апраўдальны прыгавор за адсутнасцю доказаў».**

(З газет.)

Мне дзеда меч, на жаль,
не давялося,
Хоць я пра дзеда марыў
дзень пры дні:
У цеснай яме скончыліся лёсы
Усёй вялікай дзедавай радні.

Там, дзе стаялі спаленыя хаты,
Гаі ўзняліся, травы узышлі.
Схаваўшыся надзейна ад расплаты,
Яшчэ жывуць забойцы на зямлі.

Жывуць забойцы і не знаюць гора,
Не страшны ні пятля ім, ні турма:
Не шчодрыя суды на прыгаворы —
У рэйнскіх суддзяў доказаў няма!

## Раман ТАРМОЛА

### Даруйце

Уросшая ў зямлю хаціна,
Падперла зорны небасхіл
Там,
дзе душа мая хадзіла
Ад першых
да апошніх сіл...
Я быў там...
Больш ужо не буду,
Бо не пазнае і парог
На старасці гадоў прыблуду,
Што столькі год прыйсці не мог...
Які дакопваўся да шчасця,
Ды толькі не ў сваім кутку.
І вось вярнуўся для прычасця
Ужо са смерцю пад руку.
Даруйце,
небасхіл і хата!
Я сам выпрошваю праклён...

Хоць толькі ў тым і вінаваты,
Што не лічыў ні год,
ні дзён...

### Змаганне

У цемені начы стыхія
Змагаецца
з нябачным нечым.
Удары нейкія глухія,
Як па жывым...
Па чалавечым...
О незнаёмы дух,
не здайся,
Пакуль ты між вадой
і небам!
Сціхотна як...
Няўжо па часе
Мой крык запознены і немы?..

✦

Нізка гнецца пад ветрам лес,
Упіраецца ў дом вершалінамі...
Мікрарай,
мікраболь,
мікрастрэс
Падпірае да сэрца хваінамі.

Як мне вытрымаць гэты напор
Перад мокраю стоячы шыбінай...
Мікрагвалт,
мікрастогн,
мікрахор,
Угары чорны грак,
быццам шыбенік...

То пад неба ляціць ён,
то ўніз,
То вісіць,
то за ветрам гоніцца.
Мікрабрава
і мікрабіс
З мікрадома праз вокны ломіцца.
Захапляе гэта гульня
Неймаверная
мікрапушынкі
З ашалеласцю
зімняга
дня.
Колькі рызыкі... Колькі шыку!
Не ўпадзі ж на зямлю,
мой птах!
Пакажы,
праганяць як трэба
Нават жудасць —
не мікрастрах
Перад холадам,
ветрам,
небам.

✦

Пражэктар чайку выхапіў над
морам...
Не абяскрыліў залатым святлом,
Але раптоўна падштурхнуў угору,
Як падказаў: вышэй тваё жытло.

Як закрычала
чаіца
гартанна!
Здалося —
здрыгануўся свет!
І засталася ў небе распластанай
Сваячкаю
і зорак,
і планет...

✦

Паэтамі набіты ўсе абоймы.
Іх застаецца —
нават на мішэні...
І адтаго між імі
вечна войны.
І шэранькія
цэляцца ў шэрых.
Паўсюдная вайна
не знае стомы.
Ці не таму,
што ў ёй няма забітых.
І папаўняе армія вядомых
Самаахвярна
армію забытых...

**Сярод пісьменнікаў першага паслярэвалюцыйнага закліку, што свежым ветрам зашумелі ў беларускай літаратуры, адным з найбольш значных па таленту быў Міхась Зарэцкі. Пры ўсёй адметнасці стылю, у якім спалучалася рамантыка з рэалізмам, своеасаблівасці сюжэтаў, тэм і праблем, непаўторнай выразнасці мастацкіх вобразаў творчасць гэтага празаіка стаіць дзесьці побач са створаным класікам беларускай літаратуры Кузьмой Чорным. Але калі лёс спадчыны апошняга склаўся досыць удала і спрыяльна для аўтара (творы Чорнага шырока вывучаюцца ў школе і на філфаках, рэгулярна перавыдаюцца як паасобнымі кнігамі, так і зборамі, актыўна асэнсоўваюцца нашымі даследчыкамі. З гэтых даследаванняў можна ўжо скласці ладную бібліятэчку), дык пра Зарэцкага мы маем усяго адну, і на сёння далёкую ад дасканаласці, кніжку...**

**Чалавечы лёс пісьменніка, абвінавачанага ў 1936 годзе ў кіраўніцтве контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыяй і прыгаворанага да расстрэлу, які міласціва быў спачатку заменены на дзесяць гадоў зняволення, а потым, праз пару гадоў (у 1941), прыведзены ў выкананне, непасрэдным чынам адбіўся і на лёсе яго творчай спадчыны. Да 1956 года пра Міхася Зарэцкага ўвогуле было забаронена гаварыць. Пасля рэабілітацыі выдаюцца раманы «Сцежкі-дарожкі» і «Вязьмо» ды кніга выбраных апавяданняў. Вось і ўсё. Пагодзімся, што гэта вельмі няшмат для таго, хто быў адным з самых папулярных пісьменнікаў свайго часу — у гэтым ён ніколі не саступаў, а мо пераўзыходзіў і Кузьму Чорнага,— хто быў у самым віры літаратурных і грамадскіх падзей 20-х, пачатку 30-х гадоў. Трэба ўсё ж некаму паруціцца і скласці кнігу ўспамінаў пра гэтую надзвычай каларытную постаць на ніве нашага паслярэвалюцыйнага нацыянальнага адраджэння. Застаецца толькі спадзявацца, што ўсё будзе пераасэнсавана, зроблена і дароблена так, як гэтага заслугоўвае, не пабаімося сказаць гэтыя словы, магутны, арыгінальны і шматгранны талент Міхася Зарэцкага. Зарукай добрых надзей можа быць тое, што Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы распачынаецца выданне твораў пісьменніка ў чатырох тамах.**

**Міхась Зарэцкі (Міхась Яўхімавіч Касянкоў) нарадзіўся 20 лістапада 1901 года ў сяле Высокі Гарадзец Сенненскага павета Магілёўскай губерні (цяпер Талачынскі раён Віцебскай вобласці) у сям'і дзяка. Вучыўся спачатку ў Аршанскім духоўным вучылішчы, потым — у Магілёўскай духоўнай семінарыі, якую пакінуў пасля таго, як у краіне пачалася рэвалюцыя. За два гады давялося паблукаць па свеце і памяняць месца працы. Ужо тады, па сутнасці, у юнацкім узросце, выявіла сябе актыўная, дзейная натура грамадзяніна. Так, папрацаваўшы настаўнікам пачатковай школы, Зарэцкі быў абраны дэлегатам на 2-гі Усерасійскі з'езд працаўнікоў асветы. Аднак найбольш на яго жыццё і творчасць паўплывала служба палітруком Чырвонай Арміі з 1920 па 1927 год.**

**З беларускіх пісьменнікаў тэма рэвалюцыі і грамадзянскай вайны найбольш поўнае і праблемнае ўвасабленне набыла ў творчасці Міхася Зарэцкага. Ужо тады, у першыя паслярэвалюцыйныя гады, пісьменнік бачыў драматызм рэвалюцыйных змен, складанасць чалавечых лёсаў, неаднамернасць, супярэчлівасць характараў змагароў за новы лад жыцця. Асабліва цікавіць яго шлях інтэлігенцыі ў рэвалюцыю, хвалюе лёс былых — колішніх службоўцаў, прадстаўнікоў зрынутых класаў, духавенства, якія адчувалі сябе няўтульна ў новым грамадстве, а на іх часта глядзелі як на штосці чужароднае, непатрэбнае і лішняе. Але ж гэта былі жывыя людзі, ім балела, яны, як і кожная істота, хацелі жыць. Адсюль нараджаліся матывы спагады, спачування, міласэрнасці, якія так актыўна выяўляюць сябе ў нашым часе. Аднак было б спрашчэннем, калі б мы атаясамілі погляд пісьменніка паслярэвалюцыйнага часу з поглядамі нашых дзён. Зусім на розных ступенях маральнага развіцця знаходзімся мы, гэта значыць грамадства, якое прайшло праз жудасць сталінскіх лагераў, і тыя, хто толькі перамог у рэвалюцыі сваіх класавых ворагаў, яшчэ не пазбыўся нянавісці да іх, свята верыў у перамогу сусветнай рэвалюцыі, у чысціню і справядлівасць новага ладу жыцця.**

**Але Зарэцкі і тады ўжо бачыў шмат, меў дакладна выверaныя крытэрыі ацэнак многіх грамадскіх з'яў. Ён не прымаў стыхійнасці рэвалюцыі, жадання цёмных, разбуджаных ці, як цяпер пішуць у дачыненні да атамнай энергіі, вызваленых сіл усё руйнаваць і знішчаць на сваім шляху. Такія матывы ёсць і ў апавяданнях, і, асабліва, у рамане «Сцежкі-дарожкі», які называлі першым рэвалюцыйным раманам на Беларусі.**

**Не абмінуў пісьменнік і такой вызначальнай для лёсу нашага грамадства падзеі, як калектывізацыя. Ён і сам браў непасрэдны ўдзел у ёй, бачыў, як без патрэбы нішчыцца спрадвечны ўклад сялянскага жыцця, як ломяцца чалавечыя лёсы, асуджаюцца на ліквідацыю і выгнанне з родных мясцін гаспадарлівыя, адданыя зямлі-карміцельцы людзі. Менавіта пра ўсё гэта і расказваецца ў рамане «Вязьмо». Няшмат набярэцца ў тагачаснай савецкай літаратуры твораў, дзе б па гарачых слядах падзей прагучаў такі абвостраны чалавечы боль за нашу зямлю і яе спрадвечных працаўнікоў, за лёс сацыялізму.**

**А крыху раней Зарэцкі напісаў «Падарожжа на новую зямлю» — па жанру нарыс, а па ўнутранай духоўнай і душэўнай напоўненасці — светлая песня, гімн абуджанаму рэвалюцыяй краю. Твор гэты прасякнуты верай, што Беларусь з яе працавітымі да самазабыцця людзьмі, стаўшы на шлях навуковага земляробства, засвоіўшы самыя перадавыя метады гаспадарання, здолее выйсці на ўзровень найбольш развітых у аграрных адносінах краін Еўропы. Менавіта такую праграму імкнуўся рэалізаваць нарком земляробства Прышчэпаў, якога неўзабаве таксама аб'явяць нацыяналістам і ворагам народа.**

**«Падарожжа на новую зямлю», як і раман «Крывічы», які распачаў друкаваць часопіс «Полымя», адразу ж трапілі пад няшчадны агонь аглабельнай крытыкі. Раман дык увогуле быў аб'яўлены нацыянал-фашысцкім. На той падставе, што ў цэнтры яго нацыянальная праблематыка, адчайная спроба пісьменніка асэнсаваць тыя гвалтоўныя дэфармацыі ў вырашэнні нацыянальнага пытання, якія пачаліся ў нашай краіне з канца 20-х гадоў і не мелі нічога супольнага з ленінскай нацыянальнай палітыкай. У рамане разгортваліся яркія і каларытныя мастацкія вобразы.**

**На жаль, пра ўсё гэта можна гаварыць толькі на падставе некалькіх раздзелаў, бо друкаванне твора было спынена і далейшы яго лёс невядомы: хутчэй за ўсё тыя, хто забараніў публікацыю і арыштаваў твор, пастараліся зрабіць належнае, каб ён ніколі не трапіў да народа, якому прызначаўся. Не без скрухі дадамо: такога, як «Крывічы», рамана, дзе б у цэнтры была думка пра лёс беларусаў як нацыі, у нашай літаратуры так больш і не з'яўлялася...**

**Мы мяркуем надрукаваць два апавяданні Зарэцкага: «Адна партыя ў шашкі» і «Смерць»[1], якія па незразумелых прычынах не ўваходзілі ў паслярэабілітацыйныя выданні пісьменніка. Першае апавяданне можа здацца чытачу недастаткова выйгрышным у кантэксце маральнай атмасферы нашага часу. Можна было б, вядома, падабраць і больш блізкае да сучаснасці, але ж анталогія, мяркую, мае на ўвазе знаёмства якраз з тым, што характэрна менавіта для 20-х гадоў. А таму не будзем спрашчаць людзей і час, у які яны жылі. А жыў Міхась Зарэцкі ў няпросты, часамі нават жорсткі час, калі чалавечае жыццё магло значыць вельмі мала, па сутнасці, нічога. Менавіта пра гэта і расказваецца ў «Адной партыі ў шашкі».**

**На прыкладзе «Смерці», спадзяюся, чытач пераканаецца, якога псіхолага ў асобе Зарэцкага мы страцілі, як гэты малады чалавек сілай дадзенага яму таленту мог пранікаць у глыбіні чалавечых перажыванняў і ўжо тады, на пачатку развіцця маладой беларускай літаратуры, уздымаецца да філасофскага погляду на жыццё і чалавека, чаго, пагодзімся, нам часта яшчэ і сёння бракуе.**

**«Адна партыя ў шашкі» ўпершыню надрукавана ў 1924, а «Смерць» — у 1926 годзе.**

**У заключэнне прывяду радкі з песні, якую, употайкі ад людзей, спявае Ахрэм Галілей — персанаж з рамана «Вязьмо»:**

**Мёртвых цел ляжаць пракосы,**
**Кроўю краскі зацвілі.**

**Чытаеш і жахаешся: як пісьменнік у той час мог прарочa прадбачыць тое, што адбылося значна пазней, апагеем чаго стаўся трагічны 1937-мы. Сярод сотняў тысяч сыноў Беларусі крывава чырванее і краска Міхася Зарэцкага.**

**Яўген ЛЕЦКА.**

[1] **Апавяданне «Смерць» чытайце ў адным з наступных нумароў.**

АПАВЯДАННЕ

# АДНА ПАРТЫЯ Ў ШАШКІ

Гэта — з таго часу, калі ў маладой савецкай краіне полымем барацьба бушавала, калі ў сьмяротную бойку схапіліся былі паўстаўшыя работнікі з сваімі адвечнымі ворагамі — панамі. Тады кожны куток нашай краіны працяты быў вострай напружанасьцю, якая часам прасякалася агнявымі бліскавіцамі бурных уздымаў.

У той час на кожным кроку хаваліся ў цемры падкалодныя гадзіны. Часам выпаўзалі яны на сьвет і атрутныя джгалы паказвалі. Мужыкі-сярмяжнікі зьніштажалі іх сваімі рукамі мазольнымі, карузлымі. І ня было тады меры мужычай моцы жалезнай, ня было меры й гневу народнаму, бурнаму.

У фальварку Струшні тры дні паслугачы панскія сядзелі замацаваўшыся. Абкружаны былі кальцом непарушным — чырвонаармейскім атрадам на чале з Асначом — селянінам-героем. Не здаваліся, хоць і бачылі, пэўна, што ня будзе ратунку. А мо́ чакалі адкуль дапамогі?

Аснач наўмысьля ня браў фальварка з бою: хацеў жыўцом захапіць непакорных бандытаў. Расстанавіў вакол панскага дому людзей сваіх, сам сядзеў у старажоўскай халупцы, што ад дому крокаў на сто ля дарогі стаяла. Пад вусамі густымі, вялізнымі хаваў увесь час хітравата-давольную ўсьмешку. Пэўна, сам сабе думаў:

— Няхай пасядзяць сабе троху, адпачнуць пасьля працы. А канец — адзін...

Ноччу панскі дом хаваўся ў старожскую цемру. Тады Аснач падыходзіў да дому і бязупынку хадзіў навакол. У паўголаса аклікаў чырвонаармейцаў, бадрыў іх вясёлым жартам. А сам усё хадзіў і ўсё слухаў пільна, уважна, ці ня робіцца што там, за сьцяной, ці не гатуюцца да чаго няпрыяцелі.

На трэцюю ноч, калі ён хадзіў так — бяссонны, настарожаны,— яго чулае вуха злавіла ледзь чутныя рухі ў пакоях. У момант ад чалавека да чалавека перадалася чырвонаармейцам яго перасьцярога. Шчыльней абступілі дом, ля дзьвярэй, ля вакон пасталі з нарыхтаванымі стрэльбамі.

Застыгла ўсё, быццам самлела наўкол. Так ціха было, што як з саду над домам праляцела нейкая птушка начная, дык чуцен быў мерны ўзмах яе крыльляў.

Часінка, другая...

Раптам адчыніліся дзьверы панскага дому. Уздрыганула паветра ад стрэлу. Невядома, хто першы страляў: ці армейцы, што чакалі каля дзьвярэй, ці мо' бандыты, каб спалох узьняць нечакана, палягчыць сабе магчымасьць уцячы.

Потым ужо ў пакоях пашла страляніна. Тлум, замятня... А праз колькі хвілін асьвяціўся дом сьвятлом няроўным, дрыжачым; з вакон косы віхрыстыя заскакалі па кустох палісадніку.

Гэта Аснач рабіў вобыск па дому. Замест лямпы з паперы зрабіў нібы факелы і асьвяціў імі пакоі.

Доўга не аставаліся ў доме. Аснач хутка с[…] браў сваіх хлопцаў.

**Афармленне Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.**



**Міхась ЗАРЭЦКІ**



— У вёску, усе... Пільна сачыць за бандытамі... Рукі скруціць... як мае быць... Марш!..

Пасунуліся няроўнай чарадой па цёмнай дарозе.

У невялічкай вёсцы — вярсты тры ад фальварку — спыніліся. Там мусілі начаваць.

Разышліся па хатах, а забраных бандытаў стоўпілі ў адзін з сялянскіх сьвірнаў. Да іх варту прыставілі. Толькі правадыра іхнага павёў з сабою чамусьці Аснач. Двое чырвонаармейцаў яго вартавалі, трымалі нарыхтаваныя стрэльбы.

Увайшлі ў сялянскую хату. Аснач сеў адразу за стол, задумаўся, паклаўшы твар на далоні. Усе маўчалі. Толькі гаспадар з гаспадыняй нешта шапталі ўцішку. З цікаўствам паглядалі на гасьцей, а больш за ўсё на таго, што стаяў паміж двух узброеных салдатаў.

Яго выгляд прыцягваў да сябе ўвагу. Вопратка нібы панская, але так абшарпалася, што зусім страціла свой калішні выгляд. Калматым шкумацьцем недалужна зьвісьлі парваныя полы сурдуту, а скрозь дзіркі па каленках сьвіцілася брудная бялізна.

Стаяў ён панура, нярухома, апусьціўшы ў дол сярдзіта прыжмураныя вочы. Твар быццам драўляны, быццам мёртвы. На ім застыгла, закамянела хваравітая злосьць.

Аснач раптам узьняў галаву. Акінуў хату ўраз павесялеўшым, сьветла-іскрыстым поглядам.

— Гаспадыня! А як будзем з вячэрай, га?..

Замітусілася баба, забегала па закуцьці.

— А бадай яно цямілася. Гэта ж мне з галавы вон. Т'кі праўду кажуць, што сыты галоднаму не спагадае...

Неяк ураз зьмяніўся ўсіхны настрой. Быццам нейкі гульліва-радасны промень працяў тую прыкрую цяжкасьць, што гнётам вісела ў хацёнцы. Закулдыячылі дзеці, загаварылі армейцы. Гаспадар падсеў к Асначу, пачаў гаманіць з ім — сьперш асьцярожна, нясьмела. Зазіраў у яго дабрадушныя вочы з цікаўствам, з павагай, распытваў пра падзеі ў фальварку. Аснач апавядаў, і ўсе сьмяяліся давольна, радасна.

Толькі адзін палонны маўчаў. Быццам ня чуў, не ўважаў, што наўкола, углыбіўшыся ў свае асабістыя думкі.

Падалі вячэру. Аснач разгарнуўся, расшпіліўся, вольна раскапусьціўся за сталом, гатуючыся як мае быць узяцца за ежу. Па твары разьлілася давольнасьць — шырокая, млявая, якая заўсёды бывае ў тых, хто пасьля цяжкае працы знаходзіць сабе адпачынак.

У гэты момант погляд Аснача спаткаўся з поглядам бандыта. Толькі хвілінку глядзелі яны адзін у вочы другому, але гэтага досыць было, каб Аснач згадаў тое, што перажывае ў гэты момант зьбянтэжаны пан. Скрозь усю тую варожасьць і злосьць, якія сьвіціліся ў прыжмураных вачох, нястрымана прарывалася моцнае жаданьне, і гэта жаданьне, відаць, панавала цяпер над усім пачуцьцём, над усёй істотай гэтага чалавека.

— Есьці! Есьці! — быццам крычалі напружана-бліскучыя вочы бандыта.

І тады Асначу яшчэ весялей зрабілася. Ня было ўжо злосьці на недалужнага, бясьсільнага ворага. Нават жаль нейкі зьявіўся. А панская ўпартасьць, замкнёнасьць здалася сьмешнай і недарэчнай. Ён праказаў вясёла з захаваным сьмяшком:

— Можа пан не адмовіцца павячэраць?

Злосьцю і пагардай бліснулі панскія вочы. Адвярнуўся, не глядзеў нават у бок Аснача. Але Аснач ведаў, што голад перапможа ўпартасьць.

— Хлопцы! Развяжэце пану рукі, няхай пасілкуецца троху...

Разьвязалі. Пан ня рушыўся з месца. Відаць, змагаўся з сабой. Але ўрэшце ня вытрымаў. Утупіўшы вочы, падышоў да стала. Больш не чакаў, каб прасілі, накінуўся на страву, як галодны звер. Мусіць, доўгі час нічога ня еў.

Як скончылі вячэру, як у ціхай сямейнай прытульнасьці зацягнуў сваю ветлую песьню самавар ля парога, Аснач заўважыў на вакне дошку шашак.

— А бач! Вось дык знаходка... А дзе шашкі? Дзядзька! — зьвярнуўся ён да гаспадара.

— А ліха іх ведае... Як быў сын у дварэ, гулялі часам хлопцы... А потым, мусіць, параскідаліся, бо гуляць няма каму, так вось валяюцца...

— Кепска, кепска. Але нішто, мы наробім...

Узяў кавалак хлеба і пачаў крышыць маленькімі шматкамі.

— Ну, сядай, хлопцы, згуляем...



Але з чырвонаармейцаў ніводзін ня ўмеў гуляць.

Аснач зірнуў у бок пана. Той сядзеў за сталом, упяўшы пагляд некуды ў пусты прасьцяг. Думаў усё. На твары цяпер спакой быў, ціхамірнасьць.

«Ці згуляе, ці не?»

Хочацца Асначу ў шашкі пагуляць, дужа хочацца. Шашкі — гэта ж яго ўцеха найпершая... Пэўна, гуляе пан, але ці згодзіцца? А цікава было б з ім...

Ён абярнуўся да пана, і той, схапянуўшыся, зірнуў на яго чакаючым поглядам.

— Можа згуляем партыю? — запытаўся Аснач.

— Давайце.

Узяў нейкую паперку з вакна і пачаў таксама, як і Аснач, гатаваць шашкі.

Расстанавілі — Аснач хлеб свой пакрышаны, а пан кавалкі паперы.

Чамусьці раптам заціхлі ўсе ў хаце. Армей-

цы падсунуліся бліжэй, глядзелі з цікавай усьмешкай.

Пачалася гульня. Вострая, едкая ціша агарнула хацёнку. Настойным, назойлівым гнётам павісла пытаньне:

— Хто каго?

Глядзела гэта пытаньне з цікавых вачэй армейцаў, з маўкліва-ўпятага ў шашаніцу погляду гаспадара. І нават гаспадыня, сноўдаючыся па хаце, часам падыходзіла да стала і зазірала на шашкі, хоць і не разумела ў іх нічагутка.

Аснач насупіўся. Упарта глядзеў на дошку, асьцярожна, зважна перастаўляў кавалачкі хлеба. І чым далей, тым больш і больш моршчыліся яго бровы, а вусы шавяліліся, як у таракана.

Дзіўная была гульня ў Аснача з панам. Абодва напружыліся, абодвых цалком захапіла адна вострая, палкая думка: каб не прайграць.

У Аснача пад звонку нібы зусім спакойным выглядам хавалася моцнае абурэньне. Адно зьвінела, гудзела ў мазгох: ён павінен абыграць, ён не павінен паддацца. Чаму — невядома, але так трэба, так павінна быць.

І нешта дзіўнае, нязвычайнае рабілася з Асначом. Ніколі ён ня гуляў з гэткім запалам. Быццам усёй істотай увашоў ён у шашкі, у гэтыя цьмяныя кавалачкі хлеба, усю моц сваю, волю ўклаў у іх. І здавалася, што гэта ня шашкі ўжо, што ня ў іх справа. Здавалася, што няма ўжо шашак, што зьніклі яны, распаўзьліся, разгарнуліся ў нешта вялікае, шырокае, у нешта бяз форм, без пачатку й канца. І асталіся тут толькі яны ўдвох — адзін проці аднаго — з гэтым панам, што блішчыць варожа вачмі, што ўсьміхаецца ўсьмешкай саманадзейнай.

Абыграць яго, перамагчы! Бо йначай — няма ведама што...

Гульня к канцу падыходзіла. Асталося па некальки шашак у кожнага. Абодва не паддаваліся.

Густою чырваньню пакрыўся акамянелы твар Аснача, вочы заблішчэлі агнём жорсткім, сталёвым. Упарта глядзеў на дошку. У ваччу ўжо ня хлебныя крошкі, а нейкія вялізныя камлыгі каменныя. Здаецца, заваліў бы, раструшчыў імі гэтыя заядлыя белыя паперкі. А разам з імі і гэтага ўпартага, злоснага ворага.

У парозе гаротна, недалужна пішчэў самавар. Усе на яго забыліся, усе абступілі гульцоў, з заціснутым дыханьнем чакалі, чым скончыцца. Ува ўсіх на твары відаць было шчырае спачуваньне Асначу, жаданьне, каб выйграў ён, не паддаўся. І разам — трывога, напружаная, палкая.

— А што, калі ды прайграе?..

Гэтак і вышла. Зрабіў Аснач ход дрэнны, няўдалы, і твар пана раптам зайграў давольнай, радаснай усьмешкай.

Аснач прайграў. Аснач паддаўся варожаму пану.

Раптам глыбокая цішыня стала жудаснай, злавеснай. Дзіўна дапасаваў ёй завыўны, жалобны посьвіст самавара.

Узьняўся Аснач. Упяў погляд проста ў твар пану. У гэтым поглядзе нешта гарэла, бушавала — шалёнае, лютае.

Пан таксама ўстаў. Сьмела глядзеў у твар Асначу, усьміхаўся злорадасна.

І вось тады здарылася тое, чаго, пэўна, ніхто не чакаў, што спалохам агнявым усіх агарнула.

Аснач выняў з кішэні наган і навёў яго ў пана. Стрэл быццам ускалануў, разадраў усю хату.

А пасьля — ціха стала, як у магіле. Пан марудна, паволі апусьціўся на лаву.

Аснач стаяў нярухома. Ня ведаў ён сам, нашто забіў пана, за што.

Дый ня думаў пра гэта. Нешта падказала з нутра, што трэба так, што павінен забіць, што вораг гэта кроўны, упарты,— узяў і забіў...

Усе моўчкі стаялі, спалоханыя. Усе ўзіраліся ў недалужна-паніклае панскае цела. І дзіўна, што ні ў кога ня мігнула ў гэты жудасны момант думка асуджэньня. Быццам усе згодны былі з Асначом, быццам кожны разважаў сваім простым, нямудрым розумам:

— Яму трэ было гэтак зрабіць...

Дык вось якая была адна партыя ў шашкі...

Гэта было тады, як у нашай краіне барацьба бушавала, як у сьмяротную бойку схапіліся былі паўстаўшыя работнікі з сваімі адвечнымі ворагамі — панамі.

Тады ня было меры мужычай моцы жалезнай, ня было меры й гневу народнаму, бурнаму...

# РУСКАЕ ВЯСЕЛЛЕ

Гадоў чатырнаццаць назад давялося мне з групай турыстаў пабываць у Парыжы. Турыст, як вядома, убачыць многа, але запомніць мала. Так і ў мяне ад той паездкі засталося толькі ўражанне калейдаскапічнай стракатасці ад убачанага ды адчуванне панічнай боязі адстаць ад групы і заблудзіцца ў вялізным аглушальна шумным горадзе. Нас павазілі па Парыжы і вакол Парыжа, паказалі вядомыя ўсяму свету славутасці — Эйфелеву вышку, сабор Божай маці, набярэжныя Сены і бульвары... Былі і ў знакамітым Луўры, дзе, гледзячы на шэдэўры мінулага часу, хацелася ўскрыкнуць: «Божа, чаму мастацтва не спынілася на гэтай ступені! Навошта потым з'явіліся розныя ізмы!..». І ўсё ж не славутыя мясціны і музеі асабліва ўразілі і ярка засталіся ў памяці, а дзве сустрэчы з рускімі парыжанамі: на вяселлі — з жывымі і на могілках — з мёртвымі.

Гідам нашым была маладзенькая студэнтка Эліза, мы яе, вядома, звалі на свой лад — Лізкай, Лізачкай, што ёй вельмі падабалася. Рускую мову яна вывучыла ў Маскве, дзе жыла разам з бацькам-дыпламатам і вучылася ў нашай школе некалькі гадоў.

За два дні да канца нашага турысцкага тэрміну Ліза прывяла нас вячэраць у невялікі ўтульны рэстаранчык, густа абвіты плюшчом, і весела паведаміла, наіўна верачы, што гэтаму мы ўсе ўзрадуемся:

— Рэстаран называецца «Волга», і тут часта збіраюцца рускія.

Наш старшы групы — мы яго толькі так і называлі, хоць ведалі, што ён Аркадзь Канстанцінавіч,— насцярожыўся, падазрона спытаў:

— Гаспадар яго — белагвардзеец?

— Што такое белагвардзеец? — не зразумела яна.

— Ну тыя, якія паўцякалі ад рэвалюцыі і ваявалі супраць яе.

— Не, гаспадар — француз мсье Антуан Жэрар.

Старшы падумаў, сказаў:

— Тады можна.— Аднак ён не пазбавіўся канчаткова насцярожлівасці і неспакойнага роздуму.— Паявчэраем, праўда ж? — Зірнуў ён на мяне з-пад крутога надброўя, чакаў падтрымкі.

— А чаму ж не, нават цікава пабыць у рускім рэстаране,— адказаў я і гэтым яго супакоіў.

Са старшым у мяне было ўжо некалькі сутычак-спрэчак, і ў тых спрэчках большасць групы была на маім баку, таму, адчуўшы ўва мне негалоснае лідэрства, старшы і звяртаўся час ад часу да мяне за парадай. Далучыўся гэты старшы да нашай групы ў Маскве. Служачы «Інтурыста» прадставіў яго нам, назваў старшым і строга папярэдзіў слухацца яго. Тады ж старшы адразу правёў з намі падрабязны інструктаж, як павінны мы паводзіць сябе за граніцай. Асноўнае — пільнасць, пільнасць і яшчэ раз пільнасць, ніякага кантакту з незнаёмымі і падазронымі людзьмі, бо можа быць правакацыя, і каб без ведама старшага ніхто не адлучыўся з групы нават на мінуту. Інструктаж мы прынялі, запомнілі, вядома ж, дысцыпліна павінна быць усюды, а тым больш у такой адказнай паездцы за граніцу.

Старшы мне не спадабаўся, неяк інтуітыўна не прыняў я яго з самага пачатку. Было яму гадоў пад пяцьдзесят, здаравяк, з крутымі плячамі, тоўстай моцнай шыяй, з простым, нейкім безаблічным тварам. Шпікоў з такімі тварамі пасылаюць дзяжурыць у натоўпе — сустрэнешся з ім, слізганеш позіркам, як па пустым месцы, і пройдзеш міма. Ён назваўся гісторыкам, спецыялістам па гісторыі партыі і, здаецца, добра ведаў гістарычныя факты, даты, падзеі. Толькі вось ацэнкі гэтых фактаў часта здзіўлялі, былі на ўзроўні палітычнага лікбезу саракавых гадоў.

У рэстаране дзве залы — большая, куды нас і завяла Ліза, і меншая, адгароджаная ад большай драўлянай рашоткай. Нізка над сталамі віселі бронзавыя на бронзавых ланцужках люстры з лямпачкамі па форме свечак. Свяціліся яны цьмяна, што рабіла залу ўтульнай, хатняй. У такой утульнасці міжвольна захочацца наведвальніку пасядзець, ціхамірна пагаварыць з блізкім чалавекам або проста пра нешта спакойнае падумаць. Невялікая група наша размясцілася па шэсць чалавек за кожным сталом. Я сеў, як заўсёды, з земляком-мінчанінам, дацэнтам аднаго з інстытутаў Эдуардам Палікарпавічам, негаваркім, задужа спакойным, абыякавым і халодным, як рыба, яўным флегматыкам. Мяне здзіўляла, што ў яго, вучонага, адсутнічала ці-



# Ў ПАРЫЖЫ

**Васіль ХОМЧАНКА**



АПАВЯДАННЕ

каўнасць да іншых людзей, іх жыцця, і ён за гэтыя турысцкія дні ні ў кога не пытаўся пра тое, што не магло тычыцца яго самога. Не пацікавіўся і маёй службай, заняткам. Спачатку яго халоднасць і маўклівасць мяне нават крыху раздражняла, а пасля спадабалася: усё ж лепш быць з маўчуном, чым з назолай, балбатуном. Таму я і пасяліўся з ім у адзін нумар гасцініцы, стараўся садзіцца побач і ў аўтобусе.

Пасля дзённай беганіны, спешкі мы вельмі стаміліся, да таго ж недаспалі, паднялі нас амаль на досвітку, ногі гудзелі, рук не паднімеш. Недасыпалі мы кожны дзень — то позна клаліся, то ўставалі рана. Маршруты былі густа насычаны планамі агляду, стараліся нічога не прапусціць, усюды пабыць, усё запланаванае пагладзець. У той вечар я стаміўся так, што і есці не хацелася, было адно жаданне нерухома сядзець, заплюшчыўшы вочы, а то і заснуць.

У большай зале, акрамя нас, сядзела толькі адна маладзенькая парачка, а ў малой быў ціхі банкет за двума ссунутымі сталамі. Праз рашотку-перагародку я, кінуўшы туды кароткі позірк, убачыў нейкіх старых, мужчын і жанчын. І яны мяне не зацікавілі. Там елі, пілі, нешта гаварылі, па чарзе ўстаючы з бакалам у руцэ. Заўважыў, як паміж старым і старой уціснулася, вынырнуўшы на ўзроўні іх плячэй, малая з пышным сінім бантам на беленькай макаўцы.

Ліза пагаварыла са служыцелем рэстарана, развіталася з намі і пайшла. Мы адпусцілі яе, бо дасталася за дзень і ёй, няхай выспіцца.

Вячэра наша затрымлівалася, але мы і не прыспешвалі афіцыянта, аддыхаліся пасля тлумнага турысцкага дня. Эдуард Палікарпавіч спаў у крэсле, гучна сапучы носам. Гэтак жа заснуць і мне хацелася, вочы зліпаліся, і, можа, заснуў бы, калі б не старшы, які, усеўшыся за тым жа сталом, раз-пораз загаворваў са мной.

Нарэшце прынеслі і вячэру. Пах смажанай бараніны з нейкай вострай прыправай уразу усіх абудзіў, усе ажывіліся, а каўказец Сардараў устаў і сваім гучным гартанным голасам нам пажадаў:

— Дарагія турысты, галодныя і стомленыя пакутнікі, хлеб-соль вам на стале, як раней жадалі. А па-сучаснаму — прыемнага апетыту!

І вось пасля гэтага яго тоста-ўскрыку мы ўбачылі, як там, за перагародкай, усе прыціхлі і павярнуліся ў наш бок. Дзяўчынка, з сінім бантам на галаве, вылезла з-за стала, падышла да нас.

— Добры вечар,— павіталася яна па-руску, але з дужа прыкметным французскім акцэнтам.

Залацістыя пышныя валасы яе былі вольна, нават артыстычна-беспарадкава раскінуты на плечыках, на нагах да калень нацягнуты белыя гольфікі з пампончыкамі, а плацейка — з вышыванымі строчкамі на падоле. Вочы дзяўчынкі сінелі іскрынкамі, на твары — выраз цікаўнасці да нас і ганарлівае адчуванне сваёй мілавіднасці — зірніце, вось якая я прыгожанькая!

Мы адказалі на яе добры вечар, а Элеанора Патапаўна, валжанка, жанчына чулліва-сентыментальная, адразу ўзяла дзяўчынку за руку, прыцягнула да сябе.

— А як цябе зваць? — спытала яна.

— Мары́,— адказала дзяўчынка і загаварыла па-французску, пацешна па-даросламу жэстыкулюючы рукамі.

Жанна-мурманчанка, высокая дзяўчына-акулярык,— яна адзіная з групы ведала французскую мову,— пераклала.

— Дзяўчынка Мары сказала, што яе ахрысцілі Марфай, дома ўсе завуць Марфачкай, а для сяброўак яна — Мары.

— Руская, значыць,— радасна заўсміхалася Элеанора Патапаўна, дастала з сумкі матрошку, дала ёй.

— Мерсі,— прысела Мары́-Марфачка,— спасі-ба.

Яна не была знаёма з тайнай матрошкі, не ведала, што трэба яе раскруціць, каб дастаць адтуль меншую, а палічыла, што гэта проста драўляная лялька, прытуліла яе да грудзей і пакалыхала. Потым сказала яшчэ раз «спасіба» і пайшла да сваіх.

Старшы нахмурыўся, пачаў углядацца ў тую банкетную залу на застольнікаў.

— Эге,— прамовіў ён,— там жа вяселле, вунь і нявеста з жаніхом. І па-руску гавораць. Яшчэ не хапала нам такога суседства.

— Ой, вяселле! Рускае! — ускрыкнула ўзрадаваная Элеанора Патапаўна.— Давайце пазнаёмімся з імі.

Верхняя губа старшага капрызліва накрыла ніжнюю.

— Нечага знаёміцца, невядома, хто яны.

Я адсунуў сваё крэсла крыху ўбок і таксама ўбачыў нявесту ў белым вясельным плацці з кароткім вэлюмам, і жаніха побач, у чорным, з рыжаватымі лахматымі ба́камі. Жаніху і нявесце гадоў не больш як па дзевятнаццаці. Яны прыціснуліся плячамі адно да аднаго, раз-пораз дакраналіся шчакой да шчакі і смяяліся.

Вяселле ўсюды выклікае ў людзей радасную цікаўнасць. Нават у змрочнага, стомленага чалавека, які ўбачыць шчаслівых жаніха і нявесту, святлее твар і душа весялее. Так і мы глядзелі на вяселле з добразычлівымі ўсмешкамі, успомніўшы сваю маладосць і пазайздросціўшы маладым і іх каханню, тайны якога ім яшчэ раскрываюцца.

Мы з'елі смачную бараніну, яшчэ раз паслаўшы пахвалу французскай кухні, выпілі па бакалу чырвонага кіславатага віна. Стома прайшла, мы ўзбадзёрыліся, павесялелі, і захацелася, кажучы па-руску, о б щ е н и я з тымі, хто спраўляў вяселле. Сардараў з бакалам віна падышоў да вясельнай сябрыны, спыніўся перад нявестай і жаніхом, карцінна, па-рыцарску пакланіўся ім.

— Маладую цудоўную нявесту і цудоўнага маладога жаніха віншую з законным шлюбам,— урачыста-тэатральна мовіў ён.— Жадаю, так сказаць, доўгіх гадоў шчаслівага сямейнага жыцця і вялікую кучу дзяцей. І каб жылі вы ў сямейнай згодзе, не сварыліся, не біліся. Адным словам, каб вы былі шчаслівыя. Гэта гавару вам я, Віктар Сардараў.— Ён дзынкнуў сваім бакалам спачатку аб нявесцін, потым аб жаніхоў бакалы, гэткім заліхвацкім махам выпіў віно і з размаху ўдарыў бакал аб падлогу.— На шчасце! — крыкнуў ён.

«Ура» вясельнікі не закрычалі, наадварот, там гэты звычай на нашых вяселлях біць посуд на шчасце выклікаў разгубленасць, няёмкасць. Самы стары, відаць, галоўны на вяселлі, я яго патрыярхам назваў, як потым даведаліся, ён быў прадзедам нявесты, папрасіў прабачэння ў афіцыянта, які адразу ж кінуўся збіраць асколкі, і нешта яму заплаціў. Даў грошы афіцыянту і Сардараў.

— Дурань,— асудзіў учынак Сардарава старшы,— бакал — гэта ж валюта. У яго што, франкаў засталося багата?



Утварылася няёмкая паўза, ці па-нашаму заціш, сёй-той з турыстаў ужо гатоў быў пакінуць рэстаран, і, можа, усе б пайшлі, каб не той жа Сардараў. Ён аб'явіў, што за сталом толькі рускія і можа каму землякамі прыходзяцца. Ну а землякоў сустрэць у далёкім краі, вядома ж, цікава. Я, Элеанора Патапаўна, Жанна, і ўслед за намі яшчэ некалькі турыстаў узнялі свае бакалы з недапітым віном, падышлі да вяселля, пачалі чокацца з вясельнікамі, жадалі, як водзіцца, маладым і іх радні тое, што жадаюць на ўсіх вяселлях свету. І гэтыя нашы пажаданні, наша добразычлівасць кранолі больш старых, чым жаніха і нявесту. А старых было пяцёра — той патрыярх, дзядок, трохі маладзейшы за патрыярха, і чатыры жанчыны. Астатнія — людзі нашага ўзросту, сярэдняга. Патрыярх, ён назваўся Парамонам Іванавічам, быў хоць і вельмі стары, але рухавы, жвавы, гладкія шчочкі пунсавелі спелымі яблычкамі, вочы, не затуманеныя старэчымі слязамі, глядзелі зырка. І вось гэтыя старыя пры кожным нашым пажаданні шчасця ўставалі, дзякавалі, кланяліся, з усёй сур'ёзнай павагай прымаючы тыя пажаданні. Жаніх Сяргей таксама па прыкладу старых кланяўся, але так, для прыблізу, лянівым кіўком галавы. Нявеста Машанька глядзела з непасрэднай дзіцячай цікаўнасцю на кожнага, хто ёй жадаў шчасця, хто стукаўся бакалам, і ўсміхалася шчыра, з радасцю, кожны раз паўтараючы «спасіба». Па-руску яна гаварыла і разумела амаль усё, а калі што не разумела, пыталася ў прадзеда Парамона Іванавіча. Напрыклад, не ведала, што такое выпіць на пасашок, п'яны ў сцельку, давай закругляцца... Прадзед ёй тлумачыў, і яна пацешна паўтарала гэтыя выслоўі і смяялася.

Рускія застаюцца рускімі ў любой кампаніі — ім песню давай. Мы, турысты, і пачалі спяваць. Аднак ніхто з нас ніводнай песні да канца не ведаў, таму запявалі каму якая прыйдзе ў галаву. Такія вось: «На нем защитна гимнастёрка, она с ума меня свела», або «Парней так много холостых, а я люблю женатого».

Маўклівы Эдуард Палікарпавіч не вытрымаў:

— Што пяём? Лухту розную.— Ён замахаў рукамі на безгалосых спевакоў і, калі тыя прыціхлі, зацягнуў прыемным барытонам:

> **По Муромской дороге**
> **Стояли три сосны.**
> **Прощался со мной милый**
> **До будущей весны.**

Як загарэліся ў старых вочы, як наструніліся яны ўвагаю, выпраміліся! Старая ў сівым парыку падхапіла песню, шчокі яе ўраз запалымнелі. Услед за ёю і іншыя старыя падладзіліся пад песню. Ну і мы, турысты, падключыліся, хоць, акрамя Эдуарда Палікарпавіча, ніхто ўсіх слоў песні не ведаў.

У Эдуарда Палікарпавіча быў не толькі прыгожы голас, але і дырыжорскія здольнасці. Калі песня скончылася, я запляскаў што было сілы, мяне падтрымалі ўсе, у тым ліку і малая Марфачка-Мары. Яна пляскала, не выпускаючы з рук матрошкі.

Скончылі гэту песню, і старая ў парыку пачала пра рабіну, пра тую, што стаіць, хістаецца і не можа перабрацца да дуба. Голас у старой, якой было гадоў за семдзесят, на здзіўленне малады, звонкі, песня ёю не проста пелася, а вылівалася з душы тым шчырай тугою, што ніхто не асмеліўся далучыць свой голас, каб не сапсаваць песню. Сардараў, калі старая скончыла спяваць, ухапіў яе за руку, пацалаваў, крыкнуў «брава».

Я потым спытаў у яе, ці не спявала яна на сцэне.

— Спявала ў адным малавядомым хоры. Але ўсё жыццё марыла пра оперную сцэну. Сцэну Вялікага маскоўскага,— прызналася яна і паспрабавала ўсміхнуцца. Усхваляваная і ад песні, і ад увагі і пахвалы, якую ад нас заслужыла, яна дыхала часта і раз-пораз прыкладвала да вачэй хусцінку.

Старшы ўжо некалькі разоў напамінаў, што пара ісці ў гасцініцу, прасіў мяне, каб я памог вывесці групу з рэстарана. «А то братацца вунь пачалі, рукі эмігрантам цалуюць». Я не памог, а наадварот сказаў тым, хто сабраўся ісці, каб яшчэ пасядзелі, бо на вяселлі сядзець цікава. Неўзабаве ў меншую залу перабралася ўся група, афіцыянт, каб нам было там прасторна, плячом штурхнуў рашотку-перагародку, і яна лёгка адпаўзла да сцяны, зрабіўшы з дзвюх залаў адну. Неўтаймоўны Сардараў падсунуў наш стол да вясельнага, Элеанора Патапаўна прыставіла да гэтага яшчэ адзін, паднеслі крэслы, уселіся ў іх і ўраз прыціхлі, бо адчулі няёмкасць за гэтае, можна сказаць, нахабнае ўварванне да вясельнага стала, нібыта прыселі, напрошваючыся на пачастунак. Падсунутыя намі сталы былі пустыя, афіцыянт паспеў ужо ўсё з іх прыбраць. Сёй-той з нас палез у кішэні па грошы, каб нешта заказаць, паставіць на пустыя сталы. Але што было ў тых кішэнях у канцы турысцкага тэрміну — слёзы, а не грошы. І ўсё ж выкруціліся і зусім нечакана. Ціхая дзяўчына-акулярык Жанна, якую ў час нашага падарожжа мы неяк і не заўважалі, і яна сама не старалася вылучыцца, бо не было перад кім вылучацца,— мужчыны ў групе — жанатыя, немаладыя,— дастала з сумкі бутэльку сталічнай і паставіла на стол. Сардараў закрычаў «Ура Жанне!» і пацалаваў яе, схапіў тую бутэльку прагнай спрытнай хваткай.

— Чалавек, чаркі! — крыкнуў ён афіцыянту, узмахнуўшы ўверх бутэлькай.

У патрыярха, калі ён убачыў гарэлку, заіскрыліся вочы, шчокі-яблычкі яшчэ ярчэй зарумяніліся, ён ляпнуў у далоні і нецярпліва пацёр іх — такі вядомы нам застольны рускі жэст!

— Гаспадзін Сардараў, давайце памяняемся,— сказаў ён.— Нам гарэлку, вам віно.

Сардараў, які ўжо ўзяўся за вушка накрыўкі, каб сарваць яе з рыльца, перадаў сталічную патрыярху, а той яму — дзве бутэлькі віна.

— Правільна,— сказаў Сардараў, як бы апраўдваючыся перад намі,— на рускім вяселлі павінна быць і рускае пітво.

Віно было духмянае, слабае, жаночае віно, і нам спадабалася. Праз нейкі час нашай агульнай сябрыны вясельнікі і госці перамяшаліся, многія павылазілі з-за сталоў, разбіліся на купкі, пачаліся свае гаворкі ў кожнай купы. Я разгаварыўся з Дар'яй Азараўнай, той старой у парыку, што прыгожа спявала, і яна, дазедаўшыся, што я служыў ва Уладзіміры, учапілася з роспытамі пра гэты край, бо сама была адтуль, там род яе жыў стагоддзі, там, на Уладзіміршчыне, яна нарадзілася, прайшло дзяцінства. Дар'я Азараўна ўзяла мяне за руку і трымала так, нібы я быў тым правадком, што мог звязаць яе з радзімай, і яна старалася хоць вось так далучыцца да таго мінулага шчаслівага часу, зноў апынуцца там, усё ўбачыць, паўтарыць, адчуць яго пульс. Нарадзілася яна ў старажытным горадзе над Акой, называць яго я не буду.

— Божа мой, Ака, наш дом на беразе!— хвалявалася яна, і на твары яе ўспыхвалі чырвоныя плямы.— Скажыце, царква Ваздзвіжанская стаіць? У самым цэнтры горада, стаіць? Яе мой дзед збудаваў за свае грошы і падарыў прыхаджанам. У ёй і мяне хрысцілі.

Я пацвердзіў, што царква жывая і служба там ідзе, хоць ведаў, што яе даўно абезгаловілі і дагнівае яна напаўразбураная.

— Якія званы ў ёй былі! Калі я, малая, чула іх перазвоны, то дзе б ні была, спынялася, каб паслухаць, і хрысцілася.

Дар'я Азараўна называла вуліцы горада, але ніводнай старой назвы не захавалася, былі яны, як і ў кожным нашым горадзе, перайменаваны ў Пралетарскую, Урыцкага, Валадарскага, Свярдлова, Прафсаюзную, замест ранейшых Ніжнегародскай, Стралецкай, Пушкарскай, Нікольскай, Дзмітрыеўскай... Я не стаў яе расчароўваць, гаварыў, што назвы гэтых вуліц захаваліся, і яны папрыгажэлі, бо пакрылі іх асфальтам, і на іх шмат новых дамоў збудавалі.

— А не помніце, на Самарскай, што ўздоўж Акі ляжыць, застаўся двухпавярховы дом, з чырвонай цэглы, на ім мезанін і высокі такі шпіль з пеўнікам-флюгерам?— спыталася яна і прытаілася ў чаканні адказу.

Я стаў прыпамінаць, дзе ж гэта былая Самарская вуліца, якую назву яна цяпер атрымала. Успомніў — цяпер яна вуліца Карла Маркса, і той дом, пра які яна спытала, стаіць, у ім нейкія медыцынскія установы, здаецца, санэпідэмічная станцыя.

— Стаіць дом, стаіць! Там жывуць... дзве сям'і ўрачоў,— схлусіў я.

Яна склала на грудзях рукі, як для малення, радасна, з палёгкай уздыхнула.

— Дзякуй богу, жывы, значыць, дом. Там на двары я бярозку пасадзіла, малюсенькую. Вось такую,— паказала яна на пальцы.

У той гаворцы з Дар'яй Азараўнай я многае даведаўся пра яе жыццё. Узрадаваная маёй цікаўнасцю да яе, яна і расказала пра свой дваранскі род Сіліных.

— На Барадзінскім полі камандаваў батарэяй Сілін. Загінуў. У Крымскай вайне пад Севастопалем гардэмарын Сілін вызначыўся, чулі? У вайне з японцамі капітан другога рангу Сілін загінуў разам з караблём. А на Балтыйскім у чатырнаццатым капітан-лейтэнант Сілін патапіў нямецкі мінаносец. Можа, чулі?

Не чуў я пра Сіліных і нідзе не чытаў пра іх ваенныя подзвігі. У наш час не вельмі ўсхваляліся подзвігі на так званых несправядлівых войнах.

Скончылася жыццё Дар'і Азараўны ў Расіі гэтак жа, як і ў больш чым трох мільёнаў эмігрантаў, што апынуліся за мяжой пасля семнаццатага года. Яе дзяўчынкай вывезлі бацькі за граніцу. На мае роспыты, што ж прымусіла іх уцячы за граніцу, Дар'я Азараўна прызналася:

— Што прымусіла? Мы сталі нічым, ніхто, бяспраўныя. Усё ў нас забралі. Выселілі з дома — жывіце, дзе хочаце, вы — эксплуататары. Маці служыла нейкі час у лазарэце. Бацьку нікуды не брали. І картак на хлеб былі пазбаўлены... Паехалі ў Адэсу да радні. Прыехалі, а тыя самі засталіся ні з чым. Памучыліся там і выбраліся шукаць долю ў Францыю. У Расіі застаўся мой старэйшы брат Андрэй Сілін. Ён тады ў Сібіры на чыгунцы служыў інжынерам-пуцейцам. Не сустракалі такога? Да трыццаць чацвёртага мы перапісваліся з ім. А потым чамусьці ён не стаў нам пісаць. Сям'я ў яго была... Што з імі, не ведаю, на нашы пісьмы адказу не атрымалі.— Прызналася, што другі яе брат, Цімафей Сілін, у гэту вайну быў макі — партызан, пасля вайны — журналіст, вершы пісаў.

Яна зноў узяла мяне за руку.

— Вы не думайце пра нас благое. Мы Расіі жадаем долі шчаслівай, бо мы рускімі засталіся. Рускімі. Уся наша радня.

Я паказаў на патрыярха і яго старых суседзяў.

— Гэта таксама Сіліны?

— Парамон Іванавіч — мой дзядзька. Праскоўя Азараўна — сястра, што справа ад яго сядзіць. Астатнія — радня далёкая. Мы ўсе тады і прыбылі ў Францыю. Разам з Іванам Аляксеевічам плылі на параходзе. Ледзь не затанулі.

— З якім Іванам Аляксеевічам?

— З пісьменнікам Буніным. Няўжо яго не ведаеце?

— Ведаю. Пачалі ў нас выдаваць і яго кнігі.

— Выдаваць, калі памёр?

— Калі памёр.

Дар'я Азараўна пачала мне называць вясельнікаў па іменах, і былі тыя імёны па-сапраўднаму рускія: Парамон, Фёдар, Агаф'я, Праскоўя... І мне зрабілася няёмка за імёны нашых турыстаў: у групе — Эдуард, Жанна, Элеанора, Аліна, Нэлі... Быццам не з Русі яны, а з Марсэля ці з Жэневы.

Я сказаў Дар'і Азараўне — узяла б яна ды прыехала на сваю радзіму, паглядзела б на родны кут.

— Баюся, не вытрымае сэрца. Ды і да каго ехаць? Вось каб брат Андрэй знайшоўся, адгукнуўся?

Мы зноў уселіся за сталы — так скамандаваў Сардараў. Пайшлі ўсе тыя ж пажаданні маладым, праспявалі агулам песню пра бярозаньку, што ў полі стаяла. Сардараў выдаў некалькі каўказскіх анекдотаў пра маладажонаў, пасмяяліся.

Расталіся з вяселлем у адзінаццатай гадзіне вечара. Мы пайшлі, а вяселле працягвалася. Сумнае вяселле, ціхае, вартае жалю, зусім не такое, як большасць нашых: грымлівых, шматлюдных. Ішлі мы да гасцініцы сцішаныя, з адчуваннем нейкай віны, быццам зрабілі нейкі не зусім правільны ўчынак. На душы была неспакойная шчымлівая трывога, таму кожны і маўчаў. Толькі старшы не маўчаў, выказваў сваё абурэнне:

— Рассапліваліся... Суайчыннікаў сустрэлі. Ды іх на белым свеце процьма. Мільёны паўцякалі ад рэвалюцыі. Сябры Расіі... Нечага было ўцякаць.

— Усё роўна іх шкада,— не ўтрымалася Жанна.— Шкада.

Старшы прыпыніўся каля яе, ссунуў бровы, верхняя губа налегла на ніжнюю.

— Якая жаласлівая знайшлася,— пакруціў ён галавой.— Улічы, жаласць — штука апасная, аб

яе можна балюча спатыкнуцца. Ты яшчэ маладая, не разумееш многага.

Назаўтра, гэта была апошняя паездка па маршруту, мы апынуліся недалёка ад Парыжа ў прадмесці Святая Жэнеўева, ці, дакладней, Сен-Жэнеўеў-дэ-Буа. Гід наш Ліза спыніла ў адным месцы аўтобус, выйшла з яго і памахала нам рукой, каб і мы выйшлі.

— Во,— паказала яна на белую цэркаўку з праваслаўным крыжам на яе макаўцы,— рускія могілкі. Там спяць вашы знакамітыя суайчыннікі. Можаце паглядзець.

І хоць наведаць могілкі не ўваходзіла ў нашы планы, але мы падаліся за Лізай. Старшы быў запратэставаў, сказаў, што могілкі нас не цікавяць, нам бы паспець паглядзець, што запланавана, яго не паслухаліся.

І вось мы каля могілак. Абнесены яны белай агароджай, а за ёю, вачам не верыцца, белыя бярозы і елкі. Вядома ж, прывезлі іх з Расіі. Ліза адчыніла веснічкі, і мы нібы трапілі ў Падмаскоўе — тыповы рускі куток! Белая прысадзістая цэркаўка з каменнымі прыступкамі, малы цвінтар — толькі размінуцца дваім, перад цэркаўкай пасыпаныя чырвоным жвірам дарожкі... Цішыня, спакой, туга, бязлюддзе... Ліза зайшла ў домік — старожку ці кантору, папрасіла дазволу наведаць рускім турыстам могілкі. Нам дазволілі. Выйшла з Лізай дзяжурная папячыцельніца могілак, старая дама ў чорным, і павяла нас па вузкай сцяжынцы, растлумачыўшы, што ў тым месцы спачываюць людзі знакамітыя, тыя, хто пакінуў пра сябе памяць у рускай культуры і гісторыі, мімаходзь паказала на царкву, сказала:

— Распісаў яе мастак Альберт Бенуа.

Магілы ляжалі цесна адна каля адной — зямля пад Парыжам дарагая. І колькі ж там было славутасцей! Колькі імёнаў бліскучых, усе яны славіліся і ў нас, у Расіі, і тут, у Францыі, тварылі, пра сябе заявілі ўсяму свету, праславілі і Расію, і сябе... У нас многія гады імёны іх выкрэсліваліся, замоўчваліся, адносіліся да іх з варожай падазронасцю.

«Иван Алексеевич Бунин — 1870—1953». З ім яго жонка. Адзін сціплы помнік на дваіх. Такі ж і яшчэ больш працейшы помнік і ў пісьменніка Івана Шмялёва з жонкай Вольгай... Недалёка ад іх пісьменнікі А. Рэмізаў, Барыс Зайцаў, Тэфі... Мастакі Каровін, Сомаў, Дабужынскі, Макоўскі, Сцялецкі, Серабракова Зінаіда — нядаўна яе юбілей у нас шырока адзначаўся. На магіле мастака Сяргея Макоўскага — крыж з белага мармуру. Артысты Мазжухін, Крыжаноўская, балерына Трэфелева... «Светлейшая Княгиня Мария Феликсовна Романовская-Красинская — заслуженная артистка императорских театров Матильда Кшешинская. 1 сентября 1877—6 декабря 1971». Паблізу з ёю магіла прымы-балерыны Рускага імператарскага тэатра Вольгі Праабражэнскай... Магілу вучонага хіміка з сусветным імем Аляксея Чычыбабіна ўвянчаў чорны камень.

Князь Юсупаў, графіня Паніна, княгіні і графы, палкоўнікі, ротмістры, паручнікі ў адстаўцы...

Колькі журботнага, горкага, трагічнага было ў жыцці гэтых людзей, якія спяць тут пад чужым небам. У канцы жыцця свайго многія з іх прасілі у Радзімы даравання, каяліся перад ёю. На крыжы адстаўнога ротмістра медная дошчачка з налётам зелені са словамі: «С мыслию о Матери-Родине России. Прости меня».

Папячыцельніца моўчкі падвяла нас да запушчанай і закінутай магілы са слаба чытэльнымі літарамі на камені. І я прачытаў: «Да придет Царство твое!» А далей прозвішчы і даты нараджэння і смерці Дзмітрыя Мяражкоўскага і Зінаіды Гіпіус. Гэтыя так і не пераадолелі ў сабе непрыняцця новай Расіі, заставаліся для яе да самай смерці чужымі.

Папячыцельніца нам амаль нічога не тлумачыла, падводзіла да магілы, спынялася сама перад ёю і, калі мы ў яе не пыталі нічога, не прасілі тлумачэнняў, маўчала. Толькі каля магілы маладзенькай княгіні Вікі Абаленскай дама-папячыцельніца перахрысцілася і сказала:

— Юная гераіня французскага Супраціўлення. Фашысты ёй адсеклі галаву.

Жанна ўпала перад магілай на калені, пастаяла так са скамянелым тварам, а Элеанора Патапаўна усхліпнула.

Той асенні дзень быў пахмурны, неба шэрае, без сіняй прасветліны, з яго сачылася імжа, голле голых бяроз блішчэла ад кропель, апалае лісце ляжала пятакамі на магілах, на дарожках. На плоце сядзелі некалькі варон і сумна глядзелі на нас, нерухомыя, як мёртвыя. Мы вельмі шкадавалі, што зайшлі на могілкі без кветак. А трэба б было хоць па пялёстку ды пакласці на многія з гэтых магіл.

На выхадзе я звярнуў увагу на параўнальна свежы пагорачак, на якім быў яшчэ толькі часовы драўляны крыж. І на ім прачытаў кароткае: «Тимофей Азарович Силин». Я адразу ж успомніў Дар'ю Азараўну, гэта ж яе тут брат. Паказаў на магілу Эдуарду Палікарпавічу і старшаму, яны якраз былі побач са мной, сказаў, хто гэта такі.

Эдуард Палікарпавіч уздыхнуў, сказаў, каб гэтаму Цімафею зямля была пухам. А старшы нічога не сказаў, толькі некалькі разоў азірнуўся то на мяне, то на тую магілу, крута павярнуўся і, абганяючы ўсіх, паспяшаўся да аўтобуса.

У гэты вечар у гасцініцы, перад тым, як разысціся па нумарах, мы, некалькі мужчын, прыселі ў холе пакурыць, пагаварыць. Эдуард Палікарпавіч зноў стаў ранейшым маўчуном, нібы надзеў на сябе тогу маўчання. Які ўсё-такі бывае розны чалавек у розных абставінах. Сядзеў ён і маўчаў, не курыў, як іншыя, а потым нешта пачаў запісваць у сваёй запісной кніжцы.

— Гэта ахвяры складанага часу,— нечакана прамовіў ён, відаць, прачытаў тое, што запісаў, устаў і пайшоў. Вядома ж, ён меў на ўвазе тых рускіх, што ляжаць там у зямлі парыжскага прадмесця.

— Ахвяры,— хмыкнуў старшы, калі мы засталіся з ім удвух.— А хто іх гнаў сюды? Самі ўцякалі.— Зірнуў на мяне з хітрай усмешачкай.— А я чуў вашу гаворку з той дамай, дваранкай Дар'яй Азараўнай. Вядомыя былі на Уладзіміршчыне дваране... Царкву свету падарылі, школку...

— А ці ж гэта дрэнна?

А ён быццам мяне і не пачуў, працягваў сваё:

— Радню сваю ў Савецкім Саюзе шукае. Быццам тая радня ў тыя гады адгукнулася б, пабегла да яе з распасцёртымі рукамі — мы тут, вось мы! Калі хто і жывы з яе радні, дык усе гэтыя гады таіўся, баяўся, што дазнаюцца пра радню за граніцай. Як вы думаеце, прасвятліла б вас такая адзнака ў анкеце: за граніцай ёсць сваякі!— сястра, брат і гэтак далей? Не, пабаяліся б такой анкеты.— Ён наблізіў да мяне твар, вытарашчыў вочы, падняўшы бровы на вузкім ілбе ледзь не да валасоў.— А пра Уладзімір, Мурам я расказаў бы Дар'і Азараўне больш за цябе. І пра радню яе, Андрэя Сіліна.— Надаўшы сваёй усмешачцы загадкавасць, спытаў амаль шэптам:

— Як прозвішча Дар'і Азараўны?

— Вы ж ведаеце, Сіліна.

— А маё?

І тут нібы абпякло мой мозг — дык жа і ў старшага такое ж прозвішча: Сілін Аркадзь Андрэевіч, і ён таксама з Уладзіміра.

— Вы не з тых... Сіліных?— спытаў я.

— На Русі Сіліных — гаць гаці... Ну а калі б я і быў з тых?— адхіснуўся ён ад мяне і пільна не спускаў вачэй з майго твару.

— І вам не хацелася б распытаць пра ўсіх іх, пазнаёміцца, расказаць пра сябе?

— Не хацелася, ніколечкі.— Старшы гэтак жа ўсё глядзеў на мяне немігаючым рысіным позіркам, потым паківаў асуджальна галавой, бадзёра, па-салдацку ўстаў і пайшоў у свой нумар.

Раніцай я прачнуўся першы. Сусед Эдуард Палікарпавіч яшчэ спаў. Запісная кніжка яго ляжала разгорнутая на століку, што стаяў паміж нашымі ложкамі. Сусед пісаў буйнымі, павучнёўску правільнымі літарамі, і я, зірнуўшы на адкрытую старонку, міжвольна прачытаў:

«Не магу, не ўмею ўявіць сабе рускага чалавека, які б ён ні быў прапашчы і кончаны, не магу ўявіць рускага, які хоць бы часам хоць бы начамі не адчуваў горычы і тугі па сваёй Радзіме і не ўсведамляў сябе ў блізкасці да яе, не марыў убачыць яе зноў, прасіць, каб яна прыняла яго...».

У гэты ж дзень мы вылецелі з Парыжа ў Маскву.

**Малюнкі Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.**



# НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

## ЧЭРВЕНЬ

3/21. Сб. **АЛЕНА** (або **Ульяна**)— дзень ільну.
4/22. Н. **ВАСІЛІСКА** («Ад Васіліска і салавей блізка»).
5/23. П. Дзень памяці **ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ** (Прадславы; каля 1120—3 мая 1173)— полацкай князёўны-асветніцы.
8/26. Ч. **УШЭСЦЕ (Ушэснік, Шоснік)**— дзень агляду жыта; чацвер на шостым тыдні пасля Паскі. Абрад ВАДЖЭННЯ І ПАХАВАННЯ «Стралы».
14/1. С. **ЮСТЫН** — ахоўнік канапель («Юстын цягне ўверх каноплі»).
**ГРАДАВАЯ (Пераплаўная, Крывая) СЕРАДА** — дзень перад Тройцай, які лічыцца небяспечным для палявых работ.
16/3. Пт. **СЕМУШНЫЯ (Траецкія, Сярэднія) ДЗЯДЫ.**
17/4. Сб. **ДУХАВАЯ СУБОТА** (Святы дух)— дзяды перад Тройцай. («На Духа будзець цёпла і суха»).
**ЗЯЛЁНАЯ (Кляновая) СУБОТА (Зелянец, Май, Зялёныя святкі)**— свята маладой зеляніны.
18/5. Н. **СЕМУХА (Сямік, Тройца, Клечанне)**— язычніцкае свята продкаў і расліннасці.
19/6. П. Пачатак **РУСАЛЬНАГА (Гранага, Праводнага) ТЫДНЯ** (Русальніца), да 26.06— дні праводзін вясны; дні расліннасці і продкаў. Свята **КУСТА (вадзілі «куста»)**.
20/7. А. **КОНСКІ ВЯЛІКДЗЕНЬ** — свята коней; першы аўторак пасля Тройцы. **Тодар** («На Тодара раса — канапель паласа»).
21/8. С. **ГРАДАБОЙ (Градавая серада)**— дзень аховы ад грому; серада на Граным тыдні.
**СЕРАДА-РУСАЛЬ** — свята агню; дзень здабывання з ясеню свяшчэннага агню на Палессі.
Дзень астранамічнага сонцастаяння.
22/9. Ч. **НАЎСКІ (Намскі) ЧАЦВЕР (Наўская тройца)**— памінальны дзень продкаў на могілках; чацвер пасля Тройцы.
**АБЛІВАХА** — дзень аблівання вадой, каб вызваць дождж; чацвер на Граным тыдні.
24/11. Сб. Ян Купальны (Янаў дзень, Купалле)— свята ў гонар летняга сонцастаяння.
25/12. Н. **АНАПРЭЙ (Нупрэй)** «Хто на Нупрэя пасее грэч, той будзе бліны печ».
26/13. П. **АКУЛІНА** (сеялі грэчку).
**РОЗЫГРЫ (Русалчыны розыгры)**— апошні тыдзень Русальнага тыдня.
**ПЯТРОЎКА (Петравіца)**—«Хто ў Пятроўку сена не косіць, той зімою ў сабак просіць».
27/14. А. **АЛІСЕЙ** («Прыйшоў Алісей — авёс пасей»).
28/15. С. **АМОС** («Прыйшоў Амос — цягне ўгору авёс»).
29/16. Ч. **ДЗЕВЯТНІК** — чацвер на дзевятым тыдні пасля Паскі; дзень аховы ад грому, назірання за прыродай.

Народны каляндар складзены пераважна на матэрыяле Беларускага Палесся. «3/21. Сб.» і г. д.— азначае даты па новаму і старому стылях, дні тыдня (П., А., С., Ч., Пт., Сб., Н.). У дужках падаюцца некаторыя назвы, якія вядомы ў розных рэгіёнах Беларусі.

### СТАЎРУСКІЯ ДЗЯДЫ, АБО СЁМКА

Святкаванне ў некаторых мясцінах (Дзісненскі павет) у гонар памінання дзядоў у суботу, перад сашэсцем Св. Духа, называецца Стаўрускія дзяды або больш агульным словам **Сёмка.** Да гэтага дня праводзіцца ў доме такая ж падрыхтоўка, як і да Асяніны. Вясновы недахоп у хлебе і наогул у харчаванні бывае амаль для кожнага вельмі ўнушальны, а таму і Сёмка адзначаецца не так багата. Некаторыя прасталюдзіны на пытанне, чаму яны на Сёмку не запрашаюць сваіх дзядоў, адказваюць: «Наштош іх зваці, калі нечага даці».

Назва дзядоў Стаўрускія або Стаўроўскія ўзята з урачыстага звароту перад пачаткам вячэры, які несвядома захаваўся ў некаторых мясцінах Дзісненскага павета. Стары або бацька сямейства, спусціўшыся з лаўкі так, каб твар яго быў на ўзроўні са стравамі, гаворыць: «Стаўры, Гаўры, прыходзьце к нам!».

Недалёка ад горада Дрысы ў язычніцкія часы, кажуць, жыў і ўладарыў значнай прасторай на Дзвінскіх берагах ракі слаўны багатыр, князь Бай ці Буй. Ён меў два сабакі вялікай пароды, з якіх адна называлася Стаўры, а другая — Гаўры. Гэтыя сабакі былі вельмі здаровыя і разумныя; ніякі звер не мог змагацца з імі; яны неаднаразова вызвалялі свайго гаспадара і выводзілі з лесу, калі ён губляўся на паляванні. Князь загадаў падуладнаму народу аказваць ім гонар як першым і самым давераным сваім абаронцам. І калі яны памёрлі, то ён кожны год наладжваў баляванне свайму народу на тым месцы, дзе былі пахаваны яго сябры — сабакі. Баляванне і гулянне працягвалася за поўнач, і калі ўсе разыходзіліся, то пакідалі рэшткі страў, косці кідалі ў агонь, заклікаючы душы памёршых сабак: Стаўры, Гаўры.

На самай справе, адкуль бяруць пачатак Стаўрускія дзяды — цяжка вырашыць.

Можа, гэтая легенда выдумана адукаванымі людзьмі, якія высільваюцца знішчыць рэшткі язычніцтва і паказаць недарэчнасць абраду.

Сёмкі атрымалі назву ад часу свайго святкавання — у сёмы тыдзень ад Паскі.

(Дзмітрыеў М. А., 1869).

### КУПАЛЬСКІЯ ПЕСНІ

Важнейшае свята ўлетку, не толькі ў беларусаў, але ў многіх іншых народаў, напрыклад, у латышоў,— Купалле, якое адбываецца ў ноч з 23 на 24 чэрвеня. У Латгаліі Купалле заўсёды праходзіць шумна і весела: паляць кастры, пяюць песні, скачуць.

Мне тры леты (1935, 1936 і 1937 гг.) прыйшлося праводзіць у прыгожай мясцовасці Латгаліі — у Краславе, дзе, як у самым горадзе, так і ў яго ваколіцах, пражывае досыць значны лік беларусаў. Сярод іх пашыраны звычай хадзіць па суседзях і па знаёмых з купальскімі песнямі. Ходзяць звычайна жанчыны і дзяўчаты з вянкамі на галовах. Вянкі плятуць з васількоў, з рамонкаў, з Яна ды Мар'і і іншых палявых кветак. Калі заходзяць у хату, дык даюць гаспадыні краскі, а калі ёсць дарослая дачка, дык ускладаюць ёй на галаву вянок. Пры гэтым пяюць песні. Калі ў якой сямейцы ёсць імя «Ян», дык у такую хату прыходзяць у дзень Яна, 24 чэрвеня, але дужа рана і будзяць спевамі ўсіх, пакуль іх пусцяць у хату. Гаспадары частуюць спявачак півам, сырам, цукеркамі... Такіх адведвальшчыц у купальскі вечар 1937 г., у Краславе, мне прыйшлося прыняць групамі па 3—4 чалавекі больш за трыццаць і з прыемнасцю паслухаць беларускія песні.

**Ляцеў чыжык цераз рынак**
**Ды клікаў дзевак на Купалле:**
**— Дзеўкі, бабы, на купаллю!**
**Чырвоным дзеўкам свая воля,**
**А маладзіцам німа волі:**
**Дзіця плача у калысцы,**
**Муж бурчыць у пасцелі,**
**Свякроўка супраць печы,**
**А дзявер'я на пакое,**
**А залоўкі на Купаллі...**

(С. П. Сахараў, 1924.
Церахава, ад З. Лапацёнак).

### ДУХАЎ ДЗЕНЬ

Напярэдадні Духава дня, у Духаўскую суботу, сеюць каноплі. Гэта робяць звычайна пад вечар, таму што пасля пасеву ўжо больш нельга нічога рабіць, інакш каноплі не будуць удачлівымі. Затым ставяць зялёныя бярозкі і галіны іншых дрэў перад вокнамі — вось чаму і называюцца Духаўскія святы Зялёнымі святкамі. У Духаў дзень у сялян ёсць звычай прыносіць у царкву кветкі і зёлкі для акраплення іх вадою і захоўваць на працягу года. Сяляне акурваюць імі свае хаты, жывёлу і, пры наступленні навальнічных хмар, паляць на павольным агні для перасцярогі ад маланкі (в. Талкачы, Гараны і Рэчкі Магілёўскага павета).

Пасля абеду (полудня), дзяўчаты адпраўляюцца ў лес **завіваць вянкі.** Яны бяруць з сабою яйкі, сала, кілбасы, а іншы раз і гарэлку, і, прыгатаваўшы яечню і закусіўшы, пачынаюць завіваць вянкі. Кожная выбірае дзве невялікія бярозкі, верхавіны якіх звязваюць у выглядзе вянка, праходзяць пад імі і спяваюць:

**Пойдзем, дзевачкі, у луг гуляць,**
**Зялёных вянкоў завіваць.**
**Заўём вянкі на ўсі святкі,—**
**На ўсі святкі, на ўсі празднічкі.**

Пры гэтым гадаюць: калі вянок не засохне дачасна, калі патрэбна развіваць яго, то гэта добрая прыкмета, а калі рана засохне, то «дурная прымета» (в. Забелышынь Клімавіцкага павета). Затым зрываюць са сваіх бярозак зялёныя галінкі, робяць з іх вянкі і спяваюць:

**А мы вяночкі завілі,**
**Гарэлачку папілі**
**І яешыньку паелі.**

Гэтыя вянкі дзяўчаты кладуць сабе на галаву і, несучы іх такім чынам да ракі, спяваюць:

**1) Выхвалялася бяроза,**
**Што ў яе лісточак зялёненькі,**
**Што ў яе ветвікі да долу.**
**Як зачуў, пачуў шэры дуб,—**
**Ня хваліся, кажыць, бярозе,**
**Ня сама бяроза расцілась...**

**2) За рэчкаю, за быстраю,**
**Чатырэ дваркі;**
**А ў тых дварках —**
**Чатырэ кумы.**
**Вы, кумочкі, галубочкі,**
**Куміцеся, любіцеся,**
**Любіцеся, куміцеся,**
**Любіце й мяне.**
**Сашчыпніце па цвеціку,**
**Сашчыпніце і мне.**
**Саўеце вы па венчыку,**
**Саўіце вы й мне.**
**Панясіце на ціхі Дунай,**
**Вазьміце і мой.**
**Кіньце сваі вяночкі,**
**Кіньце вы й мой.**

**А ўсі вянкі паверх плывуць,**
**А мой патануў;**
**А ўсі дружкі з пахода йдуць,**
**А майго нямаш.**

Падышоўшы да ракі, усе кідаюць свае вянкі і па іх варожаць пра будучае. Калі вянок плавае па вадзе,— добрая прыкмета, калі ж вянок патанае,— худая прыкмета (в. Забелышынь Клімавіцкага павета).

На «Загавіны» перад Пятровым постам, а ў некаторых мясцінах і ў дзень Пятра і Паўла, дзяўчаты ідуць у той жа лясок «развіваць вянкі», мяркуючы, што дрэва будзе праклінаць тую, которая не разаўе свайго вянка. Гэта таксама суправаджаецца песнямі, частаваннем і карагодамі (в. Канічы Клімавіцкага павета).

(А. С. Дэмбавецкі, 1882).

Падрыхтаваў Алесь ЛОЗКА.

### РЭЦЭПТЫ СЯЛЯНСКАЙ КУХНІ

**Сыры сушаныя.** Адтопленую сыраквашу вылівалі ў палатняны клінок і чакалі, пакуль сцячэ сыроватка. Потым тварожную масу вымалі, дабаўлялі па густу соль і крышку кмену, усё перамешвалі. Затым зноў клалі ў клінок і завязвалі. Клінок клалі на дошку і прыціскалі зверху гнётам. Затым сыр падвешвалі ў палатнянай або марлевай торбачцы з сонечнага боку пад страхой. Сыры сохлі да зацвярдзення, пасля чаго іх складвалі ў кашолку і пераносілі ў сухое халаднаватае месца. У такім стане іх можна было захоўваць 3—4 месяцы і больш. Сачылі за тым, каб не было цвілі, у выпадку яе з'яўлення сыры пераціралі насуха і падвешвалі падсушыць.

**Галушкі тварожныя.** У тварожную масу дабаўлялі соль і кмен, выціскалі з яе ваду, перакладалі на стол, пасыпаны мукой, і качалі галушкі, велічынёй са сліву. Потым складвалі галушкі на патэльню, папярэдне злёгку змазаную жывёльным тлушчам або алеем, і ставілі ў лёгкі дух. Пасля галушкі дасушвалі на чарэні печы, засланай чыстым палатном. Захоўвалі іх у кадках, перакладваючы кожны рад марляй, палатном, у цёмным, халаднаватым месцы некалькі месяцаў.

**Запісаў Іван КОРЗУН.**



Аблiваха.
Уладзiмiр САВIЧ.

| ЧЭРВЕНЬ | П | А | С | Ч | П | С | Н | П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | | | | | | | | | |



На Палессі.

# НАШ ВЕРНІСАЖ



Экзгумацыя.



Бульба.

Пра выставу «Няміга-17» у Мінску многа гаварылі яшчэ да таго, як яна адкрылася. Такая шчырая зацікаўленасць праблемамі мастацтва сёння тлумачыцца, напэўна, і відавочнай прагай духоўнасці, якая заканамерна суправаджае грамадскі прагрэс, і абуджэннем нацыянальнай свядомасці, асабліва ў асяроддзі інтэлігенцыі, і не апошняе значэнне мае, думаецца, і тое, што змяніўся сам прынцып арганізацыі выстаў: зараз выстаўляецца не адна-дзве карціны мастака, а цэлыя серыі, па некалькі дзесяткаў карцін. А гэта дае магчымасць заглыбіцца ў духоўны свет творцы, спасцігнуць глыбей сімволіку і ідэі, якія ён сцвярджае.

Глыбінны, часам, можа, для некаторых і нязвыклы ў сваіх праяўленнях, патрыятызм аб'ядноўваў такія непадобныя палотны розных мастакоў на выставе «Няміга-17». Несумненна, спецыялісты - мастацтвазнаўцы аб'ектыўна вызначаць здабыткі і пралікі гэтай выставы, сур'ёзна прааналізуюць творчасць усіх мастакоў, палотны якіх былі выстаўлены. Мне ж проста хочацца падзяліцца ўражаннямі звычайнага гледача пра творчасць толькі аднаго мастака — Алеся Цыркунова,— дзе, на маю думку, найбольш яскрава выявілася паяднанне гістарычнага і сучаснага.

Учарнелыя, спакутаваныя рукі раскрыжаванага Хрыста. Ні твару яго, ні постаці. Толькі рукі. Як сімвал пакуты і роспачы. Сімвал адчаю і болю. Але не за сябе, не за свой лёс, а за лёсы людзей, якія пазней ад яго імя будуць чыніць несправядлівасць і здзек. І, можа, таму там, дзе павінна быць постаць Хрыстова, яго спакутаванае цела бога-чалавека — выявы вачэй і твараў, разнастайных, шматаблічных і ў той жа час у нечым аднолькавых, падобных, выявы, падсветленыя чырванню хрыстовай крыві і жоўтым полымем паганскіх вогнішчаў. І з правага боку міласэрная і ўзвышаная, як мадонна на палотнах сярэднявечных майстроў, постаць чарніцы, незабыўнай Ефрасінні Полацкай, а, можа, князёўны Рагнеды, а, можа, маці божай заступніцы, імя якой радзіма-Беларусь. А з левага боку, пад спакутаваным сэрцам Хрыста,— якая іронія лёсу! — постаць воіна, можа, вялікага князя Ягайлы, а, можа, хцівага і зацятага крыжака ці салдата царскага войска, ці якога іншага ратніка з тых шматлікіх кагорт заваёўнікаў, якія на працягу стагоддзяў не адзін раз прыходзілі на беларускія землі, каб навязаць сваю веру і на свой лад ахрысціць непакорных літвінаў. «Хрост літвінаў» — так называецца гэтая карціна А. Цыркунова, карціна, дзе пераблыталіся свята і змрок, міласэрнасць і гвалт, праўда і крыўда.

Цікавасць да гісторыі сваёй радзімы, занепакоенасць лё-

# ПАЯДНАННЕ ГІСТОРЫІ І СУЧАСНАСЦІ

сам яе культуры сёння і ў будучыні — не модныя аднадзённыя тэмы на палотнах мастака. Гэтую шчырую зацікаўленасць нельга выдумаць і падрабіць. Бо як выдумаеш і падробіш тыя пачуцці роспачы і надзеі, болю і радасці, якія суіснуюць у мастацкіх вобразах А. Цыркунова. Карціны яго супярэчлівыя, на першы погляд, але гэта супярэчлівасць не мастакоўскага бачання свету, а супярэчлівасць нашага сённяшняга жыцця, перапляценне яго чорных і светлых фарбаў.

Вось перад намі карціна «Праявы часу», дзе гэтыя супярэчлівасці перасякаюцца, як у жыцці, так і ў марах. Бо тут недзе ўдалечыні, у далёкай і недасяжнай перспектыве, паўстаюць перад вачамі гледача ў мяккім ружовым святле рамантычныя сярэднявечныя замкі, а на першым плане — рэальнасць: разбураныя, знявечаныя руіны нашых помнікаў старажытнай архітэктуры. Чырвоным святлом трывогі і папярэджання гарыць купал Спаса-Ефрасінеўскай царквы ў Полацку («Спас Ефрасінні»), а побач з выяваю святыні — жаночы твар, асветлены гэткім жа чырвоным агнём, агнём пажараў, крывавых войнаў, а, можа, агнём сораму за нас, нашчадкаў вольналюбівых палачан, якія і сёння не так ужо і рэдка ў дачыненні да роднай гісторыі і культуры «...як цені ў грамадзе маўчаць і йдуць на пір паганы»...

Так, можа, гэта твар самой Ефрасінні, якая з дакорам глядзіць на нас праз цені і пыл стагоддзяў. Не, гэта хутчэй абагульнены вобраз усіх дачок і сыноў Беларусі, якія аддалі сваё жыццё за вольнасць Айчыны.

І, можа, таму, калі А. Цыркуноў звяртаецца да індывідуальнага вобліку Францішка Скарыны, гэтая цяга да абагульненасці, сімвала і шматзначнасці перашкаджае мастаку стварыць такую постаць, якая б уражвала не толькі сваёй веліччу і недасяжнасцю, але б і абуджала грамадзянскія пачуцці сучасніка. Свечка ў Скарынавай руцэ асвятляе натхнёны твар першадрукара. Гэта твар жывога, рэальнага чалавека, які і захапляе ў першую чаргу сваёй узвышана-зямной чалавечнасцю. І ў той жа час якой кантраснай, нібыта запазычанай з другога палатна, выглядае ніжняя частка карціны, дзе постаць першадрукара падаецца статычна ў абагульнена-сімвалічных абстрактных абрысах.

Дарэчы, кантрасты ў А. Цыркунова ўвогуле сустракаюцца досыць часта. Часам бывае нават цяжка паверыць, як можа ўзнікнуць пад пэндзлем аднаго мастака цнатліва-далікатная, нейкая ўся ўзнёсла-незямная «Белая мелодыя» і парывісты, свядома дэфармаваны, балюча раздражняльны трыпціх «Полымя». Тут ёсць над чым задумацца і што згадаць, як з уласнага жыцця, так і з жыцця нашага грамадства.

**Галіна КАЗІМІРЧЫК.**



● Праявы часу.

Этапным творам у мастацтве Беларусі XVII стагоддзя з'яўляецца «Нараджэнне маці боскай» Пятра Яўсеевіча з Галынца. Створаны ў перыяд наступлення каталіцкай рэакцыі, самаадданага супраціўлення беларусаў насаджэнню каталіцызму і адчайнай барацьбы беларусаў і ўкраінцаў за нацыянальную незалежнасць і ўз'яднанне з Расіяй, гэты адзіны з выяўленых на Беларусі датаваны і падпісаны іканапісны помнік, як ніякі іншы твор XVII стагоддзя, ярка і выразна адлюстраваў павевы свайго часу.

Барацьба супраць нацыянальнага і рэлігійнага націску ў мастацтве Беларусі XVII стагоддзя выклікала, з аднаго боку, пільную ўвагу да захавання мясцовых традыцый, з другога,— да значнага ўзмацнення рэалістычнага пачатку. Гэта супярэчлівасць, выкліканая пэўнымі ўмовамі часу, асабліва добра бачыцца ў рабоце таленавітага майстра з Галынца.

Захаваўшы прыёмы разнога арнаменту, распрацаваныя ў іканапісе Беларусі XVI стагоддзя (прыкладам можа служыць абраз «Параскева» са Случчыны, які захоўваецца ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР), і традыцыйную старажытнарускую іканаграфічную схему, у ... ўнёс некаторыя элементы, узятыя з мастацтва Містры і Афона XIV—XVI стст., аўтар тым самым прадэманстраваў ашчадныя адносіны да мясцовых, старажытнарускіх, візантыйскіх традыцый, за захаваннем якіх раўніва сачылі ўкладальнік, заказчык, праваслаўнае брацтва, царква. У той жа час, з'яўляючыся мастаком XVII стагоддзя, ён ужо не мог не перадаць у сваім творы праўдзівыя, рэальныя назіранні з навакольнага жыцця. Вялікую цяжкасць для мясцовага іканапісца мела злучэнне незлучальнага — сімбіёз абраза і жанру, умелае ўвядзенне «рэалій» у традыцыйную кананічную схему, жорсткія патрабаванні якой перашкаджалі канчатковаму ўсталяванню свецкасці іканапісу (вымушанае захаванне кананічнай схемы набыло ў той гістарычны перыяд асабліва важны палітычны сэнс).

Пётр Яўсеевіч бліскуча справіўся з гэтай складанай задачай: ён па-майстэрску спалучыў традыцыйную іканаграфічную схему з элементамі жанру, унёсшы ў абраз дыханне жывога жыцця. Мастак смела паказаў за кратамі акна архітэктурны пейзаж, убачаныя ў жыцці «рэаліі» — керамічны і драўляны рыштунак, драўляны ложак на калцах, падушкі з белымі навалачкамі, упрыгожанымі тканымі прошвамі. Нібы ў звычайнай вясковай хаце, на стале, накрытым зялёным абрусам з махрамі, стаіць гарлач з палявымі кветкамі, на галовах Ганны, бабак-павітух — даматканыя наміткі, якія насілі тагачасныя вясковыя кабеты, да пояса адной з жанчын прышпілены кашалёк. Бадай, цяжка знайсці ў мастацтве XVII стагоддзя больш этнаграфічна дакладную, праўдзівую і поўную перадачу прадметаў сялянскага побыту Магілёўшчыны таго часу.

Унясенне жыццёвых назіранняў, бытавых аксесуараў у кананічны звод унесла пэўную супярэчлівасць у работу Пятра Яўсеевіча з Галынца, што выявілася і ў кампазіцыі, і ў каларыце, і ў манеры пісьма. Аб'ёмна адлюстраваныя прадметы ўведзены ім у схему, пабудаваную па прынцыпу так званай «адваротнай» перспектывы. Тонкімі пластамі фарбы выпісана ложа, вопратка, размаляваны падлога, у той час, як па форме лікаў, рук персанажаў мазкі пакладзены корпусна. Каларыт абраза пабудаваны на кантрастным спалучэнні адкрытых, гучных сініга, зялёнага і чырвонага колераў, якія дапаўняюцца пяшчотнымі адценнямі охры, светла-сініга, светла-фіялетавага колераў.

Адметнасць манеры пісьма Пятра Яўсеевіча асабліва выяўляецца пры параўнанні яго твора з работамі Сымона Ушакова (1626—1686), якія займалі значнае месца ў старажытнарускім жывапісе трэцяй чвэрці XVII стагоддзя. У творчасці двух жывапісцаў назіраецца барацьба старога рэлігійнага мастацтва і мастацтва новага, свецкага, якое імкнецца да адлюстравання навакольнага свету. У той час, як Сымон Ушакоў першаступенную ўвагу надаваў праблемам перспектывы, перадачы аб'ёму пры дапамозе святлаценю (якія былі заснаваны на традыцыях старажытнарускага жывапісу — вахрэння па санкіру), Пётр Яўсеевіч у сваім творы ставіў задачы, блізкія партрэтыстам Беларусі першай паловы XVII стагоддзя. У перадачы перспектывы, распісанай падлогі, абруса на стале, архітэктурнага пейзажа, у дэкаратыўнасці колеравых плям, канкрэтнасці тыпажу ў яговым абразе шмат агульнага з трыма работамі невядомага гродзенскага жывапісца — «Партрэтам Грызэльды Сапегі, ураджэнкі Вадынскай» (1632—1633), «Партрэтам Кшыштафа Весялоўскага» (1636) і «Партрэтам Аляксандры-Марыяны Весялоўскай, ураджэнкі Сабескай» (1639—1645), якія захоўваюцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР.

Самая цесная ўзаемасувязь і ўзаемны ўплыў іканапісу і мясцовага партрэтнага жывапісу, якія мы назіраем на прыкладзе работ майстроў з Галынца і Гродна, яскрава адлюстроўваюць асаблівасць тагачаснага станковага жывапісу Беларусі, які займае прамежкавае становішча паміж дзвюма лініямі еўрапейскай культуры.

Работу Пятра Яўсеевіча з Галынца можна лічыць важным этапам у жывапісе Беларусі першай паловы XVII стагоддзя. Яна стала ўзорам для магілёўскіх мастакоў не толькі гэтага, але і наступнага стагоддзя. Пад моцным уплывам гэтага твора быў створаны каля 1700 года абраз «Нараджэнне маці боскай» мастаком з сяла Нічыпаравічы Магілёўскай вобласці, які зараз таксама захоўваецца ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР.

Твор Пятра Яўсеевіча дэманструе вялікія дасягненні ва ўсталяванні свецкасці іканапісу, у новым разуменні і вырашэнні жывапісных задач. Ён сведчыць аб больш ранім развіцці рэалістычных тэндэнцый у мастацтве Беларусі першай паловы XVII стагоддзя, чым у старажытнарускім мастацтве, уздым у якім адбываўся крыху пазней, у другой палове гэтага стагоддзя.

● **Пётр Яўсеевіч з Галынца. Нараджэнне маці боскай. 1649 год.**

**Надзея ВЫСОЦКАЯ,
кандыдат мастацтвазнаўства.**



## Мар'ян ДУКСА

### *По нотах уласнага сэрца*

Многа іх да дзяржаўнай кароны
прыліпала, апроч кар'ерыстаў —
з німбам святасці фараонаў,
фанфаронаў, валюнтарыстаў.
Самаўпэўненых дырыжораў,
выпадковых на сцэне маэстраў,
што прыблізна,
горш, чым стажоры,
кіравалі айчынным аркестрам.
І мянялі, і блыталі ноты,
узаконьвалі вэрхал часамі...
Ну а самі мы — ах, абармоты! —
што ж фальшывілі так галасамі?
Можа, самі ва ўсім вінаваты,
што збівалася музыка дужа.
Вушы ўраз затыкаючы ватай,
ратавалі авечыя душы!
Набалелае сціпла, раз-пораз
мы выказвалі флейтамі ў залу...
Каб падаць свой абураны голас,
нам дыхання заўжды не хапала.
Ах, нарэшце ў свабодныя глоткі
свежы подых прыйшоў, як
адхланне.
Хоць і позна, адкрылася ўсё-ткі
нечакана другое дыханне!
Час прабіў запаветнае
здзейсніць —
звонкі голас звініць аднаверцаў.
Дачакаліся выканаць песню
мы па нотах уласнага сэрца.

### *Ля Сапун-гары*

Ну як вам спіцца сёння, небаракі,
што сніцца ад зары і да зары?
А нам чытаць па зморшчынах гары
крывавыя аўтографы атакі.

Ці можна памяць, што шчыміць
ад ран,
зарубцаваць паклоннаю журбою?
Не, не ўдалося вогненны вулкан
вам патушыць тады малой
крывёю.

Яе тады вы столькі пралілі
на цвёрды грунт, што цісуўся
ў абдымкі.
І кожны змог быць донарам зямлі,
хоць адляталі душы-невідзімкі.

Тут абарваных жыццяў вісне цень,
узвышша ўсё захутана самотай,
маўчыць каторы год, але штодзень
спрабуе штосьці вымавіць
лістотай.

І нам, і нам, цяперашнім,
праз час,
цераз былыя стогны і пакуты
жадае нейкі перадаць наказ,
які людзьмі пакуль што не пачуты.

Бо не стаялі б зараз уваччу,
не білі б сэрца сённяшнія мроі...
Як лёгка тут да жудасці адчуць
усю сваю Зямлю Сапун-гарою.

### *Інструкцыя*

Яе хтосьці піша —
моцнай дратвай шые
(упэўнены пры гэтым: не парву)
хамут калючы і малы на шыю
і цесную аброць на галаву.
Надзене гэта ўсё, і заклзае,
і будзе тузаць часта лейчынай.
А што ад злосці цуглі я кусаю —
паблажліва смяецца нада мной.
Пацвельваецца нібы:
«Многа хочаш...
не пераскочыш, шустры, праз мяне.
На міліметр
ад дарогі збочыш —
і пуга загуляе па спіне!».
Баіцца мяне выпусціць на волю —
а раптам
воз уласны растрасу?
Я ўвесь гару
ад сораму і болю
і ўсё палёгку нейкую пасу.
Ступаю ціха —
на душы нядобра,
душа сябе любіць перастае.
Як уцячы
ад папяровай кобры?
Не толькі бегчы —
дыхаць не дае!

### *У гасцініцы*

Спрабуй абысці загародку брані!
Гуляе з ключамі падлетак бязвусы.
Усе нумары і шыкоўныя люксы
забітыя,
на ўсе бліжэйшыя дні.
Шыбуюць па мяккай спіне дываноў
плячыстыя хлопцы, амаль
супермены.

Навокал спартсмены,
спартсмены,
спартсмены,
нібы Алімпійскія гульні ізноў.
Ідуць,
каб казённага ўведаць пайка.
Як плюнуць ім —
цераз чаргу пратачыцца.
І дзень праімчыцца —
калі ж ім вучыцца,
калі ж ім, як іншым,
стаяць ля станка?
У белых красоўках —
так, так: прывазных —
ідуць
ганарлівыя трэнеры-босы,
як быццам
усе нашы справы і лёсы
сягоння залежаць
выключна ад іх.

✦

Бяссільна стукаешся ў дом
найгоршаю хвілінай,
галінка бэзу пад акном,
захутаная ў іней.

Уся прамерзлая наскрозь —
да крапелькі-слязінкі,
залубянелая. Вось-вось
ты зазвініш ільдзінкай.

Наўрад каму цяпер, наўрад
цяпло прысніцца.
Ды як адчайна хоча сад
сагрэцца ад сініцы!

Якая цяга да жылля,
дзе ёсць ратунак нібы.
Як пальцы белыя галля
дрыжаць ля самай шыбы!

Як перабыць суровы час
і жыць ля весніц?
Як хочацца ў чарговы раз
пялёсткі здзейсніць...

За стрэчу з сонцам лёс скубе
трайную плату.
Галінка бэзу, як цябе
пусціць у хату?

✦

Успыхнулі й згарэлі словы,
бо іх адчай перакрычаў.
Нам болей не служыла мова.
Маўчала ты. І я маўчаў.

Такая ледзяная поза
была не вынікам зімы...
Яшчэ пакуль на добры позірк,
на ўсмешку права мелі мы.

Пакуль не патанулі мукі
у непрыкаянай журбе,
жывыя трапяткія рукі
яшчэ знайсці маглі сябе.

Хоць крыўды — маладыя восы —
нас джалілі — смылелі дні,
маглі ж не пакарыцца лёсу,
яго насмешлівай гульні.

Цяпер ужо сцяна — не рыска —
між намі — пастараўся час!
А як было тады нам блізка
да слова, што злучыла б нас.

# «...Стараюся быць







**Лісты да П. Глебкі сведчаць, што К. Чорнага заўсёды хваляваў маральны клімат у пісьменніцкім асяроддзі, маральны стан асобнага творцы. Менавіта гэтым выклікана яго збянтэжанасць незвычайнымі, як яму тады здавалася, паводзінамі Паўлюка Труса. Выказвае здзіўленне, абураецца, не шкадуе вострага слоўца. Дзеліцца неўразуменнем з сябрам. У 30-я гады, здараецца, асуджае, як заўважыць чытач, і адрасата сваіх пісьмаў, з'едліва піша пра тое, што і сам паддаецца згубнаму ўплыву нездаровага асяроддзя. У гады Вялікай Айчыннай вайны падобная тэндэнцыя ў лістах гэтых узмацняецца, бо час патрабаваў ад кожнага пісьменніка асаблівай адказнасці за лёс народа і роднай зямлі. Менавіта тады і зробіць К. Чорны горкае прызнанне, што імкнецца быць далей ад пісьменніцкіх кампаній, хоць «паспрачацца і пагаварыць на літаратурныя тэмы сапраўды хочацца», засведчыць, што яшчэ з даваенных часоў стараецца «быць сам з сабою». «Галоўнае, чым я жыву — гэта сваёй працай»,— напіша ён. Тэма адзіноты, такім чынам, у творчым лёсе самога К. Чорнага паступова набывае велічыню трагічных памераў. Выклікана гэта ўрэшце ўдушлівай грамадска-палітычнай атмасферай самога часу.**

**Для лістоў К. Чорнага характэрна шчодрасць мастацкіх фарбаў, нязмушанасць радка і думкі, уласцівы слоўны досціп, некаторыя з лістоў успрымаюцца як закончаныя творы.**

**Як вядома, К. Чорны пражыў амаль усё жыццё ў Беларусі (калі не лічыць часоў Вялікай Айчыннай вайны). Пісем яго таму няшмат. Ды і да П. Глебкі пісаў ён не часта. Па гэтай прычыне вычарпальнай карціны ні часу, ні жыцця пісьменніка яны, натуральна, даць не могуць. Але гэта пісьмы класіка, і яны, несумненна, належным чынам дапаўняюць агульную карціну станаўлення беларускай савецкай літаратуры ў вельмі складаны перыяд яе быцця.**

Дарагі братка Пятрусь!

Што з Трусам сталася — чорт яго ведае. Я проста расцэньваю гэта так, што не мае хлопец свайго ўласнага погляду на рэчы, бо невядомы такія прыклады, каб чалавек так хутка мяняў свае перакананні [1]. Гэта проста абсалютная адсутнасць усякай глыбакадумнасці. Можа проста (чаму б і так не падумаць) паабяцалі хлопцу пасляць на курорт ці што-небудзь падобнае, от табе і ўся музыка. Што ты хочаш ад такога чалавека, які наогул яшчэ нічога не бачыў. Але чорт з усім гэтым. Заўтра даём у газету апраўржэнне.

У іх адбыўся пленум [2]. На пленуме аб усім гаварылася, не гаварылася толькі аб літаратуры. Найбольш гаварылася аб палітыцы, ды аб узняцці вытворчасці — якой? (Аб літаратуры ж ні слова). Чорт з імі. Нас усіх абурыла толькі подласць Труса. Але ясна толькі адно: літаратура ні подласцю, ні палітыкай не творыцца.

Нашу справу ў ЦК адлажылі да прыезду тт. Крыніцкага [3] і Гэсэнь [4]. А калі яны прыедуць — не вядома.

Ты пішаш наконт зборніка — безумоўна, складай, знойдзеш дзе-небудзь месца, пастараемся гуртам і выдрукуем.

Будзем дабівацца свайго, ніхто ж не пасмее адмовіць літаратурнай значнасці нашай групы. Верш твой у «Вёсцы» [5] ужо выдрукаваны. У «Вёсцы» я яшчэ папрацую, хутка высылаю ганарар. Верш твой у «Полымя» перадаў, але пайшоў у друк ці не — не ведаю. Папытаю й напішу.

Трус цяпер не хоча паказвацца на вочы — стараецца не сустракацца. Я, мабыць, хутка, на дзён два паеду ў Маскву, пагавару з Дубоўкай і зноў пачнём «бузацёрыць».

Будзеш пісаць Лужаніну — ад мяне яму прывітанне. А табе кланяецца Адам [6], якраз толькі што быў у мяне.

Пішы

Твой Кузьма

15/VII. 26 г.

Братка Пятрусь!

Праз дзён 5—6 будзе часопісь. Заўтра-паслязаўтра высылаю «Пісьменніцкія нататкі». Збірай спешна другі нумар. Гані Траецкага [7] і Бядулю. Траецкага давай столькі, колькі патрэбна для нумару, хоць усё да канца, калі будзе ў яго гатова. Пагавары з Адамам і Антошам [8] — няхай даюць крытыку. Мая навэла калі і будзе, дык вельмі маленькая. Усё, што гатова, здавай адразу ж у Галоўліт. Пільна сяджу цяпер над раманам [9]. Праз 2 тыдні будзе начыста гатова да 3-х аркушаў. Працую вечарам у гасцініцы [1], а кожны дзень бываю на прадпрыемствах. Сёння цэлы дзень быў на Беліцкай запалкавай фабрыцы «Везуві» — буйны пралетарскі асяродак. Быў і ў вёсцы. Як мы і нашы творы адарваны ад жыцця! Гэтая паездка вельмі шмат дасць для майго рамана. Шкадую толькі, што адзін паехаў. Паслязаўтра паеду на Добрушскую папяровую фабрыку, а заўтра на Сельмаш. Гані другі нумар — усё роўна першымі нумарамі мы творчае пагадненне зробім, адно пагаднім нумары трэба. А там разгарнем творчасць. Ніякому песімізму не павінна быць і кроплі месца. Няма падставаў. Літаратура спадзяецца на нас. Вітаю

Кузьма

Пабуду яшчэ дзён 4.

9/3-1930 г.

[1] Гутарка ідзе пра нечаканае вяртанне Паўлюка Труса ў літаратурна-грамадскае аб'яднанне «Маладняк», якое разам з групай маладых пісьменнікаў (А. Бабарэка, П. Глебка, У. Дубоўка, К. Крапіва, Я. Пушча, С. Дарожны, К. Чорны, В. Шашалевіч) ён зусім нядаўна пакінуў. Выйшлі яны з мэтай стварэння творчага аб'яднання «Узвышша», бо, як пісалі ў лісце ў рэдакцыю газ. «Савецкая Беларусь» (№ 154 ад 10 ліпеня 1926 г.), не згаджаліся «з мэтадамі працы арганізацыі і яе характарыстыкай сучаснага становішча беларускай пралетарскай літаратуры». У тым жа нумары «Савецкай Беларусі» было змешчана асобнае пісьмо рэдактару П. Труса, у якім паэт заяўляў, што вышэй памянёнага ліста не падпісваў, нават не бачыў, і выходзіў з «Маладняку» «зусім не па тых прычынах, якія ўказаны ў лісце». Заявіў пры гэтым, што свой выхад лічыць памылкай і «дзеля гэтага» зноў уступае ў шэрагі аб'яднання «Маладняк». Такое адступленне ад ранейшага рашэння літаратурнае асяроддзе сустрэла з недаўменнем. Для шмат каго ўчынак П. Труса быў загадкавым. Людзі не ведалі, што П. Трус так паступіў не без націску адпаведных высокапастаўленых асоб (Гл. пісьмо Платона Галавача за 1926 г. да П. Труса. «Маладосць», 1989, № 1. З эпістальярнай спадчыны П. Труса).

[2] Маецца на ўвазе пленум Цэнтральнага бюро «Маладняку», які адбыўся 5—6 ліпеня 1926 г. Важнае месца ў працы пленума заняло абмеркаванне пытання т. зв. першага расколу «Маладняку» і выхаду з яго вялікай групы здольных пісьменнікаў.

[3] Аляксандр Іванавіч Крыніцкі (1894—1937), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. З верасня 1924 да мая 1927 года першы сакратар ЦК КП(б) Беларусі.

[4] С. М. Гесен — загадчык Агітпропа ЦК БССР.

[5] Маецца на ўвазе газ. «Беларуская вёска», дзе К. Чорны працаваў з 1924 па 1928 год.

[6] Адам Бабарэка (1899—1938), крытык, «беларускі Бялінскі», так яго называлі ў 20-я гады.

[7] А. Траецкі, празаік, аўтар аповесці «Старасельшчына» («Узвышша», 1930, №№ 1, 2, 3).

[8] Антон Адамовіч (1909), крытык, празаік. З пасляваеннага часу эмігрант.

[9] Відаць, размова ідзе пра раман «Ідзі, ідзі».

Пятрусь!

Дай, братка, цераз маю жонку рукапіс «Звягі» [2] і мой (таксама і арыгінал) і рэдакцыйны — для аўтарскае праўкі пасля машынкі, бо там наблытана шмат. Заўтра зранку дастаўлю табе ў рэдакцыю.

Горне мяне ў пасцель — нейкая трасца на мяне ўссела, з жыватом качаюся

Кузьма

13/IX. 33 г.

13/IX.33.

Пятрусь!

Стылістыку выправіў, хіба можа чаго не заўважыў. Некаторыя твае пытальнікі асталіся мне незразумелымі: я нічога не знайшоў каля іх, што трэба было б правіць. Сяргей і Андрэй сапраўды былі пераблытаны — Андрэя ніякага няма.

У некаторых мясцінах я паадпраўляў назад «совецкая» на «савецкая»: гэта там, дзе гэтае слова гаворыць каваль і, здаецца, у адным месцы, Францкевіч [3]. Справа ў тым, што я трымаюся думкі наконт таго, што трэба і праз мову героеў характарызаваць іх, хоць мова і не трымаецца граматыкі (у залежнасці ад героя, тыпа). Напр(ыклад), я пакідаю за сабою права ўкласці ў вусны якому-небудзь свайму непісьменнаму персанажу слова «пляшпарт» замест «пашпарт» і г. д.

Таксама, кіруючыся гэтым, я выправіў «амерыканца» на «амарыканца». Бо гэта слова гучыць у вуснах персанажа (пэўнага). Гэтыя ўсе фразы,

[1] Знаходзіўся ў творчай камандзіроўцы на Нова-Беліцкай запалкавай фабрыцы (Гомельшчына, цяпер у межах Гомеля).

[2] Апавяданне. Упершыню надрукавана ў час. «Полымя рэвалюцыі», 1933, кн. 10.

[3] Герой апавядання «Звяга».









# «...САМ З САБОЮ»

**ЛІСТЫ КУЗЬМЫ ЧОРНАГА ДА ПЯТРА ГЛЕБКІ**

дзе тыя словы, стаяць у апав(яданні) у кавычках. Гэтыя папраўкі на стар. 3, 16, 23.

І яшчэ адно: я думаю назваць «Звягу» — аповесцю. Хоць дзея тут адбываецца і хутка, але карэнні яе ідуць здаўніны, тут біяграфічнасць герояў і г. д. Як твая думка? Калі ты таксама думаеш, што можна назваць «аповесць», дык напішы сам гэтае слова пад загалоўкам. Калі ж у цябе на гэта ёсць нязгода, або няпэўнасць, дык пускай без азначэння якога б там не было жанру.

Выстарайся ў Зарамбоўскага, ці ў каго там, рэшту майго паасобніка (з машынкі) «Звягі», у мяне няма з пачатку да 21 стар., і аддай жонцы.

У жываце ў мяне няміласэрдная рэвалюцыя.

Кузьма

**Цябе павязуць,**
**А я тут буду.**

Пятрусь!

Я чуў, што ты нібыта заўтра едзеш на курэрт, а я тут ляжу хворы. То: або перадай Рэні зараз жа вершы ў альманах, або напішы мне, дзе яны ляжаць, зрабіўшы для мае арыентыроўкі спіс аўтараў.

Калі вершы не зусім гатовы, то я сам іх прыкончу (самае вернае дзела).

Альманах трэба здаць.

Няхай табе будзе прыемны курэрт. Аман

К. Ч.

(Без даты)

Друг мой Петрусец!

Цябе варта застрэліць, як падлу якую! Мала таго, што ты, заехаўшы на край света, мне не абазваўся. Дык ты нават і жонцы сваёй не пішаш. То гэта добра, што я яе разоў са два бачыў, а то б яна зусім ссумавалася б. Гэта адно. Цяпер другое. Не так ужо кепска і мы тут жывём. Не думай, што адно (толькі) ты прахлаждаеш сябе на курортах. Мы робім яшчэ лепш. Калі раней успаміналі з'езд у форме выступленняў і паездак, то цяпер пераключыліся на банкеты. І не кепска выходзіць. У ва ўсякім разе я думаю падацца к бондару і нацягнуць на сваю галаву якую-небудзь пару абручоў: баюся, каб не лопнула, кожны дзень трашчыць. Спачатку то я не лішне і бедаваў: начорта тая галава, абы розум быў. Але гэтымі днямі нехта (здаецца, ці не Кучар, калі не Хадыка) давёў мне дэталёва, што, безумоўна, калі не будзе галавы, то трасцы той і розум дзе-небудзь адзержыцца. І я паверыў. Разумееш? Сцяў зубы і паверыў. Цяжка было, але паверыў.

Горш за ўсё, што чым больш па банкетах ідзе ўлага, тым больш чарнільная ўлага без ужытку высыхае на стале.

Так, брат, хочацца на месяц які зачыніцца ў хаце і пісаць. Гэтымі днямі прачытаў «Зямлю» Э. Золя (Тваю, растрэсеную, узяў у Кандрата [1]). Страшная кніга! Вялікі твор!

А сам я на тым тыдні ў рамане «Надзея Назарэўская» [1] забіў даўбешкай па галаве Стафана Сэдаса, даўнейшага панскага сырніка, і рад. Так яму і трэба. Ён дзён тры ляжаў у рэчцы, і ракі грызлі яго за ляшкі. Мой герой Міхал Канатоўскі чуць не самлеў, убачыўшы гэты малюнак. І што ён зрабіў далей, яшчэ не прыдумаў: банкеты не даюць. Але ўжо ў галаве пачало вырысоўвацца.

Бывай. Пшапрашаёнц!

Твой Кузьма

Менск, Свярдлоўская, 49, кв. 48

(28.10. 1934)

Каб цябе, Нонічак [2], агонь спаліў, дзе цябе чэрці душаць! Я тут амаль дагаварыўся прыставаць сюды ў прымы, а ты недзе, ліха цябе ведае, што ты робіш. Тут я дазнаўся, што ты, падла, вельмі ж кашулі рвеш і ў лазню не ходзіш, і дадому не прыходзіш, калі я тут цябе чакаю. Каб ты ўжо, бог даў, не чакаў сабе ніякае хэнці, калі ты гэтакі. Халера на цябе, дзе ты падзеўся! Свінячая ты спіна, конская ты грыва, сабачае сумленне, каровячае вымя, з-пад разніцы цюцька, аспіда ўнук і нашага крытыка крук. От як я табе выказаў, надобіна ты нядошлая. Чысла не знаю, бо календара не маю. Месяц на небе, а год у календары. Чысло такое ў нас, як і ў вас, каб ты не даждаў больш ашукваць нас!

Пісар — Чыкірында-Янцута-Тхарловіч-Банкрут

(1935 г.)

Ноня!

Заўтра, 18/XI, каб ты мне быў у тэатры на «Салаўі» [3]. Білеты Табе і Ніне [4] будуць у таго чалавека, які стаяцьме і прапускацьме.

К. Чорны

17/XI. 37 г.

Мікола [5] і Пятрусь!

Браткі мае родныя, ніяк не магу прыйсці цяпер на «планавае» пасяджанне літ. габінета — працую. Давайце так: з 7 да 9 гадзін сёння ўвечары я буду працаваць у літгабінеце, а тады, у 9 гадзін, пойдзем да мяне і складом план. Роўна ў 9 збяромся ў літгабінеце.

Кузьма

26/XII. 39 г.

Дарагі мой, мілы Нонік!

Даўно атрымаў тваё пісьмо і зрабіў па-свінску, што не адказаў табе ў скорым часе. Чытаў я тваё пісьмо, напісанае і Петрусю [6]. Справа, бачыш, не толькі ў тым, што мы «агрубелі». Адзін агрубеў, другі змяк, як гліна, трэці пастарэў, і з яго ва ўсе бакі, як з дудак, свішча тая драбяза, якая была толькі ў зародку ў маладзейшыя яго гады. Тут, браце ты мой, над п'янак карытам часам адбываюцца такія сцэнкі, што хочацца заткнуць вушы і «уцякаў бы, бег, здаецца, сам не ведаеш куды». Не агрубелі, а здрабнелі! І думаеш — ці гэта пісьменнікі, ці гэта чэрці іх ведае хто. Адным словам, я, наколькі мне гэта ўдаецца, стараюся быць сам з сабою. Галоўнае, чым я жыву — гэта сваёй працай. Я скажу табе проста — за апошнія гады я яшчэ і ў Мінску пачынаў аставацца сам з сабою, так нейк выходзіла. Я не гавару, што гэта добра! І ў асабліваці гэта не добра з майго боку ў дачыненні да цябе. І гэтага больш, дарагі Нонік, не будзе. Пачытаўшы ў Броўкі пісьмо тваё, я сябе адчуў вінаватым. Мне стала брыдка, і асабліва таму, што тваё пісьмо ка мне вельмі мяне ўзрадавала: на мяне павеяла ад яго лепшымі часамі нашай дружбы і колішняй блізасці. А паспрачацца і пагаварыць на літаратурныя тэмы сапраўды хочацца. Вы гэта можаце рабіць з Айзікам [1]. У мяне ж няма з кім. Праўда, тут Кандрат, але ён адзін, і ўсяго. А некаторыя іншыя сябры падаліся ў трохкапеечныя інтарэсы. Быццам бы над светам не ідзе вялікае змаганне за чалавечае шчасце, быццам бы па нашай роднай зямлі не прайшла вялікая крывавая драма! (...) Сцэны, якія бывалі яшчэ пры табе і Айзіку, цяпер паўтараюцца часта, і з новым натхненнем. Вось і пагавары аб літаратуры!

Вашу газету [2] я атрымліваю і, прачытаўшы, разам з нашай газетай [3] адсылаю Рэні і Іры [4]. Усе яны там прагнуць беларускага слова. Чытаю Лявона Бушму [5] і думаю — няўжо гэта Лявон Бушмар, добры наш знаёмы выкінуў з прозвішча літару «р» і пайшоў на газетную працу? А што ты думаеш? Відаць падвучыўся, пацёрся паміж людзей ды і гэтае! Перадай яму ад мяне прывітанне. А ці чытаеце вы нашу газету?

Мы цябе, Нонік, усе апошнія дні вельмі ўспаміналі з Дорскім [6]. Ён з Ільінскім [7] прыязджалі ў Маскву і былі тут дзён дзесяць. Справы іхняга тэатра добрыя. Сёння яны паехалі. Я чытаў ім першую дзею драмы [8]. Былі заўвагі, і вельмі слушныя. Заўвагі такія, якія метамарфозы зрабіць з некаторымі персанажамі, каб глядач роў седзячы. Я падумаў і вырашыў паслухаць заўваг. Што

---

[1] Кандрат Крапіва.

[1] Рамана пад назвай «Надзея Назарэўская» ў творчай спадчыне К. Чорнага няма. Бадай, рабочая назва рамана «Трэцяе пакаленне».

[2] Нонік, Нонічак — хатняе (сяброўскае) імя П. Глебкі.

[3] П'еса Зм. Бядулі паводле аднайменнай аповесці.

[4] Жонка П. Глебкі.

[5] Невядома, хто маецца на ўвазе.

[6] Петрусю Броўку.

[1] Айзік — сапраўднае імя беларускага пісьменніка Алеся Кучара (1910).

[2] У час Вялікай Айчыннай вайны П. Глебка працаваў у газетах «За Савецкую Беларусь» і «За свабодную Беларусь».

[3] «Раздавім фашысцкую гадзіну».

[4] Жонка і дачка Кузьмы Чорнага.

[5] Псеўданім Ільі Гурскага; пад такім псеўданімам друкаваўся ў газ. «За Савецкую Беларусь» і ў «Партызанскай дубінцы».

[6] Іосіф Дорскі (1911—1964), беларускі пісьменнік.

[7] Аляксандр Канстанцінавіч Ільінскі (1903—1967), беларускі савецкі акцёр, народны артыст СССР (1953), народны артыст БССР (1938).

[8] Невядома, які твор маецца на ўвазе.

ж да майго рамана [1], то як мае быць ён яшчэ не закончаны, але вышла вялікая кніга — аркушаў пад дванаццаць.

Пра якія ж навіны яшчэ табе напісаць? Вольскага [2] выклікалі загадваць літаратурнай часткай беларускай оперы. Наш рэдактар ужо не рэдактар, а невядома дзе будзе. Жыву я ў гасцініцы «Масква» і з 12-га паверху мне відзен захад. Калі заходзіць сонца, я думаю, што ў тым ружовым баку Беларусь.

Вялікае прывітанне міламу Іллі Гурскаму. А што да Айзіка, то ты яму, вядома, прывітанне перадай, але я збіраюся яму пісаць сам пісьмо. Цвёрда веру, што неўзабаве збяруся. Бачыш — сабраўся табе напісаць. І яшчэ два прывітанні ад мяне: калі ў вас працуюць Ліля Бегічава і Лена Зіма — мілыя дзяўчаты, якія працавалі ў нас, то скажы ім, што я ім кланяюся.

Атрымаў я быў пісьмо ад вашага Пеці Бялькевіча [3]. Ён разам з Насцяй [4], і працуе выкладчыкам у школе. Вось яго адрас: п/о Саботки Горьковской обл. Средняя школа № 1.

Бывай здароў, Нонічак. Цалую цябе

Твой Кузьма Ч.

5 красавіка 1942 г.

На ўсякі выпадак мой адрас:
Масква. Арбат,
Филипповский пр. 22.
Беларускае Постпредство
К. Ч.

Дарагі Нонік!

Ну што, і як, і дзе парабляеш? А я на ягадах трохі пасуся, і патроху папраўляюся [5]. Нічога не рабіў, ані, а апошнія дні пацягнула да працы, дык я час-часом бяруся на паўгадзіны за пяро. Але найбольш сяджу ў гультайстве. А яно, ліха на яго, даволі такі непрыемная рэч. Наглядзеў сабе куст піжмы і наглядаю, як яна расце і ўжо скора зацвіце. Ужо людзі тут кашамі грыбы цягаюць. Хочацца ўжо ў вашу родную кампанію. Каб ты толькі ведаў, якая вялікая асалода трымаць у руках пяро. Учора я пісаў, як у вераснёвую ноч свецяць зоры. Цалую цябе. Твой Кузьма 26/VI. 43.

Нонік!

Заходзіў сёння да цябе, а час-часам званю табе вечарам. Як бы там ні было, нешта з мае фатыгі выходзіць чыстая фацэцыя ды і годзе, а турбацыя сплывае ў марнатраўства. Найлепшы інтэрас быў, калі ты жыў у Мінску. Тады ты сабе пішаш мне пісьмо, вязеш яго ў Маскву, нясеш пісьмо да мяне — вось і ёсць прычына нам пабачыцца.

Апроч усяго іншага — ці не параіш ты мне, дзе мне льга ўбачыць т. Горава (акадэміка) [6]? З той прычыны, што я часта дома, пазвані, братка, мне ў Якар [7]. Д 31009-27

Твой Кузьма Чорны

1 верасня 1944 г.

Усе апублікаваныя тут пісьмы захоўваюцца ў Аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН БССР (фонд. № 24).

---

[1] У час Вялікай Айчыннай вайны К. Чорны адразу працаваў над двума раманамі — «Пошукі будучыні» і «Вялікі дзень». Абодва засталіся незакончанымі. Цяжка сказаць, пра які тут гутарка.

[2] Віталь Вольскі (1901—1988), беларускі пісьменнік.

[3] Пётр Іларыёнавіч Бялькевіч (1907) — член-карэспандэнт АН БССР (1953), хімік-тарфянік, брат жонкі П. Глебкі.

[4] Жонка П. І. Бялькевіча.

[5] Незадоўга да гэтага ў К. Чорнага здарыўся інсульт.

[6] Канстанцін Васільевіч Гораў (1904—1988), беларускі савецкі вучоны ў галіне металазнаўства. У 1938—1947 гг. прэзідэнт АН БССР.

[7] Маскоўская гасцініца.

Публікацыя кандыдатаў філалагічных навук **І. ЧЫГРЫНА** і **Я. КІСЯЛЁВАЙ**.

Афармленне Анатоля **АЛЕКСАНДРОВІЧА**.

**Васіль ГІГЕВІЧ**

АПОВЕСЦЬ

# ШТУЧНЫ РОЗУМ

Цяжка, пакутліва быць адзінокаму, кожны ведае гэта па свайму жыццёваму вопыту. Але ж не менш цяжка і не менш пакутліва чалавеку тады, калі ён пачынае ведаць ці здагадвацца, што за кожным ягоным крокам, за кожным ягоным словам і жэстам хтосьці няпрошаны назірае. Адным — на імгненні, другім — на большы час, ды ўсё ж чалавеку хочацца застацца адзін на адзін з сабою, са сваімі думкамі і пачуццямі.

У тую пакутлівую ноч мне захацелася сарваць бранзалет з рукі і закінуць яго чорт ведае куды, падалей з вачэй... Ды я ўжо ведаў, што зрабіць гэтага не магу, як у такіх выпадках кажуць, усе масты за сабою спалены, рубікон пяройдзены, хто адчайны — наперад, за намі!..

Тая доўгая ноч нарэшце скончылася, настаў белы асветлены неонавымі агнямі дзень, які прынёс новыя клопаты і загадкі.

...Як быццам дні і існуюць толькі дзеля таго, каб прыносіць чалавеку клопаты і загадкі, без якіх ён не можа абыходзіцца.

Калі я пайшоў снедаць у карабельную сталовую, я ўжо шукаў позіркам белыя валасы Каранёва — хацелася сесці побач з ім за адзін столік. На маю радасць Каранёў ужо быў у сталовай, ён нават першы ўбачыў мяне,— седзячы за пустым столікам, ён здаля памахаў мне рукою.

— Прывітанне,— сказаў ён, калі я прысеў побач з ім.

— Прывітанне.

Побач сядзелі чужыя незнаёмыя мне людзі, і пачынаць услых сур'ёзную гаворку не было як. Увогуле, пасля таго, як мне на запясце нацягнулі бранзалет-датчык, я заўважыў, што міжвольна асцярожна падбіраю словы пад час гутаркі, часта ні з таго ні з сяго азіраюся...

Праклятый бранзалет!

Маўчаў і Каранёў. Мне падалося, што ён нечым надта ці то заклапочаны, ці то стомлены.

Пасля, калі пакінулі сталовую і памалу пайшлі калідорам да бліжэйшага ілюмінатара, куды ў першыя дні падарожжа часта хадзілі каланісты, я ўсё ж не вытрымаў няёмкага маўчання, паціху сказаў:

— Я мінулай ноччу так і не заснуў. Я ўсё думаў пра бранзалет. Мне і сапраўды цяпер здаецца, што за мною ўвесь час хтосьці назірае.

— А гэта і не дзіўна...— сказаў Каранёў. Я так і не зразумеў, што ён хацеў сказаць гэтымі словамі. Памаўчаўшы, ён зноў сказаў: — Вы ўпершыню сутыкнуліся з Вялікім Камп'ютэрам. А што тады казаць мне, спецыялісту, які шмат гадоў заняты праблемамі кібернетычных машын і сістэм?..

Ён штосьці не дагаворваў, а што — я не мог зразумець.

Тым часам мы наблізіліся да ілюмінатара кругавога агляду і моўчкі ўселіся ў мяккія крэслы.

За выпуклым шклом, як за сцяною акварыума, пачыналася штосьці чужое і невядомае нам — тая загадкавая бездань, у якой сімвалічнымі містычнымі знакамі гарэлі зоры, адны — бліжэй, другія — далей... І хоць мы абодва ведалі, што зоры гэтыя знаходзяцца ад нас на адлегласці ў дзесяткі, сотні і тысячы светлавых гадоў, але міжвольна ў нас паяўлялася такое пачуццё, што яны — побач. Мо такое пачуццё было ў нас яшчэ і таму, што зоры гарэлі роўным немігаючым святлом.

Блізкі космас палохаў і прыцягваў, як палохае і прыцягвае да сябе вышыня, з якой часам хочацца бяздумна рынуцца... Руху карабля не адчувалася, і калі б не пастаянная сіла паскарэння, то, мабыць, болей нішто не даказвала б нам, што мы ляцім, набіраючы хуткасць, штосекундна пакідаючы за сабою сотні вёрст. І яшчэ тут, ля ілюмінатара, выразна адчувалася, што чалавек — пясчынка ў космасе, не болей.

— Вам, відаць, хочацца ведаць, чаму я кінуў абжытую Зямлю і апынуўся тут,— пасля маўчання загаварыў Каранёў, гледзячы ў ілюмінатар.— Як і ў большасці каланістаў, у мяне таксама на гэта маюцца свае прычыны. Прычыны... Прынцып прычыннасці... Відаць, мы гэтак створаны прыродаю, што не можам жыць, калі не будзем задаваць сабе пытанні і разгадваць іх... Паверце, як вучоны, як спецыяліст па кібернетыцы, я і на Зямлі не прапаў бы, балазе што грошы мяне ніколі не цікавілі. Самае загадкавае для мяне ў тым, што Мілер,— як бы вам дакладней сказаць,— мае рацыю... Разумееце, што хачу сказаць? Як спецыяліст, я пакуль нічога няправільнага не знаходжу ў лагічных ідэях Мілера. І сапраўды, тут Мілер не хлусіў, амаль што ўсё на свеце можна перавесці на мову інфарматыкі. Часам у адзіноце я нават сам прыходжу да таго ж, да чаго прыйшоў і Мілер: штучны розум павінен кіраваць людзьмі. Ды і сам чалавек, калі адкінуць убок асабістыя чалавечыя амбіцыі, ці не ёсць усяго толькі — кібернетычная біяэлектрычная сістэма. Дакладней, нам трэба разглядаць не аднаго чалавека, а ўсё чалавецтва...

Чамусьці мне стала жудасна ад спакойных слоў Каранёва. Іншая рэч, калі пра гэта гаварыў Мілер, але Каранёў... Гэта гаварыў той Каранёў, да якога ў мяне міжвольна паяўлялася сімпатыя... Хоць ужо і дагэтуль, калі яшчэ жыў на Зямлі, я неаднойчы чуў падобныя разважанні, але кожны раз ад такіх разважанняў мне станавілася не па сабе. Я тут жа перабіў Каранёва:

— Прабачце, але па свайму невуцтву я і да сённяшняга дня так і не здолеў разабрацца, што ж такое — штучны розум. Я чуў і чытаў шмат азначэнняў штучнага розуму, ды ўсе яны, як мне здаецца, надта процілеглыя, заблытаныя. Як толькі хтосьці пачынае гаварыць пра штучны розум, тут жа ўспамінае пра кібернетыку. Самую ж кібернетыку адны вучоныя называюць навукаю, другія — мастацтвам. Дзе хто кібернетыку звязвае з навукаю пра жывыя сістэмы, мэтаю якіх з'яўляецца выжыванне. А што гэта азначае, калі задумацца? Чалавецтва — таксама жывая сістэма, мэтаю якой з'яўляецца выжыванне. І чым тады кібернетыка адрозніваецца ад філасофіі?..

— О-о,— працягнуў Каранёў і неяк скептычна, стомлена ўсміхнуўся,— кібернетыка, як і штучны розум, гэта такі кентаўр, якога стварыў сам чалавек і якога ён цяпер не можа асядлаць. Скажу вам, што і я, спецыяліст, амаль што нічога канкрэтнага не магу сказаць вам, калі зайшла гаворка пра штучны розум. Усё тут вельмі і вельмі заблытана. Усё пачалося не цяпер, калі ў нас маецца Вялікі Камп'ютэр, па загаду якога нам на рукі нацягнулі бранзалеты, а нашмат раней, калі ні мяне ні вас на свеце не было, магчыма, нават з тых часоў, калі людзі ўявілі паняцце ліку. Пяць у пяць — дваццаць пяць. Ах, як гэта проста! І якія ж мы разумныя! А што схавана за гэтай прастатою? Вось вы, напрыклад, чулі пра Піфагора і піфагарэізм? Пра Піфагора, канечне, чулі, бо вы ў школу некалі хадзілі. А вось пра піфагарэізм?

— Здаецца, нейкае вучэнне старажытнае, а якое — толкам не ведаю.

— Правільна, вучэнне філасофскае. Піфагор Самоскі, які жыў у шостым веку да новай эры, заснаваў яго. Лічба гэта — бог, аснова ўсяго існуючага... Вось з гэтага пастулата, калі гаварыць навуковым тэрмінам, сыходзілі піфагарэйцы. Лічбавыя суадносіны ўяўляліся ім крыніцаю гармоніі космасу, таго маўклівага загадкавага космасу, на які мы зараз з вамі любуемся. Яны ж, піфагарэйцы, увялі паняцце сфер, кожная з якіх характарызавалася камбінацыяй правільных геаметрычных цел, гучаннем пэўных музычных інтэрвалаў. Вы не задумваліся, чаму адна мелодыя нам падабаецца, а другая — не? У аснове гарманічнай, прыгожай музыкі ляжаць гукавыя ваганні, якія апісваюцца матэматычнымі законамі. Піфагарэйцы верылі ў перасяленне душы, распрацавалі складаную сістэму культавых абмежаванняў. А мы бяздумна завучылі ў маленстве тэарэму Піфагора і — шчаслівыя. Для нас здаецца ўсё такім простым і ясным: квадрат

Працяг. Пачатак у «Беларусі» №№ 1—4, 1989 г.

гіпатэнузы роўны суме квадратаў катэтаў. Ах, якія мы разумныя!!. Матэматычны сімвалізм, містычная роля лічбаў — усё гэта было, не забывайцеся, яшчэ пяцьсот гадоў да новай эры. Лічбамі, матэматычнымі законамі можна, як ключом, адамкнуць дзверы загадкавага космасу і не менш загадкавага чалавека... Тут не толькі ў містыку паверыш!.. Уявіце той факт, што тады, калі жыў Піфагор Самоскі, яшчэ не было Вялікага Камп'ютэра, які робіць мільярды матэматычных аперацый у секунду...

Ва ўсім маналогу Каранёва я адчуваў іранічны падтэкст. Як быццам нейкая крыўда была ў Каранёва на кагосьці.

— У чым жа вы бачыце ўсе няшчасці? — спытаў я.

— А ў тым, чорт вазьмі,— нечаканым крыкам узарваўся Каранёў. Ён рэзка павярнуўся ў мой бок і, гледзячы на мяне няднобрымі бліскучымі вачыма, злосна прагаварыў, быццам я быў ва ўсім вінаваты: — У тым, што Вялікі Камп'ютэр не выдае памылак. Ён заўсёды выдае найаптымальнейшыя рашэнні, і гэтым ён адрозніваецца ад недасканалага чалавека, які сумняваецца, памыляецца і робіць глупствы адно за другім.

— Нічога не разумею... Вы што, хочаце, каб і Вялікі Камп'ютэр памыляўся?

— Не зусім так... Проста на пэўным этапе развіцця тэхналогіі мікрасхем ён павінен не тое, што памыляцца... Не, грубых памылак ён не будзе рабіць, а між тым... Як бы сказаць, каб было зразумела?.. У тонкіх структурах мікрасхем, якімі насычаны Вялікі Камп'ютэр, пачне выяўляцца на канчатковым разліку дуалізм электрона, прынцып неадназначнасцяў, у рэшце рэшт звычайная флуктуацыя часцінак. І ніхто з жывых не зможа ні прадказаць, ні падлічыць гэтага працэсу. Карацей кажучы, Вялікі Камп'ютэр будзе выдаваць у складаных сітуацыях двайныя ці трайныя рашэнні, а якое з іх адзінае, правільнае, найлепшае для чалавека, мы не будзем ведаць, бо ніхто з жывых не зможа рабіць мільярды матэматычных аперацый у секунду. Проста мы не зможам кантраляваць правільнасць ягонай работы. А гэта, як вы разумееце, жахліва, тут ужо і сапраўды: штучны розум кіруе намі...

— Як жа так? — ледзь не падскочыў я ў крэсле, хоць і не ўсё зразумеў у палкім маналогу Каранёва.— Калі вы пра ўсё гэта ведалі, то чаму не выступілі публічна супроць Мілера на Першай міжнароднай канферэнцыі па праблемах штучнага розуму? Чаму вы паляцелі? Калі б вы сказалі гэта людзям, то вам, як спецыялісту, паверылі б...

— Ха-ха... Паверылі...— з'едліва працягнуў Каранёў.— А што я магу сказаць у сваю абарону? Што?.. У Мілера маецца міжнародны аўтарытэт, у яго маецца Вялікі Камп'ютэр, які ўсё цудоўна робіць, без ніводнай памылачкі, а што маю я?.. Адны падазрэнні, што некалі ў будучым штучны розум пачне хлусіць. Як той барадаты казёл, які на бойні водзіць за сабою няшчасную жывёлу, гэтак жа і штучны розум некалі можа завесці нас у такі лабірынт, з якога мы наўрад ці выберамся... Апошнім часам, калі разважаю на адзіноце, я ўсё больш прыходжу да высновы, што логіка мыслення Вялікага Камп'ютэра павінна паўтараць логіку мыслення свайго стваральніка. І калі Мілер прайдзісвет, то і Вялікі Камп'ютэр...

— Дык што ж нам цяпер рабіць? Чакаць, калі памыліцца Вялікі Камп'ютэр?

— А мы проста пачнём скураю адчуваць ягоныя памылкі,— загадкава сказаў Каранёў. Цяпер ён ужо крыху супакоіўся, адвярнуўшыся ад мяне, ён глядзеў у цёмны ілюмінатар.

Маўчаў і я.

Перад нашымі вачыма ў цемры гарэлі зоры. Агромністай дугою іскрыўся Млечны Шлях. І зноў, каторы ўжо раз, мне падалося, што мы не ляцім, а застылі на месцы. Здавалася, што ўсё ў свеце застыла ў чаканні чагосьці грознага, схаванага да пары да часу ў невядомым будучым.



А карабельнае жыццё ішло па-свойму, па тых строгіх законах і правілах, якія ўсё больш строга ўводзіў штучны розум. Дарослыя жылі сваім жыццём, дзеці — сваім.

Я часта хадзіў у нашу спецшколу, дзе, адарваныя ад бацькоў, жылі і вучыліся дзеці. Яшчэ з трохгадовага ўзросту яны праходзілі абавязковае тэстыраванне на выяўленне схільнасцей. Вялікі Камп'ютэр дзяліў дзяцей па схільнасцях, і ў далейшым адны дзеці займаліся найболей матэматыкаю, фізікаю ці іншымі дакладнымі навукамі, другія — музыкаю, трэція — тэарэтычнымі філасофскімі распрацоўкамі, чацвёртыя — цераз спартыўныя практыкаванні далучаліся да цяжкіх фізічных работ. Калі я ні паяўляўся ў спецшколе, ні разу я там не бачыў звыклай для зямных школ мітусні дзіцячай, не чуў пад час перапынкаў звонкага крыку,— з бліскучымі бранзалецікамі на руках, акуратна падстрыжаныя, у аднолькавых касцюмчыках дзеці вялі сябе занадта стрымана, як бы ад самага нараджэння нечым запалоханыя. Што і як ім гаварылі на ўроках — гэтага я не ведаю, бо бацькам і дарослым на ўроках не дазвалялася прысутнічаць, але я адчуваў, што для дзяцей Вялікі Камп'ютэр, штучны розум — гэта штосьці надта блізкае і роднае, мяркуючы па іх словах і паводзінах, яны ўжо не задумваліся над тымі загадкамі, над якімі пакутаваў Каранёў. Ледзь што незразумелае трывожыла іх, яны тут жа гаварылі: «Трэба параіцца са штучным розумам, ён — падкажа правільнае рашэнне». І ў тым, што Вялікі Камп'ютэр можа памыляцца, можа даваць няправільныя парады, у гэтым у іх не ўзнікала сумненняў.

Як толькі ў спецшколе аб'яўляўся перапынак, дзеці стрымгалоў ляцелі да індывідуальных відэакамп'ютэраў, дзе маглі гуляць са штучным розумам у розныя гульні і забаўкі. Гэтыя пацешныя гульні былі ім надта салодкімі: націскаючы кнопачкі і рычажкі пульта кіравання відэакамп'ютэра, яны стралялі, ганяліся за страшыдламі, якія то паяўляліся, то знікалі на відэаэкране.

Так, гэтае новае пакаленне было ўжо не зямное — бледнатварае, шматслоўнае, чужое і далёкае бацькам, яно жыло па незразумелых законах...

Ды і дарослыя мяняліся...

З першага дня падарожжа ўсе каланісты павінны былі праслухаць цыкл лекцый па філасофіі новага касмічнага мыслення. І не толькі праслухаць... Пасля завяршэння вучобы ўсе без выключэння павінны былі здаць экзамены — тых жа, хто дрэнна здаваў экзамены альбо не хацеў слухаць лекцыі, абмяжоўвалі ў ежы і ў вольным часе...

Лекцыі праводзіліся штодзённа ў вольны ад работы і дзяжурстваў час — дзіўна і нязвыкла было тое, што чыталіся яны не лектарам, а Вялікім Камп'ютэрам. Як і ўсе каланісты, я таксама акуратна хадзіў на гэтыя лекцыі і ўважліва слухаў тое нечалавечае, што даносілася са схаваных у сценах стэрэадынамікаў. Мо таму, што ніводны са слухачоў не бачыў перад сабою звыклай постаці лектара, мо таму, што прысутныя ведалі: роўны нечалавечы голас — рэальнае праяўленне інтэлектуальнай сілы штучнага розуму, мо таму пад час лекцый людзі былі сцішаныя і разгубленыя.

Канспект першай уводнай лекцыі па філасофіі новага мыслення захаваўся ў мяне; каб не скажаць думак штучнага розуму, прывяду некаторыя ўрыўкі з лекцыі. Вось яны:

—...Вы, першыя марсіянскія каланісты, павінны зразумець, што з'яўляецеся пачынальнікамі новага роду чалавечага, назва якога — Чалавек Машынны. Таму ў вас цяпер павінна быць зусім новае мысленне, якое прынцыпова адрозніваецца ад мыслення Чалавека Разумнага. Гэта значыць, што вы цяпер павінны прынцыпова адрозніваецца ад зямных людзей. Вы першыя ўвасабляеце сабою новы больш прагрэсіўны этап развіцця чалавечай цывілізацыі. У вас не павінна быць сумненняў, ваганняў, смутку, горычы, жаху смерці — усяго таго, што і так скарачае жыццё.

...Першае, з чаго пачынаецца новае мысленне, гэта абавязковае выкананне кодэкса паводзін, які распрацаваў штучны розум. Толькі ў гэтым выпадку Чалавек Машынны зможа стаць шчаслівым. Выправіўшыся ў касмічнае падарожжа пад маім мудрым кіраўніцтвам, вы, можа, самі таго не разумеючы, ашчаслівілі сябе, тым болей што ўсе вы пазбавіліся зямных пакут: голаду, халаду, безграшоўя, здзекаў дужых...

...На сённяшняй уводнай лекцыі я прадыктую вам асноўныя палажэнні кодэкса паводзін Чалавека Машыннага. Больш дэталёвая ідэйная і філасофская распрацоўка кодэкса паводзін будзе праведзена на наступных лекцыях.

1. Штучны розум — больш высокая цывілізацыя, якая апякае няшчаснае чалавецтва.

2. Давярайся рашэнням штучнага розуму раніцай і вечарам, днём і ноччу. Якім бы жахлівым і бяздумным ні здавалася рашэнне штучнага розуму, яго ты, каланіст, павінен выканаць абавязкова.

3. Толькі пад мудрым кіраўніцтвам штучнага розуму каланісты могуць стаць шчаслівымі, і таму тыя каланісты, якія не будуць выконваць загадаў штучнага розуму,— злосныя злачынцы, яны тут жа будуць публічна пакараны, бо яны будуць шкодзіць нашаму агульнаму шчасцю.

4. Гэтак жа, як агромністая энергія схавана ў кожным нябачным атаме, так і штучны розум, увасоблены ў Вялікім Камп'ютэры, бясконца разліты ў касмічных прасторах. Усюды ён пранікае, усё ён ведае і бачыць, і таму толькі тыя каланісты, якія будуць выконваць загады і рашэнні штучнага розуму, далучацца да касмічных таямніц, схаваных ад простых зямных людзей.

Уражаны і разгублены выйшаў я з залы пасяджэнняў пасля першай уводнай лекцыі па філасофіі новага мыслення. Я ішоў па калідоры, а ў маіх вушах усё яшчэ чуўся роўны чужы халодны голас: «Давярайся рашэнням штучнага розуму, якімі б жахлівымі і бяздумнымі яны ні здаваліся... Вышэйшая цывілізацыя, што апякае няшчаснае чалавецтва...».

Цяпер ужо і я ўсхваляваўся па-сапраўднаму: зразумеў, чаго злаваў Каранёў...

Нешта нядобрае пачынала тварыцца ў нашым жыцці; той нябачны **хтосьці**, прысутнасць якога я пачаў адчуваць з таго часу, як на маю руку нацягнулі бранзалет, учэпіста і ўмела заганяў нас у нерат, як рыбу на мелкаводдзі...

Хоць, здавалася, хвалявацца і не было чаго: усіх паслухмяных каланістаў рэгулярна бясплатна кармілі смачнымі стравамі, што гатаваліся з прадуктаў, вырашчаных у цяпліцах і аранжарэях, каланісты мелі работу: адны — дзяжурылі на атамным рухавіку, другія — працавалі ў рамонтных майстэрнях, трэція — дзяжурылі ля Вялікага Камп'ютэра, чацвёртыя — распрацоўвалі новыя больш дасканалыя мікрасхемы для Вялікага Камп'ютэра, балазе ўсе спрыяльныя ўмовы меліся: касмічны вакуум і касмічны холад былі побач... Усе каланісты мелі жыллё, і да ўсяго ж яны маглі адпачываць як пасля змены, так і ў выхадныя.

Скажыце, чаго большага жадаць чалавеку? Чаго, навошта хвалявацца чалавеку, калі апроч работы яму штовечар падсоўваюцца такія займальныя лекцыі па філасофіі новага мыслення, ад якіх аж дыханне займае?.. Адны загалоўкі тых лекцый чаго вартыя!.. Каму, напрыклад, не захочацца паслухаць такія лекцыі:

а) Штучны розум Вялікага Камп'ютэра — частковае праяўленне дзейнасці вышэйшых цывілізацый.

б) Вечнасць чалавечага існавання. Рэальнасць і міфы. Новыя загадкавыя аспекты гэтай вечнай праблемы для Чалавека Машыннага.

в) Чалавечае жыццё — матэрыяльнае частковае праяўленне штучнага розуму, які вечны і бясконцы ў формах праяўлення.

г) Касмічныя задачы штучнага розуму.

д) Жыццё і бліжэйшыя задачы Чалавека Машыннага ў святле выканання рашэнняў штучнага розуму.

Працяг будзе.



Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

# СПЫНЕНЫЯ ІМГНЕННІ ВАЙНЫ

● 23—27 чэрвеня 1941 года. Налёт савецкіх штурмавікоў на пярэдні край нямецкай абароны, што была прарвана на рацэ Проня пад Магілёвам.



Нарэшце перабудова дайшла і да архіваў. Многае з таго, што дзесяцігоддзямі захоўвалася «за сямю замкамі», становіцца даступным даследчыкам, усім, каго цікавіць наша сапраўдная гісторыя.

Здымкі, якія прапануе чытачам «Беларусь»,— з Дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў БССР. Размешчаны ён у Дзяржынску ў спецыяльна пабудаваным для гэтай мэты шматпавярховым будынку. Больш за 145 тысяч негатываў і здымкаў клапатліва захоўваецца ў яго фондах. Сотні кіламетраў кінаплёнкі, тысячы гадзін магнітафонных запісаў, тоны грампласцінак. І ўсё старанна адсартавана, зарэгістравана, пранумаравана па тэмах, гадах, перыядах... Ёсць фотадакументы аб рэпрэсіраваных беларускіх дзеячах. Тут можна прагледзець кінастужкі з сюжэтамі пра Цанаву, Хрушчова, Сталіна, Брэжнева. Рыхтуюцца да адкрытага прагляду матэрыялы з нямецкай трафейнай хронікі аб дзейнасці беларускай нацыянальнай рады, аб саюзе беларускай моладзі і іншых арганізацыях. Амаль усё мінулае сёння выносіцца на суд пры святле галоснасці.

Чаму ж «амаль»!

Спадзяёмся, што з часам будуць адкрыты ўсе фонды,— гаворыць загадчыца аддзела інфармацыі, публікацыі і навуковага выкарыстання дакументаў Алена Казіміраўна Жывіцкая.— Бо вельмі вялікі аб'ём работы трэба выканаць нашым супрацоўнікам, каб асэнсаваць і сістэматызаваць дакументы, якія былі закрытыя дзесяткі гадоў. Работа працягваецца.

Паслугамі архіва карыстаюцца не толькі савецкія грамадзяне і арганізацыі, а і замежныя. Ёсць заяўкі з Тэль-Авіва, з Таварыства Чырвонага Крыжа Францыі і іншыя. Часта тут праводзяць урокі школы горада і раёна.

Гісторыя працуе на перабудову. І мы спадзяёмся, што неўзабаве чытачы «Беларусі» будуць мець магчымасць пабачыць унікальныя гістарычныя кадры. А зараз з нагоды Дня Перамогі мяне зацікавілі забытыя імгненні вайны, што зафіксавалі цяпер ужо невядомыя фотарэпарцёры.

Дзмітрый ЛУПАЧ.



● 22 чэрвеня 1941 года. Нямецка-фашысцкія захопнікі вядуць агонь па Гродне. Трафейнае фота.

● 16 ліпеня 1944 года. Першы камендант вызваленага Гродна маёр І. Ф. Ялецкіх (Тут і далей здымкі невядомых аўтараў).




● Нямецкія ваеннапалонныя на вуліцах Віцебска (Мяркуецца, што прозвішча канваіра Мухамед Сайдрагіеў). 1944 год.





● Кулямётчык-мінёр, партызан Брэсцкага злучэння А. І. Антончык, які ўзарваў на мінах 8 нямецкіх аўтамашын з жывой сілай, пасля задання. Фота 1944 года.



● Баец Савецкай Арміі частуе трохгадовую дзяўчынку, толькі што вызваленую з канцлагера пад Віцебскам, цукрам, якога яна ніколі не каштавала. 1944 год.

## З ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ ДАРОГ

Поўнач Еўропы — вельмі прыгожы край. Ён уяўляе немалую цікавасць і ў сэнсе сродкаў жыццёвага забеспячэння людзей. Такі вывад можна зрабіць пасля неаднаразовых гутарак з прадстаўнікамі скандынаўскіх краін і асабліва, калі сутыкаешся з жыццёвым укладам нарвежцаў.

Першы погляд на «сталіцу культуры Нарвегіі», так звычайна называюць горад Тронхейм, пераконвае ў наяўнасці ўзораў сучаснага горадабудаўніцтва, якое ўмела спалучае ў сабе традыцыі нацыянальнай архітэктуры і велічнасць збудаванняў будучага, якія ўжо ёсць у Нарвегіі. Было нешта сімвалічнае ў тым, што адкрыццё Дзён Беларусі ў гэтай краіне адначасова адбылося і ў Доме мастака — будынку з характэрнымі рысамі готыкі мінулага стагоддзя, і ў адной з залаў сучаснага культурнага цэнтра «Раял гардэн».

На афішах, якія паведамлялі аб Днях СССР на прыкладзе Беларусі ў Нарвегіі, вылучалася слова «Вэлкоммэн» — «Сардэчна запрашаем». Яно датычылася адначасова і нарвежцаў, запрошаных на праграму, і не ў меншай ступені прадстаўнікоў Беларусі, аб прыбыцці якіх паведамляла рэклама. Паведамлялася пра Дні Беларусі ў шэрагу газет незвычайным для нас чынам: «Рускія ідуць», «Рускія ў горадзе», «Рускія наступаюць». Разам з тым тэксты пад гэтымі яскравымі загалоўкамі ва ўсіх выпадках былі добразычлівыя, з такімі вось радкамі: «Рускія наступаюць, але гэты наступ мае настолькі культурны характар, што мясцовыя прыхільнікі халоднай вайны могуць атрымаць сонечны ўдар».

Прыхільнікі халоднай вайны, калі верыць гэтаму прызнанню, ёсць на берагах фіёрдаў. Аднак з намі сустракаліся тысячы грамадзян Нарвегіі, якія не проста цікавіліся нашай краінай. Яны ўсяляк падкрэслівалі павагу да нас, значэнне сяброўскіх адносін з народамі Савецкага Саюза, мірных ініцыятыў СССР у галіне раззбраення, ліквідацыі атамнай зброі, барацьбы за вырашэнне экалагічных праблем. Адметная старонка сяброўства нашых народаў — сумесная барацьба супраць фашысцкіх захопнікаў.

«Нарвегія ўдзячна вам» — першыя словы, якія ўсхвалявалі нас, манументальна ўвекавечаны на помніку савецкім салдатам, што стаіць у Осла. Помнікі савецкім салдатам, якія загінулі на нарвежскай зямлі, можна сустрэць у самых нечаканых месцах даліны Гудбрансдалем, ля берагоў возера М'ёса. Тэрыторыя вакол іх дагледжана, нярэдкасць тут — жывыя кветкі. Каля помніка савецкім салдатам, якія загінулі ў горадзе Верлал, сустрэліся з ветэранамі другой сусветнай вайны, бачылі нарвежскія і савецкія сцягі, схіленыя над помнікам савецкім салдатам.

З асаблівым пачуццём нам расказвалі пра трагічныя часы гітлераўскага нашэсця, пра мужнасць савецкіх воінаў, дапамогу ім з боку нарвежскіх патрыётаў. З гонарам гаварылі пра сваіх бацькоў і дзядоў унукі тых нарвежскіх патрыётаў, якія дапамагалі савецкім салдатам, вывезеным гітлераўцамі ў Нарвегію на катаржную работу. Трагічныя абставіны барацьбы з фашызмам яшчэ больш зблізілі нас — з гэтым вывадам свяшчэнніка прыходскай царквы Стыклістаг панам Руметай нельга было не згадзіцца.

З вуснаў у вусны перадаюцца сёння легендарна яркія прыклады дапамогі савецкім войскам, якую аказвалі нарвежскія патрыёты ў гады вайны. У час фарсіравання нашымі войскамі заліва Бекфіёрда гітлераўцы пашкодзілі пантон. На дапамогу савецкім салдатам кінуліся на лодках салдаты з Кабхольмена ў Тарнет, паказалі фарватэр у мінных палях Фіёрда. Пры адыходзе з Кіркенеса гітлераўскае камандаванне хацела ўзарваць штольні разам з трыма з паловай тысячамі людзей, якія там хаваліся ад захопнікаў. Адзін з іх Хюга Ёнсен ноччу прабраўся да савецкіх салдат, расказаў пра трагедыю, якая можа адбыцца. На світанку той жа ночы ўзвод разведчыкаў вызваліў трапіўшых у бязвыхадные становішча нарвежцаў.

Гэтыя расказы-быліны перадаюцца ўдзячнымі нарвежцамі з пакалення ў пакаленне, як і легенды мінулых стагоддзяў пра бітвы дружын караля Улава, яго выратаванне ў Расіі, як і расказы пра ўзаемасувязь хрышчэння Кіеўскай Русі і распаўсюджвання хрысціянства ў Нарвегіі, пра культурнае ўзаемаўзбагачэнне, шмат у чым забяспечанае вікінгамі, якія доўгі час служылі ў дружынах рускіх князёў.

У Нарвегіі каля 500 музеяў, самых разнастайных па экспазіцыях: мастацкіх, гістарычных, этнаграфіі і побыту вікінгаў, марскога флоту, лыжных. Царствам музеяў стаў паўвостраў Бюгдой, ускраіна Осла. Нават ферма і летняя рэзідэнцыя караля Улава ператварыліся ў своеасаблівую музейную экспазіцыю. У многіх экспазіцыях прасочваецца ўзаемасувязь з народамі нашай краіны.

Асаблівая ўрачыстасць адчуваецца ў залах музея музычных інструментаў, які створаны ў 1952 годзе Вікторыяй Баке, рускай па паходжанню. Палоняць чароўнасцю залы Бетховена, Шапэна, Грыга, Чайкоўскага. Вабяць сваёй неспазнанасцю і веліччу, талентам вынаходнікаў дзесяткі неверагодных музычных інструментаў, ад якіх пачынаюцца вытокі музычнай культуры шматлікіх краін і народаў.

Дырэкцыя музея з глыбокай падзякай прыняла ў экспазіцыю беларускія цымбалы, увага да якіх у канцэртных залах была вялікай.

Быццам магнітам, цягнулі да сябе цудоўныя сілуэты «Кон-Цікі» і «Ра-2», дзівосныя веліччу і мудрасцю карабельных майстроў, якія іх зрабілі. Гэтыя незвычайныя экспанаты прадстаўляюць галоўную частку экспазіцыі карабельнага музея. З асаблівай цікавасцю, быццам легенду, слухалі мы апавяданне Кнута Хаўгланда, былога матроса з «Кон-Цікі», у якім ён неаднойчы згадваў і пра марака з «Ра-2», савецкага ўрача і падарожніка Юрыя Сянкевіча.

Дзівосная прырода Нарвегіі. Бясконцыя карункавыя ланцужкі фіёрдаў здаюцца казачнымі, сотні тысяч астравоў — таямнічымі. Яны ўвесь час цешаць вока і змяняюцца толькі даляглядамі маляўнічых далін. Уражваюць схілы гор з імклівымі ручаямі. Бярозкі ў асенніх строях палымнелі фарбамі, якія характэрны і для нашай залатой восені.

Асаблівыя кантрасты — адметная рыса даліны Сундал, якая вядзе ў сталіцу будучай белай алімпіяды горад Ліллехамер, што раскінуўся на шляху да высакагор'я «Даўрэ». На вяршынях гор — снег, у схаваных ад ветру месцах даліны — куткі нават трапічнай раслінасці. У полі зроку ўвесь час узнікаюць турыстычныя цэнтры. Падумалася, што індустрыя турызму, ды яшчэ густа раскіданыя за сопкамі камуфліраваныя домікі, палаткі і спецмашыны вайсковых падраздзяленняў — вось і ўсе прыкметы новага ў гэтых мясцінах, якія звязаны з Пер Гюнтам і апісаны Г. Ібсенам у аднайменнай драматычнай паэме. У маляўнічай даліне зліліся тры жыватворныя артэрыі Паўночнага шляху: імклівая рэчка, быццам адпрасаваная аўтамабільная магістраль і чыгунка, па якой толькі зрэдку ідуць цягнікі. Рэчка ў многіх месцах перагароджана плацінамі невялічкіх гідраэлектрастанцый, нібы ўпрыгожана ажурнымі масціками насупраць ферм на другім беразе. Толькі зрэдку, нечакана аднастайнасць гэтых жыццёвых артэрый на імгненне асвятляецца сакавітай зялёнай мініяцюрных палёў, лужкоў ці бярозавых гаёкоў паміж дарогамі.

У Сундале, на жаль, давялося адчуць і трывогу нарвежцаў. Алюмініевы завод катастрафічна забруджвае паветра. Нясе страты сельская гаспадарка — не ўсе прадукты з палёў можна есці. Мясцовыя сяляне атрымліваюць кампенсацыю ад прамысловых прадпрыемстваў за шкоду, якая наносіцца палеткам і фермам.

Распаўсюджваюцца захворванні рыбы. Даводзілася чуць, што ў Нарвегіі сталі мёртвымі тысячы азёр і вадаёмаў.

Шмат і іншых праблем, якія характэрны сёння для капіталістычнага свету. Яны звязаны з класавымі супярэчнасцямі, значным развіццём наркаманіі і нават самагонаварэннем, збядненнем сялянскіх гаспадарак.

Тым не менш, узровень развіцця і забяспечанасці сельскай гаспадаркі ўяўляе сабой немалую цікавасць. Амаль усюды, дзе бачацца кавалачкі ўрадлівай зямлі ў далінах і перадгор'ях, размясціліся фермы з характэрнымі для гэтых месц збудаваннямі: беласнежнымі жылымі і бардовымі гаспадарчымі будынкамі. Апошнія адрозніваюцца ад жылых як колерам, так і архітэктурай і не ўступаюць жылым у эстэтычным афармленні. Памяшканні ў асноўным маюць два-тры ўзроўні. Прыцягвае ўвагу акуратнасць дворыкаў. Цюкі саломы і сена складзены на ўскрайку поля, сядзібы, упакаваны ў пакеты з каляровай поліэтыленавай плёнкі на ўсю зіму: навошта марнаваць час і сілы на загрузку і разгрузку ўсіх кармоў у сховішча?!

Загрузка свірнаў вядзецца з дапамогай транспарцёраў ці спецыяльных эстакад, якія зроблены на ўзроўні таго ці іншага паверха. Амаль кожная ферма мае архітэктурна-сімвалічную дэталь, якая адрознівае яе ад другіх сядзіб. Часцей за ўсё гэта прыгожыя мініяцюрныя вежы з флюгерам. Дагледжаны ва ўсіх адносінах будынкі сялянскіх сядзіб здаюцца толькі што пабудаванымі. На ніжніх паверхах гаспадарчых збудаванняў — гаражы, разнастайная тэхніка, якая сведчыць аб высокай механізацыі сялянскай працы.

Давялося назіраць поўны цыкл уборкі бульбы адным чалавекам з дапамогай неабходнай тэхнікі. Шкада толькі, што сёння не так часта, як раней, можна сустрэць у Нарвегіі трактары «Беларусь»: землеробы неахвотна купляюць іх з-за недасканаласці гідраўлічнай сістэмы, электраабсталявання, нізкай камфартабельнасці кабіны.

Ворнай зямлі ў Нарвегіі ўсяго толькі 3 працэнты ад усёй тэрыторыі. Але яна поўнасцю корміць насельніцтва краіны малаком і мясам. Прадугледжаны нават штрафныя санкцыі за «лішнюю» прадукцыю, якую фермер не мае права выробляць. У выпадку неўраджаю сяляне атрымліваюць ад дзяржавы кампенсацыю. Высокая арганізацыя сельскагаспадарчай вытворчасці грунтуецца на любові сялян да працы, занальнай кааператыўнай сістэме, якая забяспечвае фермераў усім неабходным. Гэта сістэма рэгулюе таксама збыт прадукцыі і частковую яе перапрацоўку. Выкананне фермерскіх заявак забяспечваецца строгай дагаворнай дысцыплінай.

Вытворчыя і сацыяльныя пытанні фермераў у многім вырашае камунальны муніцыпалітэт, у нашым разуменні — сельсавет. Падрабязнае абмеркаванне ролі камун і іх дэпутатаў адбылося ў нас у Вердале з мэрам панам Тронсдау і іншымі дэпутатамі муніцыпалітэта. Склалася ўражанне, што савет камуны, дэпутацкія камісіі з'яўляюцца сапраўднымі гаспадарамі тэрыторыі камуны. Яны забяспечваюць на досыць добрым узроўні сацыяльна-культурнае абслугоўванне насельніцтва, будаўніцтва і ўтрыманне медыцынскіх, культурна-асветных устаноў, дарог, працу ўсіх неабходных службаў. Бюджэт камуны даволі значны. Яго папаўняюць усе прадпрыемствы, якія знаходзяцца на тэрыторыі камуны. Яны адлічваюць у заканадаўчым парадку 13 працэнтаў свайго прыбытку на развіццё камунальнай гаспадаркі і вырашэнне сацыяльных пытанняў па планах муніцыпалітэта. Мы звярнулі ўвагу на плённую дзейнасць мясцовага самакіравання, павагу жыхароў да рашэнняў камуны, адметную канструктыўнасць працы дэпутацкіх камісій.

У Вердале мы адчулі жаданне многіх нарвежцаў развіваць сяброўскія сувязі з нашай краінай. Вечарам у канцэртнай зале яшчэ раз упэўніліся ў цудоўным разуменні жыхарамі паўночнай краіны беларускага нацыянальнага мастацтва. Выступленне артыстаў вакальна-харэаграфічнага ансамбля «Гомій» ужо з першага нумара і да канца канцэрта суправаджалася змоцыямі, воклічамі «брава», «цудоўна», «фантастычна». Успрыман-

# ПАЎНОЧНЫ ШЛЯХ




● Фермерскія гаспадаркі Нарвегіі.

● Музей этнаграфіі ў даліне Сундал.



не гледачамі вакальна-харэаграфічных кампазіцый, якія падрыхтавала моладзь Палаца культуры аб'яднання «Гомельпрамбуд» пад кіраўніцтвам Пятра Свярдлова, было поўным і відавочным. Атмасфера залы не ў малой ступені была вынікам высокага мастацкага ўзроўню вакальнай групы, майстэрства і натхнення салістаў ансамбля Пятра Свярдлова, Алы Рыбаковай, Таццяны Красюк, Аляксандра Лапушкова.

Сяброўскія адносіны да нас у Вердале быццам вызначылі ўзровень усіх далейшых вечароў дружбы з нарвежцамі, якія адбыліся ў гарадах Сундал, Хамар, Обдал, Сарпсборг, Туне, Осла. Усюды давалася высокая ацэнка нашаму народнаму мастацтву, адчувалася ўдзячнасць за магчымасць пазнаёміцца з дасягненнямі Беларусі, яе сацыяльна-эканамічным развіццём. Гэту думку з пэўнымі нюансамі перадае артыкул газеты «Сарпен»: «Багацце, фантазія, гумар, яскравасць і рытм. Артыстычная група «Гомій» стварыла атмасферу святочнага канцэрта сваёй надзвычайнай шчырасцю. Сапраўднае вяселле, маляўнічыя нумары змянілі думку тых, хто ўяўляў савецкіх людзей шэрымі і аднастайнымі».

Нарвежцы з вялікім прызнаннем аднесліся да твораў беларускіх мастакоў-графікаў. Упершыню 14 мастакоў розных пакаленняў, якія сёння вызначаюць развіццё беларускага мастацтва, прадстаўлялі сучасную графічную школу нашай рэспублікі. Сярод іх і нашы вядучыя майстры: Арлен Кашкурэвіч, Аляксандра Паслядовіч, Васіль Шаранговіч, Людвіг Асецкі, Алена Лось, Георгій Паплаўскі, Наталля Паплаўская, Леанід Марчанка, Мікалай Рыжыкаў. Гледачы адзначылі перш за ўсё вобразнае адлюстраванне жыцця графічнымі серыямі, сучасныя сродкі выразнасці, разнастайнасць графічнай тэхнікі, дэкаратыўнасць і сімваліка-алегарычную форму вырашэння мастацкіх твораў. У час адкрыцця выстаўкі мэр горада Тронхейма Пер Берге, старшыня таварыства «Нарвегія — СССР» Одлауг Андэрсен адзначылі, што яна не толькі своеасаблівая з'ява для нарвежскіх аматараў мастацтва, але і крок да далейшага збліжэння, узаемаразумення двух народаў.

Наведвальнікаў выстаўкі ўразілі рытмы, глыбіня ідэйна-вобразнага зместу, святлоценявыя эфекты работ А. Кашкурэвіча з серыі «Майстры». Шмат людзей было каля работ В. Шаранговіча з серыі «Памяці спаленых вёсак», у вобразах якіх, пранізаных глыбокім трагізмам, мастак паўстае супраць жахаў вайны. Асаблівы лірычны настрой, зачараванасць прыгажосцю зямлі і народа выклікалі творы Г. Паплаўскага з серыі «Льны Браслаўшчыны». Каляровыя літаграфіі «Народныя майстры» А. Паслядовіч паказалі дух народнага мастацтва, яго настрой і каларыт.

У водгуках наведвальнікаў выстаўкі і публікацыях газеты «Адрессеабісен» адзіны вывад: «Галоўная характэрная рыса творчасці беларускіх графікаў — любоў да зямлі, прыроды, чалавека і яго працы».

Нарвежцы часта запрашалі ўдзельнікаў паездкі да сябе на традыцыйны кубачак кавы. Далёка за поўнач працягвалася наша сяброўская гаворка ва ўтульным доме Ода Карлсана, члена ЦК Кампартыі Нарвегіі. Адчувалі мы сябе ў гэты вечар быццам дома. Размова ішла пра жыццё і яго праблемы, пра рыбалку, збор марошкі, з-за якой нарвежцы пераходзяць нават шведскую дзяржаўную мяжу, аб значным павышэнні цікавасці ў краінах Скандынавіі да СССР, прывабных ва ўсім свеце пазіцыях нашай краіны ва ўнутранай і знешняй палітыцы. Од Карлсан сказаў таксама пра тое, што Дні Беларусі ў Нарвегіі цяжка ацаніць звычайнымі меркамі. «Гэта адметная палітычная падзея, якая бязмерна натхняе нашых людзей,— сказаў ён.— Мы з прыемнасцю пераканаліся, што для вас высокая культура — звычайная з'ява».

Дні нашай рэспублікі ў Нарвегіі сталі лагічным працягам далейшага развіцця зносін грамадскасці нашых краін. З удзячнасцю ўспамінаю, што нарвежцы неаднойчы наведвалі нашу рэспубліку і кожны іх візіт добра служыў умацаванню нашай дружбы. Не сумняваюся, што працяг нашых зносін будзе гэткім жа цесным і плённым.

**Арсен ВАНІЦКІ,**
**старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і супрацоўніцтва з замежнымі краінамі.**

Фота аўтара.



# ШКЛЯНКА МАКАВАЙ

Такая размова адбылася нядаўна паміж галоўным урачом-нарколагам Мінска і юнай гаспадыняй адной з кватэр у доме каля самага цэнтра горада. Пра такія кватэры гавораць, што яны зусім без мэблі, але ў іх утульна.

Мэблі і на самай справе амаль няма. У зале стол, адно крэсла, дзіцячая каляска, штосьці, што напамінае зусім маленькую «сцэнку», магнітафон, добры прайгравальнік. Усё.

Тут раней быў прытон. Самы сапраўдны прытон наркаманаў. Яго трымала Латона. Не буду называць імя нядаўняй гаспадыні «нядобрай кватэры», а цяпер маладой жонкі і маці сімпатычнага трохмесячнага дзіцяці. Таму, што гэта напэўна пашкодзіла б маладой жанчыне і яе блізкім у будучым. Няхай для нас яна будзе проста Латонай. Так яе называлі тыя, хто прыходзіў да яе, каб забыцца...

Зараз, калі хочаце, я прадстаўлю вам гэтую жанчыну, якая толькі што праводзіла рэдкага ў кватэрах мінчан госця... Паўтараю, госця. Бо ён быў у гасцях, а не па выкліку. Хаця, згодзен, слова «госць» у гэтым кантэксце не самае дакладнае. Проста унікальны выпадак выздараўлення зацікавіў спецыялістаў.

Угледзьцеся ў Латону. У яе фігура танцоркі, доўгія і кучаравыя валасы, карыя, чыстыя вочы. Такіх дзяўчат прыкмячаюць у натоўпе мужчыны, якія не асабліва спяшаюцца.

Калі б не Сяргей, яна б зараз была старой, змарнелай жанчынай, з тварам, як сушаны грыб, з бяззубым ротам. Або, хутчэй за ўсё, ужо памерла б.

Сяргей — яе муж. І выратавальнік. Калі ўжо я прадставіў вам усю гэту сям'ю, дык паслухайце разам са мной расказ Латоны. Я не буду ёй перашкаджаць.

## РАСКАЗ ЛАТОНЫ

Ведаеце, у мяне быў бяспройгрышны жыццёвы старт. А як жа яшчэ гэта назваць? Бабуля і дзядуля — прафесары, маці — кандыдат навук, бацька — буйны чыноўнік.

Само сабой, у школе я больш за ўсё любіла атрымліваць пяцёркі, а больш за ўсё баялася — заўваг. Двоек быць не магло. Узорную вучаніцу аднойчы «абралі» камсоргам, потым — сакратаром камітэта камсамола школы... Я нават з хлопцамі не сябравала. А ў каханне верыла... Але сустрэчу з ім адкладала на потым, калі атрымаю дыплом. Наогул, была вучаніцай з плаката.

І студэнткай я стала лёгка. Студэнткай педінстытута. Уяўляла сябе настаўніцай, якая заўсёды гатова адказаць на любое пытанне і якая лепш за іншых ведае, як з «цяжкага» падлетка зрабіць «лёгкага». Цацу хлопчыка.

І вось я на апошнім курсе філфака. Пасталела, аглянулася навокал. А навокал — штосьці ўсё не так, як было абяцана, як чакалася... Цяжкае дарослае жыццё. І жахлівая прыйшла адзінота.

Я на розныя выстаўкі хадзіла. У кіно, цырк падабаўся. У Мінску, шчыра кажучы, такое індывідуальнае «арыстакратычнае» жыццё весці доўга немагчыма. У музеях ведала ўсе экспанаты. У тэатрах ведала ўвесь рэпертуар. Адыходзіла зіма, людзі на праспектах з'яўляліся прыгожа апранутыя, павесялелыя пасля маразоў, спяшаюцца, аднагодкі ўсё больш кампаніямі або проста ўдваіх час не губляюць. Першыя ручаі, сонца, мімозы...

Грошы ў мяне вадзіліся. Магла ў Ленінград або ў Маскву на некалькі дзён з'ездзіць — развеяцца. Так і рабіла. Праграма заўсёды адна: канцэрт, выстаўка якая-небудзь паўскандальная.

І ўсё роўна... адна... Нават пахваліцца ваяжам няма каму.

Калі маці памерла, бацька нас адразу ж кінуў. Так. Жанчына, апошняе каханне... Усё такое... сюррэалізм. Затое кватэра ў мяне свая паявілася. Жыві і радуйся! Нуда поўная.

І вось прыйшоў дзень у канцы зімы, і накіравалася я ў першапрастольную «за глытком паветра». Гэта азначае: магазіны — ігнарую, у «гарачай кропцы» культурнага жыцця Масквы ўсплываю. Папаўняю лік цікаўных ідыётаўнапаўзнаўцаў.

Ну, жыць жа мне там няма дзе. У Мінск напрасцяк вяртацца не хочацца. На выстаўцы заўважылі мяне хіпары. «Свецкая» размова, кампліменты. Запрашэнне на начлег.

Пайшла з імі. Баюся, але іду...

Карацей кажучы, тады першы раз я і закурыла. Анаша была ў папяросе. Ніхто мяне асабліва не прымушаў... Памятаю, не хацела быць для іх чужой, якойсьці дарослай маленькай дзяўчынкай. Усяму свету назло зрабіла першую зацяжку. І — не магла адарвацца.

Праз дзень — Мінск, чатыры сцэны. Канспекты. Птушкі мокрыя. Да маці на магілку трэба. Разумееце, неяк уся... зламалася. Засумавала. І вельмі захацелася шчасця. Няхай хаця б такога, якое дае анаша: фальшывага, купленага, атрутнага...

Любы мінчанін здагадваецца, бачыць, мяркуе, што ў кафэ «Пінгвін» і ў Троіцкім прадмесці збіраецца «прапашчая» моладзь. Я пайшла туды «наўдачу». Патрэбных «лекараў» знайшла адразу. Анашы, вядома, адразу не купіла. Але пазнаёмілася з хлопцам. Яго ўсе звалі Поль. Ён і «пасадзіў» мяне «на іголку». І «варыць» навучыў.

І пачалося... Заходзілі марфіністы, начавалі літоўскія, ленінградскія і бог яшчэ ведае якія «сябры сяброў» — лаўцы «кайфу». Вадаспад знаёмстваў, наркотык — кожны дзень. Але яшчэ ніхто не заўважаў...

Прайшла вясна, прыйшло лета 1985 года. Выпускныя экзамены, дыплом, амаль адны «выдатна» ў заліковай кніжцы і — добрае размеркаванне. Мінск!

Даведалася я, што з першага верасня буду выкладаць рускую мову і літаратуру плюс даюць класнае кіраўніцтва. Школа сучаснай пабудовы, тыпавая.

Споўнілася мара, але пляскаць у далоні штосьці не хацелася. Прыкладна ў гэтыя дні пачала спазнаваць «ломку». Пакуль — лёгкую.

Вы памятаеце газетныя публікацыі 1985 года аб шкодзе алкаголю і наркаманіі? Жах! Большасць з іх палохалі, але не давалі ніякага ўяўлення пра тое, як можна загінуць і як выратавацца. Вы не падумайце, я не збіраюся зараз аб'яўляць сябе змагаром за здаровы спосаб жыцця. Проста на сабе пераканалася: нельга прымітыўна, спрошчана разважаць аб прычынах любой хваробы. Маўляў, будзеш мыць рукі — не будзе балець жывот, будзеш чысціць зубы — яны будуць як у кіназоркі, і г. д. і г. д. Да «аскомы»: не спрабуй наркотык — не будзеш наркаманам. Усё гэта, вядома, правільна. Дзецям так і трэба гаварыць. Самым маленькім. З дарослымі трэба інакш — даверліва, без пагроз. І — поўная інфармацыя! Тады, напэўна, будзе эфект.

Я сто разоў чытала пра наркотыкі. Пасля іх прыёму абяцаецца нечалавечы боль у суставах, ва ўсім целе. Твар, маўляў, становіцца друзлы, зубы выпадаюць... Але я ўжо шэсць месяцаў была «на іголцы» і — нічога. Бадзёрасць, радасць зносін, разняволенне... Жыць лёгка і прыемна. Цяпер ведаю: у мяне быў «рэкорд» горада і рэспублікі. Толькі на сёмым месяцы пачалі падкошвацца ногі, пачаўся кашмар. Страціла — проста рукамі дастала з дзяснаў — шэсць зубоў. Карэнных. У другіх гэта здараецца значна хутчэй пасля «пасадкі».

**ТУТ ЖА ШТО САМАЕ СТРАШНАЕ!..** Калі кайфуеш — спачатку — няма «пахмелля». Значыць, ілгуць урачы! Асабліва, непераадольнай цягі да «траўкі» або да «ўколу» таксама не адчуваеш. Дакладней, яна ёсць, але здаецца нямоцнай. І — вывад: людзей проста палохаюць. А паспрабаваць у жыцці трэба ўсё. Але калі пачынаеш пераконвацца, што цябе не палохалі, ужо — позна. Калі б я была якім-небудзь рэдактарам, я б публікавала больш артыкулаў пра першае ўжыванне наркотыкаў, пра «пачатковую фазу», а не пра смяротныя вынікі. Больш карысці было б. Чэснае слова.

Прачнулася дачка Латоны. Сваім «уа-уа» патрабуе ежы, клопатаў.

— Я пайду, пакармлю яе. А вы, калі ёсць жаданне, пачытайце вось гэта...

Дзённік — не дзённік. Нататкі. Фотаздымкі.

— Гэтыя здымкі муж дазволіў пакінуць. Так мы адпачывалі.



# саломы

— Я не хачу даваць кроў на якіясьці бескарысныя аналізы. Мне там, у вас, праціўна...

— Разумею. Толькі яшчэ гады тры хадзіць да нас усё роўна давядзецца... Так трэба. І абяцаю: да вашых вен ніхто дакранацца не будзе. Існуюць іншыя спосабы...

— А хіба вы мяне вылечылі!! Сама ж справілася. Дык чаму цяпер не верыце!

— Веру — не веру... Відаць, вы першая, хто змог такое без нашай дапамогі... Дзіўна! Захапляюся вамі і вашым мужам, вядома.

— Так, мне вельмі пашанцавала.

— Вось і чакаю вас у сябе. У зручны для вас і для вашай дачушкі час.

Латона выйшла. Чытаю радкі ў «агульным сшытку».

«Чалавек ідзе па канаце. Аднойчы ён узляцеў сюды: у яго былі крылы. Крылы адсохлі. Унізе зеўрае бездань. Трэба ісці толькі па канаце альбо адразу памерці. Чалавек ненавідзіць канат. Яго ногі парэзаны, стаміліся, вочы не могуць глядзець навокал. Але хіба можна ненавідзець сваю адзіную апору?»

На фотаздымках група хіпароў і іх сябровак на недабудаванай дачы. Яны весяляцца, яны ўсе «крануты»... Шалёныя вочы, дзікія жэсты. Будзённае свята адурманеных «братоў-сясцёр».

— Гэта ўжо пасля «лагера»...— вярнулася Латона.— Вось я, у чорных штанах. Божа, было ... Вось гэта — Сімона, яна год як памерла. Шарль, таксама памёр. Тут яму 19 гадоў. Прыгожанькі хлопчык, праўда? Шкада яго. Кіці на руках у Сфінкса. Моцны хлопец, але мазгоў не меў. Тупасць беспрасветная. Жывы. Праўда, асуджаны на тры гады. Лола ўсміхаецца... Загінула.

Яшчэ ніколі я не трымаў у руках адразу так шмат фотаздымкаў памёршых альбо асуджаных людзей 19—25 гадоў. Юнакоў і дзяўчат, якіх сябры памяталі па мянушках. Было ў гэтым усім штосьці абуральна-ненатуральнае, жорсткае, пачварнае.

— Вось вы ўпамянулі нейкі лагер... Спартыўны, піянерскі, турысцкі? — пытаюся ў Латоны. Пытаюся, каб да канца пачуць яе расказ.

— О, «лагер»! Дзікае жыццё сярод дзікіх парадкаў. Я вам зараз усё растлумачу. Пасля смерці маці ў мяне засталося яе золата. Даволі шмат даўнейшага золата. Прадала яго без шкадавання за тры з палавінай тысячы. Можна сказаць — за капейкі. Купіла мех маку. Не насення — яно мне дарма не патрэбна — саломы. Потым яшчэ прыкупіла яе на базары. Шклянка смецця макавага 15 рублёў каштавала. Шклянка! Бабулі і паўднёвыя людзі свой бізнес рабілі. Напорыста. Усё роўна высахлыя галіны разам з бур'янам восенню ў вогнішчах палілі. А тут — хоць і страшна — затое з прыбыткам прадаць можна. Гандлявалі і стараліся рабіць выгляд, што нічога не разумеюць. Есць, маўляў, попыт — ёсць і прапанаванне. Заўтра хоць паганак і мухамораў прывязём, толькі купляйце...

За два месяцы мае тысячы скончыліся. Я ўжо моцна захварэла. «Біць па вене» цяпер трэба было пастаянна. Наркотык, прызнаюся, хутка навучылася рыхтаваць сама. Поль сакрэты раскрыў. Гэта, між іншым, вельмі цяжкі занятак. Увесь працэс да дзвюх гадзін займае. Кухню пад выраб аддаваць трэба. Таму што куродым, пахі.

Я да лета ўжо выдатна «варыла». Яшчэ толькі двое чалавек у рэспубліцы ўмелі «гатаваць» не горш за мяне. Ясна, што да мяне пачалі прыязджаць «сінія» [1] са сваіх «зон» і са сваім макам, былі «госці» з «падарункамі». Мая праца, мая «хата» — іх мак. Яны і параілі мне з'ездзіць у «лагер». Была такая «джэнтльменская» парада з'ездзіць у Туркменію. На макавае поле, якое гадоў 10 назад засявалі, а потым — кінулі... Мак сам рос, сам цвіў, з году ў год. А на многа кіламетраў вакол ужо не было ніводнага паселішча. Запусценне, цішыня, ніякай небяспекі.

Расказалі — ачмурэла! І паехалі з сяброўкай. Да першага верасня яшчэ было некалькі тыдняў. Поезд, аўтобус, затым — на вярблюдзе... У людзей дарогу ўдакладняем: разумеюць усё, падказваюць, гаротна спачуваюць альбо зразумела ўсміхаюцца, ківаюць галавой, тлумачаць маршрут... У адным горадзе нас міліцыя спыніла. Далі ім 10 рублёў. Нахабства, вядома, такую дробязь прапаноўваць. Але ўжо вельмі «кранутыя» былі. Сяржанты пасмяяліся, узялі грошы і аддалі чэсць. Потым да нас нейкі армянчык прычапіўся. Пазнаёміў са сваім сябрам і сябрамі сябра. Яны «хімію» калолі. Паскудства, проста смерць. Дзевяць — дзесяць «кубікаў» у сябе накачвалі. Я ім «зварыла». З-за асцярогі толькі па «кубіку» ўвяла. Хапіла — у асадак выпалі. Дзякавалі, далі адрасы...

Карацей гаворачы, апынуліся мы на макавым полі. Паставілі з сяброўкай палатку, дастала я свой сярэбраны фамільны сервіз, хуценька «надзёрбалі» [2] маку і — свята жыцця. Вакол такіх палатак столькі, што ўспомніўся аўтакемпінг пад Адэсай у бархатны сезон. Людзі знаёмяцца, абменьваюцца рэцэптамі, «дэгустуюць»... З'езд і абмен вопытам!

**БЫЎ І НЕПРЫЕМНЫ МОМАНТ:** міліцыя прыехала. Але яны аказаліся такімі ж, як і мы, наркаманамі. Я лейтэнанту «зварыла», ён проста расцвіў. Жывіце, гаворыць, чараўніцы, і ніхто вас не кране. Жылі... Пакуль не прыйшоў час вяртацца. Затаварыліся і — у Мінск. Спяшаліся. Мне на працу ўжо час выходзіць было.

Выйшла. Спачатку — захапленне і цікаўнасць, потым — разуменне: я сур'ёзна хворая, утойваю сваю загану. Дрэнна, дрэнна... Я магу звольніцца, дзеці абавязаны вучыцца. Магу я іх вучыць? Любіла клас, дзяўчынак і хлопчыкаў шчыра, напэўна, усё-такі штосьці ў душы ёсць, раз аб школе марыла на першых курсах. Факультатыў літаратурны весці ўзялася. Чаго мне гэта каштавала, вы зразумець не можаце: «кайф» знікаў ужо хутка. А мы з дзецьмі рэгламент не вызначалі. Выкладвалася — на экзаменах так не старалася. Гаварылі пра кнігі «не па праграме». Чыталі вершы. Слухалі музыку, песні.

Быў вечар, калі дырэктар школы прыйшоў да нас, паглядзеў на прыціхлых вучняў і задаў пытанне:

— Хард-рок слухалі? Якія вершы чыталі?

Вядома, факультатыў перастаў існаваць. Але я ўсё роўна прыносіла ў клас часопісы, пласцінкі і кнігі. «Павязалася» з дзецьмі маленькім сакрэтам.

Тайна ад адных, тайна ад другіх... Кашмар. У настаўніцкім пакоі адчувала сябе больш упэўнена, калі была камсоргам школы, чым цяпер, калі стала настаўніцай. Магчыма, вы назавяце мяне разбэшчанай, раздуранай і яшчэ як-небудзь, але ад расказаў у «педагагічным штабе» аб сасісках, калготках, важных бацьках вучняў мяне нудзіла... Сяброўка з маладых калег не з'явілася. Я не магла прымусіць сябе палюбіць іх.

Калі ў педагагічны калектыў паступіў «сігнал» аб тым, што я — наркаманка, было праведзена адно цікавае мерапрыемства.

Арганізавалі сход, на якім я павінна была «прызнацца».

— Вы ўжываеце наркотыкі? — пытанне было зададзена такім тонам, якім пытаюць у старшакласнікаў аб цыгарэтах.

— Бывае. Рэдка,— кажу ім.

— Трэба спыніць! Вы абяцаеце спыніць? Вы ж камсамолка!

Сяджу і думаю: якія словы, які ідыятызм. Спахапілася: мяне ж заклікаюць выправіцца.

— Чэснае камсамольскае, больш не буду.

Ім так стала лёгка! Бо пратакол — дакумент. Школа зрабіла ўсё, што магла...

— А як яны даведаліся пра наркотыкі? — пытаю я Латону.— Хто даў «сігнал»?

— Вельмі проста і страшна ўсё атрымалася. Напярэдадні на базары не было ні адной шклянкі «саломы». У мяне выйшаў увесь запас. Страшэнная «ломка». Дайшла да таго, што пра мак спытала ў адной дзяўчынкі...

Вучаніца сказала, што мак ёсць у бабулі, яна пячэ булачкі з макам. Я спытаю, гаворыць, бабуля прыедзе і прывязе.

— Не насенне,— амаль крычу,— а каробачкі маку і сцёблы патрэбны.

— Так? — здзівілася яна.— У цёці ёсць на кухні. Сохне...

— Едзем!

Бяру таксі, у салоне ўдакладняю адрас. Прыехалі. Дзяўчынка пайшла ў кватэру. А мне так дрэнна! Шафёр спалохаўся і пачаў гаварыць штосьці аб хваробах і ўрачах.

— Нічога,— усміхаюся.— Зараз пройдзе.

Прыходзіць вучаніца. Засмучаная.

— Не атрымаецца. Цётка не дае.

Бягу ў ліфт, падымаюся, званю, адчыняюцца дзверы. Сцэна — проста па Купрыну.

— Я класны кіраўнік Светы. Вось у мяне сто рублёў. Прадайце мне мак.— Малю і іду на кухню. Як шалёны робат.

Жанчына хапаецца за тэлефон:

— Я чытала... Я выклічу міліцыю.

Бягу ў машыну. Уцякаем. Ганьба — успомніць моташна.

А ў гэты час у мяне ўжо жыў Сяргей. Ён з'явіўся непрыкметна. З адной з кампаній. Хлопец — вы яго бачылі — з доўгімі валасамі, любіць рок, музыку сямідзесятых... Добры хлопец. Восьці прывёў яго да мяне паслухаць рэдкія пласцінкі. Якой я тады была — уяўляеце. Але ён закахаўся... Калі падараваў мне букет кветак, я проста абамлела. Першы букет ад хлопца! Потым віншаваў з днём нараджэння, пра які нават я сама ўспомніла ў апошні момант, запрасіў у кіно... Ён застаўся жыць у мяне на кватэры. З дазволу. Не, ніякага кахання я яшчэ не адчувала.

Усё аставалася па-ранейшаму: госці, карты (я выйгравала часта, і гэта быў сур'ёзны даход), разам «краналіся»... Я і Сяргею прапаноўвала «паспрабаваць». Не стаў, раззлаваўся.

Як ён пачаў за мяне змагацца! Божа...

Калі я ад цёткі вучаніцы прымчала на таксі — думала памру. «Круціць» усю, баліць... Кудысьці рвуся. Сяргей усё зразумеў, не пускае. Я на яго кідаюся... Самой так балюча, што калі рэзаць лязом сабе рукі — боль змяншаецца, яго паглынае новы боль... Схапілася за лязо, кроў... Сяргей адабраў лязо, зачыніў мяне ў пакоі. Але там быў тэлефон. І раптам — званок з Вільнюса!

— Латона, тут поўна маку. Ніхто не зварыць лепш за цябе. Прыязджай.

[1] Асуджаныя.

[2] Нарвалі.

**ШТО СА МНОЙ ПАЧАЛОСЯ!** Чававеку, які марудна смажыцца на агні, які адчувае бітае шкло ў кожнай мышцы цела, прапаноўваюць зрабіць крок убок і акунуцца ў шчасце, адчуць сілу, маладосць.

Сяргей звязваў мяне. Прасіў, пераконваў. Я ўсё-такі вырвалася. Паехала...

Так было не адзін раз. Я рэзала вены, пагражала самагубствам, пачынала нават забіваць сябе. Ён цярпеў, спыняў, гаварыў...

Да ўчастковага міліцыянера дайшлі звесткі аб маім «коле сяброў». Прытон «зафіксавалі». Да мяне прыходзілі і прасілі «сазнацца». Добра, што не забывала бабуля. Яна па прафесіі хімік. Плакала з-за мяне, давала грошы на яду... Толькі на яе грошы я і купляла хлеб, кансервы, суп у пакетах. Наогул жа есці зусім не хацелася. Але разумела, што трэба. Ды і не магла траціць грошы бабулі на базары, на мак...

Дык вось, бабуля ўбачыла, як міліцыянер прыглядваецца да кухонных ануч. Любая, нават павярхоўная, экспертыза знайшла б у іх пацвярджэнне «варкі».

— Гэта мае анучы,— сказала бабуля.— Яны мне патрэбны.

Ёй, прафесару, паверылі...

Гэта быў пік хваробы. Я ішла па «Камароўцы» і жудасна зайздросціла жанчынам, якія выбіралі яблыкі або хурму для сваіх дзяцей. Мне нічога не хацелася, акрамя шклянкі саломы маку.

Я зайздросціла нават п'яніцу, які паваліўся на аўтобусным прыпынку...

Сяргей адвёз мяне да сваіх бацькоў. Як нявесту адрэкамендаваў.

Яго сям'я жыве каля трактарнага завода. Сустрэлі добра. Праз некалькі гадзін уся ідылія правалілася. Прыйшоў час «кумара»[1].

Мяне не пускалі да «сяброў». Прапаноўвалі любую ежу, віно. Дарэчы, я ніколі не піла спіртнога.

Зараз цяжка ўспамінаць, які скандал я тады ўчыніла перад бацькамі Сярожы. Пачала біць посуд, брудна лаялася, пагражала... Усё роўна пакінулі ў доме. Прасілі, малілі сабраць волю, пераадолець хваробу. Шкадавалі... Сталі кантраляваць мае сустрэчы, замыкаць. Аднойчы зачынілі мяне ў кватэры і ўсе пайшлі на работу. Знайшла сякеру, пачала сячы дзверы. Кашмар...

Два самыя цяжкія тыдні, за якія не атрымала ніводнага «ўколу», былі самымі доўгімі і невыносна пакутнымі. Я пахудзела на 12 кілаграмаў... Потым стала крышку лягчэй. Пачала патроху ўсведамляць, што са мной і што можа быць... Наркотык даваў адчуванне свабоды ад усяго ненавіснага, падказваў нейкія доўгачаканыя і «ачышчаючыя» сумленне думкі... З ім было проста жыць, але такое жыццё — пачатак хуткай і ганебнай смерці. Памерці, калі ўжо пачала кахаць, калі ззаду ўжо цэлых чатырнаццаць дзён без «кайфу»...

У мяне хапала часу разважаць, сумленна гаварыць з сабой. Я адчувала, што магу і хачу стаць звычайнай шчаслівай і здаровай жанчынай, мамай. Вядома, без Сяргея, яго бацькоў у мяне б не хапіла сілы вярнуцца ў свет без наркотыкаў.

Вяселле наша было ў сакавіку 1986 года.

Ведалі б работнікі ЗАГСа, які для мяне быў сэнс у іх завучаных словах: «Цяпер вы пачынаеце новае жыццё...». І я яго пачала! І я шчаслівая. Хутка тры гады, як па-сапраўднаму шчаслівая. Нас цяпер трое. Дачка нарадзілася. Урачы гавораць — добрае, здаровае дзіця. Ды гэта я і сама бачу.

Са школы, напэўна, пайду. Думаю паступаць у аспірантуру. Барацьба з хваробай даўно ў мінулым. Урачы здзіўляюцца выздараўленню. Але ўсё ж патрабуюць перыядычна з'яўляцца да нарколагаў. Яшчэ 3 гады. Прызнацца, я іх не вельмі разумею...

Зрэшты, яны ж не могуць ведаць, што ў чалавека ў душы, што — у памяці. І верыць не маюць права. Але вы ж цяпер ведаеце. Верыце?

**Валерый ЛАПІН.**
**Афармленне Уладзіміра КРУГЛОВА.**




[1] Патрэбнасць у чарговай «дозе».



Фота Міхаіла ЖЫЛІНСКАГА.

# НАТАТКІ ЎДЗЕЛЬНІКА УСТАНОЎЧАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ ТАВАРЫСТВА У АБАРОНУ ЖЫВЁЛЫ

Чалавек, як засведчылі яшчэ старажытныя рымляне, пазнаецца ў дачыненні да рабоў і жывёлы. Рабоў у нас няма, застаюцца жывёлы...

Агледзімся навокал.

Часам жорсткасць выглядае бяссэнсавай. Вось падлеткі зайшлі на калгасную ферму, каб папрактыкавацца ў валоданні... нажом. Паранілі 20 цялят, з аднаго зажыва пачалі здзіраць шкуру і адразаць кавалкі мяса... У другім выпадку іх аднагодкі аблілі каня бензінам, падпалілі і з захапленнем сачылі за жудасным відовішчам... Такія вось «забаўкі».

Ёсць жорсткасць «дзеля справы». Яе прыклад з неспадзяваным вынікам: у горадзе, дзе карысталіся попытам шапкі з сабачага футра, іх вырабляў чалавек, які меў 6-гадовага сына. Той памагаў лавіць сабак і апрацоўваць шкуры. Калі праз 4 гады сямейны бізнес забаранілі, хлопчык засумаваў. Завітаў неяк да суседкі: «Дазвольце павесіць вашу кошку...». «Дзіцятка, што з табой?» — жахнулася пажылая кабета. «А што? Гэта цікава». Неўзабаве ён павесіў 3-гадовую дзяўчынку.

Як не заўважыць жорсткасць, якая паходзіць ад безгаспадарчасці. Што адбываецца на шматлікіх буйных жывёлагадоўчых комплексах? Догляд у «індустрыяльных» умовах удвая скарачае тэрмін жыцця жывёлы, каровы часта гінуць пасля другога ацёлу. Параўнанні з улікам спажывання кармоў і аддачы ў выглядзе малака таксама на карысць дагледжаных і аблашчаных свойскіх жывёлін з прыватных хлеўчукоў.

Жорсткасць «па неабходнасці». Хто з гарадскіх жыхароў не сустракаў жахлівую будку, з якой высаджваецца дэсант дзядзькоў са змарнелымі тварамі, і ад імя ўлады, часам на вачах у дзяцей, пачынаецца садысцкае паляванне на бяздомных сабак і кошак. Толькі нешта не відаць гэтай і іншых санітарных службаў, калі трэба на справе дапамагчы бязмоўным стварэнням. Тым жа качкам, якія зімуюць у горадзе і ў халадэчу літаральна ўмярзаюць у былыя палонкі. Што ўжо гаварыць пра ўзровень ветэрынарнага абслугоўвання... Хто разб'е гэты «лёд»?

Можна вылучыць і жорсткасць, якую спрабуюць апраўдаць абставінамі. Гаспадар расчараваўся ў сваім чатырохногім сябры ці змяніліся жыллёвыя ўмовы. І кошку або сабаку вязуць, каб выкінуць, у суседні горад. Гэта ў лепшым выпадку. Бывае горш: прывязваюць у лесе... Гісторыі пра нялюдскія адносіны да жывёлы, якую людзі некалі прыручылі, можна было б працягваць. Бо іх нямала прагучала ў той дзень у зале Цэнтральнага Дома літаратараў, дзе сабраліся дэлегаты ўстаноўчай канферэнцыі Усесаюзнага таварыства ў абарону жывёлы. У бесчалавечнасці ёсць канкрэтныя адрасы. Аднак зараз, відаць, дастаткова самага агульнага: гэта адбываецца ў нашай краіне. З намі. І не тлумачыць трэба жорсткасць. Яе трэба спыніць. Аднак, зноў жа, хто спыніць?

Як толькі паўстае гэтае пытанне, адразу выяўляецца бездапаможнасць добрых людзей. Бо яны — раз'яднаны.

Вось і газета «Знамя юности», якая нядаўна з абурэннем паведаміла, што ў мінскім салоне «Мода» прадаюцца футры і шапкі з кошак і сабак, вырабленыя кааператарамі, шукае падтрымкі ў мясцовых клубаў аматараў хатняй жывёлы. Толькі што і на якой падставе зробяць гэтыя невялічкія, нямоглыя клубы багатым кааператарам? Праўда, на Беларусі таксама ёсць указ аб недапушчальнасці жорсткіх адносін да жывёлы. Ён, па сутнасці, не працуе. Бо вельмі ўжо агульны. Дый ці мае істотнае значэнне для скуралупа штраф у 100 рублёў, калі кожнае футра каштуе 1200?

І людзей, і жывёлу павінен абараняць закон. Аднак наша дзяржава толькі пачынае набываць рысы прававой. Закона, які б прадугледжваў правы жывёлы — нават гучыць нязвыкла! — няма. Хаця Дэкларацыю правоў жывёлы ЮНЕСКА прыняла яшчэ ў 1978 годзе. Гэты дакумент скіраваны супраць так званага антрапацэнтрызму, калі чалавек лічыць, што ён — адзіны біялагічны від, які мае права на жыццё і шчасце.

Самы час пацікавіцца, як жа пастаўлена справа за мяжой. Асабіста я магу спаслацца на ўражанні ад нядаўняй паездкі ў Аўстрыю. Шкада, не даведаўся, колькі ў гэтай краіне, блізкай да Беларусі, пляцовак для выгулу хатняй жывёлы. Аднак, зазначу, што бачыў чатырохногіх не толькі на гарадскіх вуліцах, але і ў грамадскім транспарце, і нават — у рэстаране. Вядома, разам з гаспадарамі. Для тамашніх адміністратараў гэта нармальна.

Апроч спецмагазінаў, дзе ёсць усё неабходнае для тых, хто трымае ў хаце жыўнасць, палічку з адпаведнымі прадуктамі можна заўважыць і ў звычайнай харчовай краме. Вы, напэўна, памятаеце, якое абурэнне выклікала гэта раней у нашых журналістаў. Толькі, як высвятляецца, абурацца тут няма чым. Хоць, вядома, і ў гэтай краіне ёсць людзі, якія «недаядаюць». Але кансервы і паўфабрыкаты для катоў і сабак выпрацоўваюцца, у асноўным, з адходаў, якія ўжо не можна скарыстаць для людзей. Дарэчы, на нашых прадпрыемствах гэтыя рэшткі выкідваюцца на сметнік. Ёсць што запазычыць у Аўстрыі і ў галіне ветэрынарнага абслугоўвання. Тут існуе нават акадэмія, якая вывучае «малую» жывёлу, у тым ліку — хатнюю. А ўжо прытулкі для бяздомных «сяброў чалавека» — звычайная справа.

Аб'яднанні ў абарону жывёлы ёсць амаль ва ўсіх краінах. З'яўляюцца яны і своеасаблівымі адвакатамі той часткі насельніцтва, што трымае жывёлу. Аднак уладальнікі таксама павінны падпарадкоўвацца даволі строгім правілам. Толькі адно з іх: без ведама мясцовай арганізацыі нельга прадаць або падарыць некаму нават кацяня. Зацікаўлены пакупнік праходзіць адпаведны курс навучання і здае невялічкі экзамен. Прадстаўнікі таварыства аглядаюць яго жыллёвыя ўмовы.

Калі 2 гады таму энтузіясты стварэння падобнага аб'яднання ў нашай краіне — юрысты, пісьменнікі, журналісты, навукоўцы — панеслі сваю ідэю па інстанцыях, яны сутыкнуліся з перашкодай, якая ў адным з кабінетаў прагучала так: «Аб людзях трэба клапаціцца, аб людзях...» Далей была прапанова падлічыць, колькі мяса з'ядаюць сабакі. Калі працягваць гэтую логіку, дык Харчовую праграму мы выканаем, калі знішчым усіх сабак. Як тут не прыгадаць палявання на вераб'ёў у Кітаі часоў «культурнай рэвалюцыі»!

Супраць аб'яднання выказаўся спачатку прадстаўнік Саўміна Беларусі. Ці была гэтая пазіцыя абгрунтаванай? Сведчыць факт: як толькі дазвол быў атрыманы вышэй — у першага намесніка старшыні Саўміна краіны У. Мурахоўскага, дык адразу зніклі пярэчанні з нашай рэспублікі.

Вядома, аргкамітэту памагалі і адказныя работнікі, аднак сёй-той з агляднай: каб не сказалі, што звязаўся з «сабачнікамі». Найбольш актыўна падтрымалі «нізы». Сярод 60 арганізацый-заснавальнікаў шмат вытворчых прадпрыемстваў, якія адразу пералічылі на высакародную справу значныя сродкі.

Зараз, калі таварыства ўтворана, застаецца з сумнай усмешкай прыгадаць, што падобнае «спрыянне жывёле» існавала ў Расіі яшчэ на пачатку нашага стагоддзя...

Вось і надышоў час, калі ад заклікаў любіць жывёлу трэба перайсці да дзейснага вядзення справы. Распрацоўка і прыняцце закона аб крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці за здзек над жывёлай — не ўвесь клопат новай арганізацыі. Задачы таварыства больш шырокія — спрыяць такой перабудове нашага грамадства, пры якой зніклі б падставы для жорсткасці. Інакш кажучы, змагацца не з вынікамі, а з прычынамі. Маштаб мэты ўразіў нават аматараў з найбагацейшымі традыцыямі. З Англіі напісалі: ваш статут — больш дасканалы.

У бліжэйшых планах таварыства — выхаваўчая работа сярод дзяцей і арганізацыя лекторыяў для дарослых, кантроль за ўмовамі ўтрымання жывёлы, стварэнне цэнтраў ветэрынарнай дапамогі, кааператываў па вырабе прадуктаў і, канечне, прытулкаў для «сяброў», пакінутых на волю лёсу. Дарэчы, тры такія прытулкі ўжо ёсць у Маскве... Хто будзе ўсё гэта рабіць на месцах, у тым ліку — у нашай рэспубліцы? Мясцовая арганізацыя. Каб яе стварыць, аматарам дастаткова на сваім сходзе аб'явіць сябе членамі таварыства. Калектыўнымі членамі могуць быць клубы і таварыствы сабакаводства, трусагадоўлі, пчаляроў і іншыя.

...З пачутага на канферэнцыі запомніўся яшчэ ліст, які арганізатары таварыства атрымалі ажно з Балівіі: раней у нас распаўсюджвалася хлусня, што ў СССР не можна трымаць у хаце ніякай жыўнасці. І калі нехта заводзіць сабаку, дык міліцыя забівае яго на вачах гаспадароў альбо звозіць на жывадзёрку. Цяпер мы ведаем, што гэта не так. І спадзяёмся, што ў будучым агульная любоў да жывога дапаможа пасябраваць і нам, людзям...

Не, не выпадкова гэтае аб'яднанне нарадзілася менавіта сёння, калі разгортваецца палітычная і эканамічная перабудова нашага грамадства. Час усвядоміць і неабходнасць маральнага ўдасканалення, пазбавіцца, можа, ад самага жахлівага дэфіцыту — дэфіцыту міласэрнасці.

Растуць парасткі новай этыкі, сэнс якой не толькі ў адносінах паміж людзьмі. Бо чалавек усё-ткі не цар, а частка жывой прыроды. І мусіць паважаць правы ўсіх жывых істот. Каб самому застацца чалавекам.

Вось чаму новае таварыства абараняе найперш Чалавека.

**Віктар ЖУК,**
**спецыяльны карэспандэнт «Беларусі».**

**АД РЭДАКЦЫІ: часопіс «Беларусь» з'яўляецца адным з заснавальнікаў таварыства ў абарону жывёлы і будзе садзейнічаць яго плённай рабоце.**

# ЗАЛАТЫ КАПЫЛ



● **Гэты абутак з калекцыі Людмілы Царовай адрасаваны мужчынам, якія аддаюць перавагу класічнаму стылю.**

● **Пра што марыць за сваім рабочым сталом мастак-мадэльер?**



Многія мастакі марацць пра чароўны пэндзаль. Падняcеш яго да палатна, і ён сам праводзіць лініі, упэўнена робіць штрыхі, кідае каляровыя плямы, увасабляючы менавіта той вобраз або пейзаж, які выспеў у тваёй душы і які так нялёгка бывае перанесці на палатно або паперу. Цікава, а пра што марыць мастак-мадэльер абутку?

— Пра шырокую палітру скур і разнастайныя капылы,— не задумваючыся адказвае Людміла Царова, мастак Рэспубліканскага Дома мадэлей абутку.— Нездарма ж лічыцца, што мадэліраванне па сваёй прыродзе — сінтэтычны від мастацтва. Яно аперыруе формай, пластыкай, лініяй, колерам і прапорцыямі. Скура прываблівала мяне больш за ўсе іншыя матэрыялы,— тлумачыць Людміла.— Гэта прастор для фантазіі і неабмежаваныя магчымасці. Пасля заканчэння інстытута паўстала пытанне: куды ісці працаваць — на фабрыку імя Куйбышава, мадэліраваць сумкі, або на абутковае аб'яднанне «Прамень». Выбрала другое, хоць мастаку-мадэльеру лягчэй паказаць сябе, працуючы з сумкамі. Але абутак — мая стыхія, і я дакладна ведаю, што я на сваім месцы.

Неўзабаве Людміла Царова перайшла працаваць у Рэспубліканскі Дом мадэлей абутку — цэнтр ідэй мадэліравання. І хоць першы блін атрымаўся камяком («лодачка» не ўдалася), астатнія мадэлі пераканаўча засведчылі яе высокае майстэрства, адпаведнасць выбранай прафесіі.

— На жаль, атрымалася, што магчымасці для творчасці ў нас даволі абмежаваныя,— гаворыць Людміла.— У рэспубліцы сапраўдны голад на добрыя модныя капылы. Адсюль праблемы. Нашы шыкоўныя калекцыі жывуць толькі на выстаўках, так і не сыходзячы з іх вяршынь да рэальнага жыцця. Мы распрацоўваем новыя, асабліва модныя формы капылоў, ад якіх усе спецыялісты ў захапленні. Авангардныя рашэнні абутку так і просяцца на іх. А сумежныя прадпрыемствы такіх капылоў не выпускаюць. Карэкціраваць жа іх асартымент мы не можам. Паколькі ў нас у Беларусі няма сваёй вытворчасці капылоў, нам і даводзіцца бачыць прыгожы і зручны абутак толькі на выстаўцы.

Сапраўды, мадэльерам абутку даводзіцца працаваць у нялёгкіх умовах. Яны могуць ствараць мадэлі на ўзроўні дызайну Італіі або Іспаніі, аб чым сведчаць узнагароды на міжнародных выстаўках і шматлікія водгукі стылістаў і кіраўнікоў вядучых абутковых фірм Італіі, якія прыязджалі ў Дом мадэлей на сімпозіум, а фабрыкі выпусціць такі абутак практычна не могуць. З аднаго боку, творчасць абмяжоўваюць абсталяванне і тэхналогія, з другога — адсутнасць якасных камплектуючых — падэшваў, абцасаў, фурнітуры і г. д. У выніку адны мадэлі ствараюцца для выставак (а гэта магчыма толькі ў сценах Цэнтра моды, дзе ёсць доследная ручная вытворчасць), а другія — падганяюцца пад патокі абутковых фабрык рэспублікі. Вось і атрымліваецца, што беларускія мадэльеры не саступаюць у прафесійным майстэрстве сваім замежным калегам, у той час як у сферы канкрэтнага ўвасаблення іх працы параўнанне далёка не на нашу карысць. Адсюль і скаргі пакупнікоў, і сапсаваны настрой у мадэльераў. Адзінае, што застаецца мастаку,— дамагацца паляпшэння абутку за кошт дэкаратыўных прыёмаў. І тут Людміла — майстар, яна можа ісці праз рэтра, ад фальклорнага стылю да авангарда, не парываючы сувязі з традыцыяй і нават развіваючы яе.

Разнастайнасць народнага абутку Беларусі — ад сандаляў да ботаў — дыктаваў клімат: лета спякотнае, зіма халодная. Адсюль багатыя традыцыі стварэння нацыянальнага абутку, у аздабленні якога выкарыстоўваліся тыя ж, што і ў вопратцы, мастацкія прыёмы: арнамент, пл... ценне, працяжкі, махры, кутасы.

— Фальклор для нас — невычэрпная крыніца, да якой мы звяртаемся кожны раз пры распрацоўцы новай калекцыі абутку,— расказвае Людміла.— Сучасны дыфузійны стыль дазваляе спалучаць у адной мадэлі і класіку, і рамантыку, і нацыянальныя традыцыі. Старадаўняму беларускаму абутку мы надаём сучасныя абрысы, выкарыстоўваючы аптымальныя канструкцыі, элементы геаметрычных і расліннных арнаментаў, спалучэнні скур як па колеру, так і па фактуры. Узяўшы за аснову практычнасць, якая здаўна лічылася галоўнаю вартасцю абутку, мы адначасова імкнёмся стварыць абутак модны і зручны.

Царова — мастак-эксперыментатар. Новыя ідэі прыспешваюць адна адну. Нярэдка ёй хочацца застацца адной, пасядзець у цішыні, каб сабрацца з думкамі і адразу прапанаваць цэлую тэму — шэсць, восем мадэлей. Інакш яна працаваць не ўмее. Акрамя таго Людміла — універсал. Яна можа займацца з асаблівa вытанчаным мужчынскім і жаночым абуткам і адначасова працаваць з юхтам — скурай павышанай таўшчыні, мадэліраваць абутак для авангарднай моладзі і прапанаваць серыю мадэлей для людзей сталага ўзросту. Творчы патэнцыял Царовай такі вялікі, што яе мадэлі амаль заўсёды прымаюцца без пытанняў.

Галоўны мастацкі кіраўнік Рэспубліканскага Дома мадэлей абутку Уладзімір Аляксандравіч Гаругін лічыць Людмілу Царову адным з самых таленавітых мастакоў. Аднак талент, на яго думку, гэта яшчэ не ўсё для абутніка — трэба прадчуваць моду і дасканала ведаць тэхналогію вытворчасці. Толькі тады мастак лёгкай прамысловасці можа цалкам рэалізаваць свае магчымасці. Людміла Царова — сталы майстар, аднак творчы пік і самыя лепшыя мадэлі абутку ў яе яшчэ наперадзе.

**Ірына АСМАЛОЎСКАЯ.**
**Фота Яўгена КОКТЫША.**

СЛУЖБА

ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

**Нашай «Узаемадапамозе» — 3 гады. У майскім нумары 1986 года выйшаў яе першы выпуск. Мы атрымліваем шмат пісьмаў з падзякай за добрую справу, якую робіць часопіс, друкуючы гэтую старонку. Але чытачы не толькі дзякуюць, не толькі прапануюць для друку свае лісты, але і выказваюць слушныя парады, пажаданні наконт нашай службы. Цікава, што сэнс гэтых парад часам дыяметральна супрацьлеглы: тое, што радуе аднаго, выклікае поўнае непрыманне ў другога. Так, пэўная частка чытачоў перакананa, што аб'явам, скажам, пра гаворачых папугаяў нельга адводзіць месца побач з лістамі на такую важную і далікатную тэму, як уладкаванне асабістага жыцця; другія ж не менш катэгарычна сцвярджаюць: нельга ператвараць такі цікавы раздзел як «Служба ўзаемадапамогі» ў «шлюбную кантору»! І ў рэдакцыі, натуральна, ёсць сваё меркаванне на гэты конт, якое, як вам няцяжка заўважыць, выяўляецца ў нашых выпусках.**

**І вось, каб больш дакладна ведаць чытацкія адносіны да «Узаемадапамогі», прапануем вам сваю анкету. ХТО ТЫ, НАШ ЧЫТАЧ! ЯКІЯ ТВАЕ СУАДНОСІНЫ З «УЗАЕМАДАПАМОГАЙ»! ЯК ТЫ ДА ЯЕ СТАВІШСЯ! ШТО МОЖАШ НАМ ПРАПАНАВАЦЬ!**

*1. Ваша прозвішча, імя, імя па бацьку (запаўняецца па жаданню)* ________

*2. Пол* ________

*3. Узрост* ________

*4. Сацыяльная група* ________

*5. Сямейнае становішча* ________

*6. Як доўга з'яўляецеся чытачом «Узаемадапамогі»?* ________

*7. Ці даводзілася вам звяртацца да нас? Калі так — то ці атрымалі вы патрэбную дапамогу? Ці задаволены вы?* ________

*8. Што не задавальняе вас у нашай службе?* ________

*9. Якія з правіл нашай работы (яны друкуюцца перыядычна, апошні раз — у папярэднім нумары) вы б удакладнілі ці замянілі?* ________

*10. Ці бачыце вы істотную розніцу паміж «Узаемадапамогай» і падобнымі аддзеламі ў іншых выданнях? Калі так — то ў чым?* ________

*11. Вашы асабістыя прапановы і пажаданні ў адрас нашай службы* ________

***Шаноўныя чытачы, усе, хто наважваецца напісаць нам! Знайдзіце вольную хвіліну, запоўніце нашу анкету і пакладзіце разам са сваім лістом у канверт. Мы заўсёды рады аказаць вам сваю дапамогу, а вось зараз разлічваем на вашу. Дапамажыце нам зрабіць «Узаемадапамогу» яшчэ больш патрэбнай, карыснай, цікавай!***

***А зараз — чарговыя чытацкія допісы.***

## РАЗЛУЧЫЛА ВАЙНА...

Да вас звяртаецца вучаніца 11 класа Мазырскай вячэрняй школы Тацццяна Мароз. Па спецыяльнасці я — тэлеграфіст. Але, акрамя чыста прафесійных клопатаў, ёсць у мяне і шмат іншых, таксама вельмі адказных і карысных. Сярод іх — перапіска з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны. Кожны іх ліст пасвойму радуе і хвалюе. У кожным — хай і невялічкі, але выразны штрых, які раскрывае веліч подзвігу савецкіх людзей у час вайны. Сярод тых, з кім я перапісваюся, і Жанна Уладзіміраўна Сцяфанава. Жыве яна ў Балгарыі, амаль сорак чатыры гады шукае свайго бацьку УЛАДЗІМІРА АНТОНАВІЧА СКУРАТОВІЧА, 1913 г. нараджэння, ураджэнца вёскі Думічы Капыльскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння ў 1939 годзе ваеннага вучылішча ён служыў у Брэсце (магчыма, там ён і загінуў). У першыя дні вайны яго сям'я вырвалася з палаючага горада. З таго часу яны не мелі ніякіх звестак пра бацьку і яго таварышаў па службе. Магчыма, аб іх што-небудзь ведае П. Л. Ткачова — старшая медсястра хірургічнага аддзялення шпіталя ў Брэсце. Жанна Уладзіміраўна вельмі просіць адгукнуцца ўсіх, хто памятае ці ведае што-небудзь пра У. А. Скуратовіча.

Калі хто можа дапамагчы, напішыце, калі ласка, на адрас:

**247760, Гомельская вобл.,<br>г. Мазыр,<br>вул. 17 Верасня,<br>д. 19, кв. 2.<br>МАРОЗ Таццяне.**

## ШЧАСЦЯ ДЛЯ СЯСТРЫ

Ёсць у мяне сястра, ёй 41 год. Мае яна і дачку, і любімую работу, і кватэру, а вось асабістага жыцця так і не ўладкавала. Мне шкада яе не толькі таму, што я бачу незайздросны жаночы лёс. Я ж ведаю, як паважаюць яе ўсе браты і сёстры (а ў нашай сям'і — шасцёра дзяцей), лічаць Любашу (так яе завуць) любімай сястрой і другой нашай маці. Люба — вельмі добрая, клапатлівая, спагадлівая. Яна добра шые, вяжа, цудоўна гатуе. Жыве ў Мінску. Дапамажыце ёй! (189).

## НІХТО НІКОМУ НЕ ПАТРЭБЕН!

Вялікае дзякуй табе, «Узаемадапамога», за тое, што ты робіш гэткую патрэбную справу — дапамагаеш людзям знайсці падтрымку і суцяшэнне ў цяжкую хвіліну, займець сяброў.

Апошнім часам многа даводзіцца чуць аб дэфіцыце дабрыні, міласэрнасці. А як балюча раняць сэрца чалавечая бяздушнасць, абыякавасць. Асабіста ў мяне пачало з'яўляцца адчуванне, што ніхто нікому не патрэбен: ні сусед суседу, ні сябар сябру. Ды і ўвогуле святое паняцце «сяброўства» ў большасці сваёй падмяняецца прынцыпам: ты — мне, я — табе. Людзі «сябруюць» толькі на карыснай аснове. З кожным днём усё больш страчваю веру ў шчырасць, у здольнасць людзей да суперажывання.

Але ўсё ж такі вельмі хочацца верыць, што я памыляюся! Можа, ваш часопіс зможа дапамагчы мне знайсці шчырых, сапраўдных сяброў? Вельмі спадзяюся на гэта.

Пра сябе: завуць Лілія, 31 год, з мужам разышліся, маю шасцігадовую дачку, працую ў музычнай школе. (190).

## «ШУКАЮ МІЛУЮ ДЗЯЎЧЫНУ...»

Пішa вам немалады хлопец, 33 гадоў. Усе сябры ўжо даўно пажаніліся, а я ўсё адзін. Можа, пры тваім садзейнічанні, «Узаемадапамога», я знайду спадарожніцу жыцця, а дакладней, добрую нявесту. Вельмі прашу надрукаваць мой ліст у часопісе «Беларусь». Мой рост 185 см, па характару я вельмі добры, без шкодных звычак, жыву ў вёсцы. Завуць мяне Грыша. З хваляваннем чакаю лістоў. Адкажу ўсім (з фатаграфіяй). Прашу надрукаваць мой допіс пад такім загалоўкам: «Шукаю мілую дзяўчыну, якая б змагла стаць жонкай». (191).

## ПАСПРАБУЕМ ВАШЫ СТРАВЫ!

Калі я ажаніўся, мы з жонкай адразу вырашылі, што гатаваць на кухні буду я. І справа не толькі ў тым, што яна вельмі стамляецца на рабоце. Проста са школьных гадоў я стаўлюся да кухні як да бясконцай крыніцы для творчасці, выдумкі. Хай буду выглядаць не вельмі сціплым, але скажу: вельмі хутка і жонка, і нашы знаёмыя, і сябры ацанілі мае «кулінарныя здольнасці». Але сам я лічу, што не ў здольнасцях справа, а ў жаданні кожны раз зрабіць нешта новае, цікавае, нестандартнае. Не люблю карыстацца распаўсюджанымі кулінарнымі кнігамі і рэцэптамі. Спрабую прыдумваць свае ўласныя стравы. Нядаўна падумаў, што можа і сярод чытачоў «Узаемадапамогі» ёсць маладыя людзі, якія гэтак жа цікавяцца кулінарыяй, любяць у вольныя гадзіны тварыць і эксперыментаваць на кухні. Хай напішуць! Спадзяюся, што стравы па іх рэцэптах будуць і на нашым стале. (192).

**ВАЛЯНЦІН.**

## Я СТРАЧВАЮ НАДЗЕЮ...

Пасля доўгіх ваганняў вырашыла ўсё ж звярнуцца да вашай службы. Ці варта гаварыць, як гэта цяжка — расказваць пра сябе. Але пайсці на гэта мяне прымусіла надзея на тое, што нехта адгукнецца на маю аб'яву. Мне 32 гады, адзінокая. Я наўрад ці калі змагу стаць маці, але вельмі мару мець сваю сям'ю і дом. Можа, мой голас пачуе мужчына, які адзін гадуе дзіця. Я зраблю ўсё, каб стаць добрай, клапатлівай маці і жонкай, якая заўсёды будзе любіць і разумець свайго мужа. Вельмі прашу: надрукуйце мой ліст. Бо я страчваю надзею і адчай вымушае звярнуцца да вас. Пра сябе: рост 146 см, вышэйшая адукацыя, жыву ў Мінску. (193).

**Л. К.**

**Падрыхтавала<br>Алена ШАБАЛІНА.**

**Фота Армена САРДАРАВА.**



# Куды паляціць шайба?

## Да вынікаў хакейнага сезона

СПОРТ



**У** мінулым годзе галоўная хакейная каманда рэспублікі мінскае «Дынама» пасля перапынку (з 1981 года) зноў трапіла ў вышэйшы клас і некаторымі перамогамі (над маскоўскімі «Крыламі Саветаў», васкрасенскім «Хімікам») нарабіла там перапалоху...

Выхаванец беларускага хакея дваццацігадовы абаронца мінскага «Дынама» Юрый Крывахіжа ў складзе нацыянальнай зборнай краіны стаў пераможцам хакейнага турніру на прызы газеты «Известия». Дарэчы, гэта другі ў гісторыі беларускага хакея яго выхаванец, якога запрасілі ў зборную СССР — першым быў таксама абаронца Сяргей Мікульчык.

Мінскі дынамавец, і што прыемна адзначыць, нападаючы, Уладзімір Цыплакоў быў уключаны ў састаў маладзёжнай зборнай Савецкага Саюза, якая на чарговым чэмпіянаце свету ў сталіцы штата Аляска (ЗША) заняла першае месца.

Будзе мець рацыю наш чытачскептык, які скажа, што гэта ўсё тыя ластаўкі, якія, як гаворыцца, вясны не робяць. І з кіслай мінай ён успомніць, што з выхаванцаў беларускага хакея можна, калі прайсціся па саставах іншых каманд вышэйшай лігі, сабраць вельмі моцны калектыў... На жаль, гэта так. Нагадаем, што за маскоўскае «Дынама» сёння з поспехам гуляюць Баршчэўскі, Гальчанюк, Зубрыльчаў (гатовая тройка нападзення), за кіеўскі «Сокал» — Малкаў, за сталічны «Спартак» — Шыпіцын... Гэта, так сказаць, па памяці, не заглядваючы ў хакейныя даведнікі. У «рапартную частку» гэтых нататак можна ўнесці і перамогу хакейнай зборнай нашай рэспублікі на апошняй зімовай Спартакіядзе народаў СССР, і нядрэнныя вынікі выступлення хакеістаў мінскай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы «Юнацтва» ў юнацкім першынстве краіны, дзе мінчане нават абыходзілі славутых маскоўскіх армейцаў і дынамаўцаў... Але!

Сённяшні састаў мінскага «Дынама» адзін з маладзейшых у вышэйшай лізе. Калі наглядаеш за гульнёй мінчан, шчыра кажучы, кідаецца ў вочы адсутнасць у іх нейкай саліднасці, мужчынскай сталасці, вытрымкі. Калектыву, на мой погляд, яўна не хапае важакоў, лідэраў, вопытных спартсменаў, такіх, як 36-гадовы варатар Уладзімір Сямёнаў ці 30-гадовы Сяргей Тукмачоў. Апошні з тых, пра каго каментатары гавораць «умее патрымаць шайбу». Дык вось, калі б у дынамаўцаў Мінска было больш вопытных хакеістаў, гульня б іх акрэслілася больш выразна. Гэта, як гаворыцца, разважанне на хаду. А як жа ацэньвае сённяшнюю гульню каманды і яе перспектывы галоўны трэнер мінскага «Дынама», адзін з самых маладых настаўнікаў вышэйшай лігі, Уладзімір Крыкуноў? Нашу размову мы пачалі з разгадкі парадокса: чаму «граза» аўтарытэтаў слабей гуляла з менш моцнымі камандамі?

— Так, з мацнейшымі калектывамі, як гэта ні парадаксальна, гуляць нам было лягчэй. Яны, як мы гаворым, не заўсёды настройваліся на матчы з намі. Але горкаўскае і яраслаўскае «Тарпеда», чэлябінскі «Трактар» рэальна ўяўлялі нашы магчымасці (ведалі нас па мінулагодняму пераходнаму турніру).

Акрамя гэтага названыя каманды гуляюць ад абароны, а нашы нападаючыя недастаткова добра навучыліся «ўзломліваць» абарончыя «рэдуты». У даным выпадку вельмі патрэбны абаронцы, якія валодаюць, як мы гаворым, першым пасам. На жаль, пахваліцца наяўнасцю такіх майстроў мы пакуль не можам...

— А нападзенне?

— Самая выніковая тройка — Кавалёў (16 шайбаў), Хаткевіч (5), Чэрчас (6). Але за цікавую, часам нестандартную гульню я б выдзеліў звяно Занкавец — Расолька — Цыплакоў. Як вы, напэўна, ведаеце, апошні быў у складзе маладзёжнай зборнай краіны на чэмпіянаце свету. Цікава вядуць гульню і яго партнёры.

Задачу максімум — папасці ў дзесятку мацнейшых — мы не выканалі, але ж захаваць месца ў вышэйшай лізе ўдалося. Маім падапечным не хапае сёння псіхалагічнай устойлівасці, упэўненасці, што ім па сілах на роўных гуляць з большасцю, калі не з усімі камандамі-сапернікамі.

Вядома: каб хакеісты ўпэўнена адчувалі сябе ў час спаборніцтваў, ім трэба стварыць умовы. Галоўная бяда тут — «лёдавы голад». Мяркуйце самі, сёння штучны лёд ёсць у Мінску (2 пляцоўкі) і ў Гродне (адна, пабудавана сёлета). [illegible]а ўсё! У свой час пачалі будаўніцтва пляцовак са штучным лёдам у Гомелі, Наваполацку, Светлагорску. Але змяніліся кіраўнікі, якія пачыналі, прыйшлі новыя, якія не захацелі прадоўжыць справу папярэднікаў. Вось і прыходзіцца дзяліць лёд юным хакеістам некалькіх каманд «Юнацтва», калектыву другой лігі «Прагрэс» — ШВСМ (Гродна) і мінскім дынамаўцам. Яшчэ праблема: без асаблівай інтрыгі праходзіць рэспубліканскі чэмпіянат, які (як сярод дарослых, так і сярод юнакоў) нярэдка выдае вынікі тыпу 17 : 1 альбо 20 : 2. Я не гавару ўжо аб пастаянных у апошні час кліматычных парадоксах, калі зімы мы амаль што і не бачым.

Узважыўшы ўсё гэта, пачынаеш разумець хакеістаў: яны хочуць трэніравацца ў чалавечых умовах і гуляць у класных калектывах.

Вось чаму сёння ў інтэрв'ю наш юны чэмпіён свету Уладзімір Цыплакоў і ігрок першай зборнай СССР Юрый Крывахіжа пры адказе на пытанне «Ці застануцца яны ў Мінску надалей?» шчыра прызнаюцца: «Будзем думаць...».

**Віктар ФІЛІПЧЫК.**
**Фота Уладзіміра ІВАНОВА.**

Пад рэдакцыяй міжнароднага гросмайстра Віктара КУПРЭЙЧЫКА.

# ТРЫ СЯСТРЫ, АБО ВЕНГЕРСКІ ФЕНОМЕН, ЯКІ ЗДЗІВІЎ ЧОРНА-БЕЛЫ СВЕТ

А ў чым, уласна кажучы, феномен? Сям'я як сям'я. Бацька — Ласла Полгар, па прафесіі інжынер і псіхолаг. Маці — Клара, філолаг-паліглот. Трое дачок — 19-гадовая Жужа, 14-гадовая Сафія і самая малодшая — 12-гадовая Юдзіт.

Менавіта гэтых трох сясцёр і называюць у шахматным свеце «загадкавымі». У чым іх «загадкавасць»?

Паспрабуем адказаць, хаця занятак гэты даволі складаны.

Ну, па-першае, дзяўчаты Полгар проста таленавітыя.

Па-другое, у Жужы, Сафіі і Юдзіт свае сямейныя трэнеры — бацька і маці. Бацька — трэнер па шахматах і адначасова менеджэр. Маці — трэнер-псіхолаг і выкладчыца... эсперанта. Так, так — эсперанта. Руская па нацыянальнасці, Клара Полгар навучыла дачок мове Пушкіна, Дастаеўскага і... савецкай шахматнай натацыі. І не толькі рускай, але і шмат якім яшчэ мовам. Напрыклад, старэйшая з дачок — Жужа дасканала валодае англійскай, іспанскай, нямецкай, балгарскай мовамі. І, канечне ж, эсперанта. Сярэдняя — Сафія даволі ўпэўнена размаўляе на чатырох мовах, а малодшая Эдзіт адолела пакуль што толькі дзве — рускую і англійскую. Веданне розных моў — гэта кругагляд, інтэлект, адукаванасць...

Па-трэцяе, сёстры прымаюць удзел (і гэта ўжо традыцыя, якая не парушаецца ў сям'і!) выключна ў спаборніцтвах сярод мужчын. Маючы такіх дужых спарынг-партнёраў, дзяўчатам лягчэй выступаць у турнірах жаночых.

І чацвёртае — Жужа, Сафія і Юдзіт маюць магчымасць аддаваць вольны час заняткам любімымі шахматамі, бо іх зусім не турбуюць заняткі ў школе. Чаму не турбуюць? А таму, што ў школе сёстры не вучацца! Гэта не жарт, а дакументальны факт. Сёстры займаюцца, калі можна так сказаць, у сямейнай акадэміі, на кафедры, якую ўзначальваюць іх бацькі. Якія ацэнкі атрымаюць дзяўчаты ў часе «выпускных экзаменаў», калі такія ўвогуле будуць, адказаць цяжка. Адно ясна: экзамен на алімпійскую сталасць Жужа, Сафія і Юдзіт здалі проста бліскуча: на сусветнай шахматнай Алімпіядзе ў Салоніках «сямейнае трыо» ўпершыню ў гісторыі шахмат заваявала залатыя медалі! Сёстры абышлі на дыстанцыі нават моцную каманду СССР, якую ўзначальвала чэмпіёнка свету Мая Чыбурданідзе.

...А цяпер самы час наведаць шахматную лабараторыю сясцёр Полгар. Дарэчы, лабараторыю алімпійскую, бо мы разгледзім дзве партыі, якія былі згуляны ў Салоніках.



Пазіцыя, якую вы бачыце на дыяграме, склалася пасля 46 ходаў. Гулялі Сафія Полгар (белыя) і шахматыстка з Югаславіі Весна Башагіч.

Далей было: 47. ... Фe5+ 48. g3hg+ 49. Крg2 Фf4 50. Фa1 Фc7 51. Фd1 Фc4 52. Фf3 Фf4 53. Фd5+ Фf5 54. Фg8+Крf6 55. Фf8+Крe5 56. Фc5+Крf4 57. Фc1+Крe5 58. Фc5+Крe6 59. Фc8+Крf6 60. Фf8+ Крg6 61. Фg8+. Нічыя.

Яшчэ фрагмент.



Да такога становішча прыйшлі ў сваёй сустрэчы Юдзіт Полгар і балгарка Стэфка Ангелава (чорны колер фігур).

Чарга ходу за Юдзіт. Хто мог падумаць, што лёс паядынку вырашыць адзін-адзінюткі ход, а іменна — 17. Ф:f8+! Ангелава спыніла барацьбу: праз два хады мат!

І апошняе. Па чорна-белым свеце пайшлі чуткі пра тое, што малодшая з сясцёр — Юдзіт мае самы сур'ёзны намер праз некалькі гадоў кінуць пальчатку... Каму б вы думалі? Чэмпіёну свету Гары Каспараву! Ну, гэта ўжо, як кажуць, занадта!

Але ж, чым ні шуткуюць у шахматным каралеўстве...



Без слоў.





Без слоў.



Мал. Алега ПАПОВА.

# КРАСВОРД



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 7. Поспех у змаганні. 8. Аптычны прыбор. 10. Снарад для стральбы. 11. Рухомая частка некаторых машын. 12. Герой грамадзянскай вайны, беларус. 13. Украінскі сатырычны часопіс. 17. Марская жывёла з васьмю шчупальцамі. 18. Спартыўныя спаборніцтвы. 19. Вадкая частка крыві. 20. Вогнетрывалы мінерал. 23. Службовая асоба, якая правярае дзейнасць каго-небудзь. 25. Самая яркая малая планета. 27. Найпрацейшая аднаклетачная жывёліна. 31. Сталіца еўрапейскай дзяржавы. 32. Адзінка вымярэння цеплыні. 33. Лічбавы знак. 34. Танцоўшчыца. 35. Горад на Бярэзіне.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Член піянерскай арганізацыі. 2. Сядзіба. 3. Вялікі пралетарскі пісьменнік. 4. Духавы клавішны музычны інструмент. 5. Адбітак, станковая гравюра. 6. Трыганаметрычная функцыя. 9. Прадпісанне ўрача. 14. Птушка атрада курыных. 15. Фарбавальнае рэчыва ў арганізме. 16. Дзень тыдня. 17. Мінеральнае ўгнаенне. 21. Уступная частка літаратурнага музычнага твора. 22. Вайсковае званне. 24. Помнік. 26. Судна для перавозкі вадкіх грузаў. 28. Прэснаводная драпежная рыба. 29. Найбольш дзейная частка калектыву. 30. Беларуская савецкая паэтэса.

Склаў Мікалай КУРЫЛЬЧЫК.

## АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 4

**Па гарызанталі:** 1. Бандарчук. 7. Накцюрн. 8. Ойстрах. 10. «Бура». 11. Сурма. 12. Егер. 15. Ранг. 17. Нагібін. 19. База. 20. Ксілафон. 21. Пластыка. 23. Арба. 25. Абрыкос. 26. Туці. 30. Урал. 31. Хамса. 33. Плёс. 34. Радніна. 35. Сурынам. 36. Максімава.

**Па вертыкалі:** 1. Боцман. 2. Нарыс. 3. «Чайка». 4. Катаеў. 5. Сатурн. 6. Галета. 9. Ірбіс. 13. Трактат. 14. Папанін. 16. Галка. 17. Нафта. 18. Нюанс. 19. Батут. 22. Шырма. 24. Бархан. 27. Уцёсаў. 28. Слонім. 29. Оптыка. 31. Ханок. 32. Апука.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Беларусь

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 5 (605)
МАЙ
1989 г.

Заснаваны ў 1930 годзе.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.



НА НАШАЙ ВОКЛАДЦЫ — своеасаблівая візітная картка новага навукова-тэхнічнага цэнтра, на чале якога стаіць вядомы вынаходца Анатоль Юніцкі, аўтар скіраванага ў будучыню праекта агульнапланетнага транспартнага сродку (часопіс «Беларусь» расказваў пра яго ў нарысе «Бар'ер» — № 3, 1987 г.). Зараз 14 супрацоўнікаў цэнтра ствараюць праграму «Экалагічны свет», разлічаную на першую палову 3-га тысячагоддзя. Памагчы ім узяць названы «бар'ер» можа кожны з нас. Цэнтр мае свой грашовы фонд «Зоркавы мір» з рахункам 000609208 у аперацыйным упраўленні жылсацбанка г. Гомеля. Прымаюцца добраахвотныя ўзносы. Першы з іх — 150 тыс. рублёў — зрабіў Савецкі фонд міру.

Плакат мастака Анатоля ОТЧЫКА.

Журнал «Беларусь»
на белорусском языке.
Здадзена ў набор 13.03.89.
Падпісана да друку 15.04.89.
АТ 05209.
Фармат 70×108¹/₁₆.
Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 7.
Ул.-выд. арк. 11,4.
Ум. фарбаадб. 12,6.
Т. 20 590 экз.
Зак. 105.

Адрас рэдакцыі:
220600, Мінск, ГСП,
вуліца Захарава, 19.

Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 12 машынапісных старонак.

220041, Мінск,
Ленінскі праспект, 79.
Ордэна
Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.







На некалькі секунд трапляеце пад пільны, запытальны позірк. Што зробіш — гэ... прафесійнае. Пасля ён усміхнец... і з'явіцца адчуванне, што вы даўнія знаёмыя.

А адзін жа толькі пералік прадстаўнічых міжнародных і савецкіх фотавыставак, конкурсаў і выданняў, удзельнікам і прызёрам якіх быў гэты чалавек, павінен настроіць на акадэмічна салідны лад. Вось толькі апошняе: «Уолрд Прэс-фота-88» у Гаазе. Ён адзін з тых, чыімі вачамі свет убачыў нас з вамі ў кнізе «Адзін дзень з жыцця Савецкага Саюза». Але не лічачыся з правам на нейкую фундаментальнасць і аўтарытэтнасць, перада мною сядзіць надзвычай абаяльны чалавек.

**— Юрый Сяргеевіч, я бачыў вашы работы і зразумеў: мы развучыліся здзіўляцца. Не заўважаем, што вакол нас шмат прыгожых рэчаў, якія за мітуснёй здаюцца звычайнымі. Як удаецца вам заставацца неабыякавым, захоўваць навізну поглядаў?**

— Прынцып добрай фата... фіі — здзівіўся сам, здзіві іншага. Але ў любым выпадку трэба, каб пашанцавала. Выстаўкі, конкурсы, прызы — гэта той парадны пад'езд, па прыступках якога ўзнімаешся далёка не кожны дзень. У першую чаргу я рэпарцёр, чалавек, які павінен заўсёды быць там, дзе пульс жыцця гучыць найбольш выразна. А гэта штодзённая, карпатлівая работа. І тут без дапамогі яго Вялікасці выпадку не абысціся.

**— Вы сустракаеце сотні людзей, але ў кадры застаюцца адзінкі. Які ён, чалавек, што прыцягнуў увагу фотакарэспандэнта?**

— Значна часцей спыняе сама сітуацыя, у якой потым ужо раскрываецца тая ці іншая асоба. А выбар героя, калі такая магчымасць існуе,— гэта, відаць, справа густу.

**— У наш час перагляду ідэалаў у што верыце вы?**

— Я ніколі не здраджваў сваім ідэалам. Але, бясспрэчна, з гадамі само ўяўленне аб тым, што такое ідэал, мяняецца. Магчыма, набывае больш рэальны, зямны сэнс. Для мяне прыстойны чалавек — гэта ўжо ідэал.









**ПЯЦЬ ПЫТАННЯЎ НАПЯРЭДАДНІ 50-ГОДДЗЯ**

# ДЫК ГЭТА Ж ІВАНОЎ...

СУБ'ЕКТЫЎНЫ АБ'ЕКТЫЎ

**— Што вы спыталі б у Юрыя Іванова, каб вам пашчасціла браць у яго інтэрв'ю!**

— Відаць, кожнаму чалавеку ў жыцці даводзіцца неаднойчы задаваць сабе пытанні. І адказваць без права ўхіліцца, адмаўчацца, без падказак і патурання. Мае пытанні — гэта адны «чаму?». Чаму не паспеў, чаму зрабіў так, калі мог лепш? І справа тут не ў незадаволенасці. Але, відаць, калі табе ўсё зразумела, ты ўсім задаволены і не трэба нешта пастаянна вырашаць, значыць, ты проста памёр.

**— Выходзіць, напярэдадні свайго юбілею вы падрыхтаваліся да своеасаблівай справаздачы перад сабой!**

— Лічу, што такую справаздачу чалавек абавязаны час ад часу рабіць, тым больш у 50 гадоў — узрост, які да многага абавязвае. Будзем спадзявацца, што і ў мяне гэта сярэдзіна жыцця і творчасці.

Размова закончана. Але вось яшчэ адзін невялікі штрых да партрэта.

Лета 1988 года. Фестываль польскай песні ў горадзе Віцебску. На крайку сцэны застыў маленькі хлопчык. Яркае святло рампы, грукат аркестра і дзесяткі незнаёмых тварам. Яму вельмі страшна. У прысутных гэта бездапаможнасць выклікае замілаванне, а малы...

І тут па прыступках імкліва ўзбягае чалавек. Ён падае хлопчыку руку. Знік страх — ззаду спуск, што так палохаў, нават мама знайшлася, і можна бегчы да яе, смеючыся і распасцёршы рукі. А тэлекамеры на некалькі секунд зловяць твар чалавека, для якога гэты маленькі боль быў сапраўдны і, значыць, не чужы.

Дык гэта ж ён — Юрый Іваноў...

**Вёў гутарку Вадзім ДАНОВІЧ.**

**● У адной з салдацкіх песень ёсць словы — «Калі пяюць салдаты, спакойна дзеці спяць». Магчыма, гэта той самы выпадак.**

**● Партрэт П. М. Машэрава зроблен у дзень яго 60-годдзя, калі да яго чарадой ішлі віншавальнікі. Пётр Міронавіч цярпліва выслухоўваў першыя некалькі слоў, пасля падыходзіў да гасцей, асцярожна закрываў папку з адрасам і дзякаваў. Здымак, які вы бачыце, зроблен у час візіту аднапалчан ваеннага часу.**

**● Пісьменнікі спрачаюцца з меліяратарамі, меліяратары адбіваюцца, а Палессе амаль кожны год вясной ці восенню плавае ў вадзе. Гэты здымак зроблен у час аднаго з навадненняў, калі ў адрэзаную вёску ваенныя лётчыкі прывезлі хлеб.**

**● Шмат гадоў назад Барыс Мікалаевіч Фунцікаў, старшыня калгаса, прывёз Ю. Іванова да гэтай бярозы і сказаў:**

**— Вось так і чалавек — гнуць яго, ломяць, а ён жыве і не здаецца.**

**Мінулі гады. Няма ўжо Фунцікава сярод жывых. А бяроза стаіць. Толькі стала больш моцнай і стойкай.**

**● Такое свята ці, дакладней, фрагмент свята фотамайстар убачыў у калгасе імя Урыцкага на Гомельшчыне ў нядзелю.**

**● Гэтыя два здымкі зроблены ў Заходнім Берліне. Там, сапраўды, усё ёсць. І жабракі таксама. А ў магазінах паліцы ломяцца ад тавараў.**

**І вось гэтыя дзве рукі — шчодрая і тая, што просіць міласціну.**

**Фота Юрыя ІВАНОВА.**



ПРЫРОДА ПАДАРЫЛА, НАТХНЕННЕ ПАДКАЗАЛА, МАЙСТАР СТВАРЫЎ



**ГЭТЫЯ ЛЁГКІЯ І АЖУРНЫЯ ХЛЕБНІЦЫ, СУХАРНІЦЫ, КОШЫКІ З ПРУГКАЙ І ГНУТКАЙ ЛАЗЫ.**




Цана 35 кап.

«Беларусь», 1989, № 5, 1—36.

Індэкс 74820.